**Сяргей Дубавец. ЯК? Азбука паводзінаў.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Віталь Тарас*
Карэктар *Настасься Мацяш*
Мастак *Генадзь Мацур*

Мадэлі сучаснай этыкі ад «А» да «Я» аўтар сабраў у энцыкляпэдыю паводзінаў: як бараніцца і як галасаваць, як даравацъ і як любіць, як сябраваць і як хітраваць? Няўжо разам з эпохамі зьмяняецца ня толькі сьвет вакол нас, але й нашы ўласныя ўяўленьні пра «вечнае», пра багацьце й беднасьць, геройства й прыстасаванства, а ўрэшце — пра дабро і зло?..



ISBN 978-0-929849-29-4

# Зьмест

# ЯК ДУБАВЕЦЬ?

**Выбраныя літары з тэксту, які яшчэ пішацца**

Як як Дубавец? Напрыклад, так:

Б — падлеткам прачытаць Шэкспіра па-беларуску і захапіцца мовай так, каб потым друкаваць на ёй падпольную літаратуру на абсталяваньні Менскага апэратыўнага палка Ўнутраных войскаў СССР.

NGO — за царом гарохам, калі яшчэ ніхто ня ведаў слова «NGO», стварыць зь нефармальнымі беларусамі сапраўдную «Майстроўню» і зусім не местачковых «Тутэйшых».

В — стаць менскім віленчуком, абараняць летувіскі парлямэнт ад савецкіх танкаў і атрымаць мэдаль «За адвагу».

Г — знайсьці ў нацыянальнай гісторыі найлепшае імя для газэты — «Свабода», год выдаваць яе і потым перадаць сябру, каб яна стала самым масавым незалежным выданьнем незалежнай Беларусі.

НН — адрадзіць затым «Нашу Ніву» так, што яе маглі б лічыць сваёй заснавальнік і рэдактар Аляксандар Уласаў, аўтар Янка Купала, стваральнікі БНР браты Луцкевічы.

П — пайсьці да паэта, які пасьля вершу пра аднаго вусатага знаўцу паэзіі паміраў у турме КДБ у сухой галадоўцы, і вярнуць яго да жыцьця.

Р — паглядзець на айчынную літаратуру, як францускія імпрэсіяністы на Лёндан, і паказаць тое, чаго не хацелі бачыць іншыя — ружовы туман.

С — дзевяць гадоў штотыдня выходзіць у этэр «Свабоды» з новай праграмай «Вострая Брама», якая адразу стала культам ягонай асобы.

Ь — выйсьці на суд за беларускую мову і перамагчы.

Ц — здавацца заўсёды цьвёрдым, бяз нэрваў, адчаю, трывогі і страху, аддаваць іншым свае ідэі й праекты, радавацца за іх посьпех і не сьпяшацца з асуджэньнем, памыляцца і папраўляцца, мець правільных ворагаў і невядомых прыхільнікаў і ня ведаць, што гэта і азначае — быць лідэрам пакаленьня.

? — у 50 гадоў напісаць кнігу, якая замест дубовых запытаў «хто вінаваты?» і «што рабіць?» задасьць магічнае і музычнае, такое неістотнае і такое біблійнае, галоўнае для свабоды, вайны і каханьня пытаньне — «як?».

І адказаць як чалавек, які любіць: так, як ты хочаш.

Так, як ты можаш.

Так, як найлепш.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*





# УВОДЗІНЫ

**«Як гадаваць трусоў?» — Калі б мы жылі 300 гадоў — Як будавалася «Як?» — Беларускае «як» і расейскае «как» — «Бірка»**

У гэтага кароткага слова доўгая гісторыя. «Як» — мы прамаўляем дзясяткі разоў на дзень, ня думаючы пра адбітыя ў ім асаблівасьці беларускага генэтычнага й духоўнага досьведу.

## «Як гадаваць трусоў?»

Варта разгарнуць слоўнік прыказак, каб пабачыць, што «як» — гэта прычынна-выніковая зьвязка, што злучае нашы думкі з учынкамі, агульную этыку з канкрэтнымі жыцьцёвымі абставінамі, маральнасьць неба з побытам зямлі.

Нешта робіш «як ачмурэлы», а нешта — «як арэх раскусіць». Вядома, што «якая справа, такая й слава». І, само сабой, «як гукнеш, так і адгукнецца». А ўсе разам гэтыя прыказкі аб'ядноўваюцца адным агульным — «як той казаў». І нікому ня трэба тлумачыць, хто ён, гэты той. Ягоны сьлед губляецца ў вяках, у дапісьмовай гісторыі.

...А пасьля было нацыянальнае адраджэньне, кніганошы і Багушэвіч, нашаніўская пара, пачатак 20-га стагодзьдзя, што пазначаны вялікай колькасьцю артыкулаў ды брашурак з характэрнымі назвамі: «Як выбіраць дэпутатаў у Гасдуму?», «Як мужыку палепшыць сваё жыцьцё?», «Як гадаваць трусоў?», «Як бараніцца ад халеры?», «Як багацеюць чэскія сяляне?». Нацыя ў масе сваёй паўставала не на закліках любіць Беларусь, а на практычнай навуцы жыцьця.

Сёньняшнія парады зь беларускага інтэрнэту гучаць у падобнай танальнасьці: «Як лёгка й проста пісаць лацінкай», «Як жывуць беларусы ў Казахстане», «Як навесіць дзьверы і ўрэзаць замок»...

## Калі б мы жылі 300 гадоў

Пішучы пра розныя праявы жыцьця сучаснага чалавека, я заўважаю, што многае ў гэтым жыцьці — добрае ці благое, плённае ці стратнае — унівэрсальнае.

Ці не ўзьнікала ў вас такога пачуцьця, што нейкага чалавека вы ўжо бачылі? Прычым, з узростам такое мярэсьціцца ўсё часьцей. Магчыма, рэч у тым, што людзі, як правіла, належаць да пэўных тыпаў, колькасьць гэтых тыпаў не бясконцая, і гэта не знаёмага вы сустрэлі, а тып. Можа быць, жывi мы трыста гадоў, тады ўвогуле пачалі б спрэс бачыць толькі «знаёмых».

Але тое самае адбываецца і з уяўленьнямі ды паводзінамі. Чым болей іх мы ведаем, тым менш сярод іх унікальных, бо яны таксама тыпізуюцца. І цяпер чалавеку, які пражыў доўгае жыцьцё, не складана прадбачыць, як той ці іншы тып будзе паводзіцца ў тых ці іншых абставінах.

## Як будавалася «Як?»

Складаючы гэтую сэрыю эсэ, за словам «як» я ставіў дзеяслоў, што азначае пэўны працэс і вызначае паводзіны й пазыцыю чалавека. Абстрактнае абавязкова павінна адбівацца ў канкрэтным, як нябеснае — у зямным. У выніку склаўся альфабэт мадэляў сучаснае этыкі.

Як адбыцца, бараніцца, даравацць, жыць, застацца, казаць, любіць, прыстасоўвацца, рабіць, спрачацца, укараняцца, фундаваць, яднацца... Усе гэтыя нібыта агульныя панятні зусім канкрэтна праяўляюцца ў жыцьці, уплываюць на яго й на будучыню.

У беларускім слоўніку няма дзеясловаў на мяккі знак або «ы», але ў гэтай кнізе ёсьць і гэтыя літары, бо яны ёсьць у беларускай этыцы, і адносіны да іх уплываюць на наш сьветапоглядны выбар.



## Беларускае «як» і расейскае «как»

Часта нашы этычныя стэрэатыпы, сфармаваныя яшчэ савецкім альбо вясковым выхаваньнем, уваходзілі ў нязгоду. Напрыклад, прыстасоўвацца — кепска, але й вылучацца з натоўпу — таксама. Мець маёмасьць — кепска, але й жыць пустадомкам — таксама... Сёньня такія парадоксы беларускай сьвядомасьці робяцца атавізмам. Бо новы час сьцьвярджае: ды зусім някепска быць багатым. Беднасьць — ня доблесьць.

«Як», дарэчы, адрозьнівае беларускі клопат ад расейскага, дзе такога кшталту пытаньне ставіцца па-іншаму: ня «як рабіць?», а — «што рабіць?». Гэта сьведчыць пра большую ўвагу расейскага чалавека да выбару самога ўчынку, а не яго характару. Тут — наступства і гістарычнага шляху, калі беларусам найчасьцей выпадала выбіраць менавіта «як», а ня «што», і спэцыфікі культуры, якая не магла мяняць абставіны й толькі падладжвалася да іх.

Расейская душа пачуваецца глябальна ў глябальным сусьвеце й таму ня надта прыжываецца на беларускай глебе, што часам даводзіць да канфлікту — як у апавяданьні Максіма Гарэцкага «Бірка».

## «Бірка»

Гісторыя тая адбывалася яшчэ за царом, калі настаўнік асмолаўскай школкі, надта «прадзьвінуты» чалавек, вырашыў адвучыць вясковых дзяцей ад «брыдкіх» беларускіх словаў. Толькі нехта скажа такое слова, яму зараз жа ўручаецца бірка, пасьля ўжо ён сам пільнуе, хто з таварышаў скажа «брыдкае» слова, і перадае бірку яму. І такім чынам хто да абеду застаецца зь біркай, той застаецца без абеду.

«Той, хто вучыўся ў асмолаўскай школе граматы за гэтым настаўнікам, або «гаспадзінам вучыцелем», пэўна, да самай сьмерці будзе ведаць, што

за штучка была бірка, яго выдумка… Колькі з-за яе пралілося горкіх дзяціных сьлёз, колькі выдзерта віхроў, пабіта рук лінейкамі, намуляна бедных кален гарохам і колькі сварак адбылося між самымі лепшымі таварышамі».

На драўлянай бірцы, якую прыдумаў настаўнік-русіфікатар, было напісана 12 беларускіх словаў, што найбольш рэзалі ягоны даткліві слых: «як», «дык», «хай», «ёсьць», «няма», «нічога», «ён», «казаў», «але», «дабрыдзень», «добра», «дрэнна». Асабліва каралася ўжываньне трох першых словаў — «як», «дык», «хай».

Скончылася апавяданьне тым, што школьнік Міхалка зламаў на вачах у настаўніка ненавісную бірку й быў адлічаны з вучняў. Затое мог без праблемаў гаварыць сваё «як», ня ломячы ані мазгоў, ані языка.

Адрозна ад той біркі мая «азбука паводзінаў» ня мае на мэце ані прымушаць, ані навучаць. Гэта — пытаньні да сябе, якія часам задае сабе кожны з нас. Заўважу толькі, што, апісваючы пазытыўныя прыклады, я імкнуся ўбачыць іх унівэрсальнымі.

Мне вядомыя выпадкі, калі мае сучасьнікі наўмысна выбіралі шлях крыўды, няўдзячнасьці або здрады. Дзеля самаапраўданьня яны таксама хацелі б, каб іх паводзіны ўспрымаліся нармальна — як праўда. І я бачыў, што такія людзі хутчэй знаходзяць разуменьне ў іншых, чым тыя, хто старамодна заклікае ня здраджваць і ня крыўдзіць. А як ты хацеў, каб было ў наш прагматычны час? Калі ты на кагосьці не наступіў, дык заўтра наступяць на цябе…

Гэткая філязофія мае нямала прыхільнікаў. Але паспрабую сьцьвердзіць іншае: можна жыць з карысьцю для сябе й сваіх ідэалаў, пры тым бяз шкоды для іншых.



# Л

## a

# ЯК АДБЫЦЦА?

**Гульня з часам — Грыша і космас — Пра што пісаць песьні Вольскаму? — Талент не трава**

У школе я быў з тых вучняў, пра якіх настаўнікі кажуць: можа, але ня хоча.

Пасьля ўсё пайшло па-іншаму. Але тады, у школе, побач было шмат тых, хто і мог і хацеў, хто вучыўся на выдатна й выдатна ведаў, куды паступіць і кім будзе, хто быў адораны й каму ўсё давалася лёгка, хлопчыкі-мажоры, дзевачкі-прыпевачкі, будучыня якіх уяўлялася ўзорнай, яснай і пасьпяховай...

Але вось самы першы жыцьцёвы парадокс, спазнаны на ўласным досьведзе: куды яны ўсе падзяваліся? І самая першая выснова: школа — яшчэ ня тое месца, дзе ты робіш сябе сам. А кніжкі й фільмы на школьную тэматыку, дзе вучань «выяўляе характар» — фантомы, як і само праяўленьне характару, бо ў школе табой неразьдзельна валодае сытуацыя, і калі ты пачаў сваё самастойнае жыцьцё яшчэ ў школе, гэта зусім ня значыць, што зь цябе нешта атрымаецца ў далейшым жыцьці. Бо ты пачаў адбывацца ня ў час.

## Гульня з часам

Ня ў час — самая галоўная прычына, каб не адбыцца. І наадварот, першая перадумова адбыцца — своечасова.

Калі школа засталася ззаду і ты ўжо паўнавартасны фігурант гэтага жыцьця, пачынае дзейнічаць навука чужога досьведу: не адкладай на заўтра, рабі да канца. Спартоўцы й артысты кажуць, што трэба своечасова сысьці, пэнсіянэры цешацца, калі пэнсія «воўрамя».

Літаратурны прыклад. Калі б Багдановіч напісаў столькі, колькі Купала, а Купала столькі, колькі Багдановіч, мы напэўна ня мелі б ані Багдановіча, ані Купалы — такімі, якіх маем.

Расстраляныя ў 1937-м паэты, хоць іхныя кніжкі й пачалі выходзіць зноў у 1960-я гады, так і не вярнуліся ў той іпастасі, у якой меліся адбыцца. Ня будзь тых расстрэлаў, па-іншаму выглядала б карціна беларускае літаратуры сёньня. Тыя, каго не расстрэльвалі, апынуліся б на іншых месцах.

Адбыцца — гэта гульня з часам (каб у час) і з сабою, калі пачатае мусіш дарабіць да канца.

## Грыша і космас

Знаёмы студэнт сыходзіць з трэцяга курсу ў трэцім унівэрсытэце. Захапіўся — пагас, захапіўся — пагас... Кім, Грыша, ты хочаш быць? Касманаўтам — кажа расьсеяна, як расьсеянае ягонае жыцьцё. Ужо ня слуп сьвятла, а сяйво. З гэткім пагаслым позіркам ён ужо ніколі ня будзе нікім. Дакладней, намінальна будзе, але сутнасна — не. Ну што ж, харошы чалавек, як





у нас кажуць, гэта самае галоўнае. Каб чалавек быў харошы.

Адбываецца сьпісаньне Грышы ў фон, туды, куды раней сьпісаліся мае хлопчыкі-мажоры й дзевачкі-прыпевачкі, якія даўно ні да чаго не парываюцца, даўно махнулі рукой на той найвялікшы падарунак, якім адарыў іх Божанька — на жыцьцё. Яны даўно не жывуць, а дажываюць. Шкада.

Праўда, большасьць сканчае свой першы ўнівэрсытэт і таксама не становіцца нікім. Але ў іх болей шанцаў, бо сьпіраль іхнага жыцьця зрабіла першы поўны абарот. Іхнаю воляй. І цяпер ёсьць надзея, што зробіць другі, трэці, чацьвёрты...

## Пра што пісаць песьні Вольскаму?

Ідэі перапаўняюць розумы маіх суайчыньнікаў. Але большасьць мяркуе, што гэтыя ідэі павінен увасобіць нехта іншы. Гэта нармальна. У структураваным заходнім грамадзтве людзям і плацяць — за ідэю. Ідэя — гэта ўжо завершаны прадукт. Але наша грамадзтва ў такім сэнсе не структураванае. Хочаш гэта рабіць? — рабі.

Мне шкада сяброў, якія проста фантануюць ідэямі. А давай, каб БНФ зрабіў... А няхай бы Мілінкевіч пайшоў... А вось бы кніжку выдаць, не, лепш аўдыёальбом... На адным сайце нават прыдумалі апытанку — пра што пісаць песьні Вольскаму? Дзясяткі людзей гатовыя раздаваць ідэі. Толькі нічога ад гэтага ня робіцца (і песьні Вольскага ад гэтага не нараджаюцца).

Але й гэта не канец. Прыдумай ідэю, зрэалізуй яе і (цяпер трэцяя стадыя) давядзі да канца.

Паступіў (ой, не туды!) — давучыся. Пачаў «праект» — дарабі, а не хапайся за іншае. Да-ра-бі. Няміла табе? Але калі ты браўся за гэта — душа сьпявала, праўда? Дык дай ёй дапяяць.

### Талент не трава

І вось — нацыянальная ідэя. Ідэя — рэалізацыя — вынік. Ці хто-небудзь ішоў такім шляхам? Паводле выніку можна меркаваць, што не.

Калісьці мне здавалася, што ўсе людзі таленавітыя, як травінкі, і «талент заўжды праб'ецца». А яно так і ня так. Хтосьці падказаў, нехта падтрымаў, грашыма ці добрым словам... А калі не?

Калі не, трэба самому быць супэргероем...

Колькі ўсіх не адбылося, не адбываецца й не адбудзецца!.. Патэнцыйна — лепшых за тых, хто сёньня на топе.

Кажуць вось, Сыс адбыўся. Сам. Але гэта рэдкае выключэньне.

Між тым, ствараюць такіх супэргерояў сотні людзей, не настолькі публічных, па ўсёй краіне. І не адбыцьцё Сыса робіць Беларусь сабою. А адбыцьцё гэтых соцень і тысяч, якія, зламаўшыся на нейкім этапе свайго жыцьця, пакорліва сышлі ў фон. Хоць, па ідэі, ніякага фону не павінна быць. Мусіць быць ня фон, не насельніцтва, ня маса, а народ, у якім кожны відзён, кожны штодня адбываецца (у час і да канца). Тады адбываецца ўся нацыя.



6

# ЯК БАРАНІЦЦА?

**Захад не дапаможа — Хто мы? — Права на адметнасьць — Права на паходжаньне — Права на годнасьць**

Калі разабрацца, дык правы й свабоды чалавека, якія мы называем фундамэнтальнымі, не такія ўжо і ўнівэрсальныя.

Ну вось, што такое права на працу ці адукацыю? Не падпісалі з табой кантракту або няма грошай на вучобу — усё нібыта законна й аб'ектыўна, і ніякіх тваіх правоў. Або права на мітынгі ды сходы ці права на інфармацыю? Не заўсёды й зразумееш, дзе яно, тваё права, парушаецца, а дзе — не. Або — права на жыцьцё. Тут увогуле чыстая абстракцыя.

## Захад не дапаможа

І заўважце, гаворка не пра тое, што ўлада ня ўлічвае ўнівэрсальных правоў і свабод чалавека. Як яна можа гэта ўлічваць, калі сам чалавек не разумее практычнага сэнсу гэтых правоў і свабод? «На чорта нам тая свабода!» — хіба не

даводзілася вам чуць такое? Некаторыя з такіх воклічаў хуценька робяць выснову: народу камфортна ў рабстве, ці наогул: народ — быдла.

Але давайце глядзець праўдзе ў вочы. Ніхто ніякага рабства не жадае і ніхто тут ня быдла. Проста ўнівэрсальная дэклярацыя правоў і свабод у нашым выпадку не такая ўжо і ўнівэрсальная. Людзі ж вакол — нармальныя, і жаданьні ў іх нармальныя, і бараніць свае фундамэнтальныя правы й свабоды хочуць і будуць, толькі ня тыя ці ня так названыя, як ва ўнівэрсальнай дэклярацыі, а нейкія свае, сабе зразумелыя, па-свойму сфармуляваныя.

Так адбываецца таму, што мы карыстаемся фармулёўкамі, лякаламі й абгорткамі правоў і свабод чалавека, створаных на Захадзе й не адаптаваных да нашае глебы. Магчыма, калі б інсьпірацыя абароны правоў чалавека сыходзіла аднекуль з гушчыні беларускага народу, яна б мела нейкі іншы, зразумелы гэтаму народу выгляд і эфэкт.

Бясьсільле чалавека перад сыстэмай — у самім чалавеку, а не ў сыстэме.

Любая дзяржава будзе прыгнятаць датуль і да такой ступені, пакуль і да якой ступені прыгнечаныя не зразумеюць, хто яны такія, чаго ім трэба і што іх у іхных патрэбах абмяжоўваюць ды прыгнятаюць.

### Хто мы?

Калісьці, гадоў трыццаць таму, яшчэ ў савецкім войску я зладзіў такі экспэрымэнт. Я спытваў у салдатаў: хто ты? Вынік атрымаўся мэтафарычны й часта прыгадваецца мне дагэ-





туль. Дык вось. Эстонец і кіргіз адказалі адпаведна: эстонец і кіргіз. Расеец сказаў: чалавек. А беларус сказаў: сяржант.

Гэта значыць, што беларус часьцяком атаясамлівае сябе не з народам і культурай, а з функцыяй, якую ён выконвае ў соцыюме. У такім выпадку ягонае ўяўленьне пра свае правы й свабоды абмяжоўваецца рэглямэнтам гэтай функцыі — раскладам заняткаў, распарадкам працы, службовымі абавязкамі. І што сэнсу заклікаць такога чалавека да нейкіх там свабод? Толькі тады, калі чалавек пачынае атаясамліваць сябе з пэўнай культурай (ці субкультурай), у яго зьяўляюцца патрэбнасьці па-за межамі вызначанага рэглямэнту. А каб зрэалізаваць гэтыя патрэбнасьці, яму й неабходныя пэўныя правы й свабоды.

Мы мусілі б першым чынам дапамагчы чалавеку разгледзець у сабе сябе. Гэта й ёсьць на сёньня галоўнае фундамэнтальнае права чалавека ў Беларусі — права на самаідэнтыфікацыю.

Між іншым, гэта першая рэч, якой не разумеюць інсьпіратары з Захаду, дзе права самаідэнтыфікацыі нават не разглядаецца, бо здаўна ляжыць у аснове афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі. Адпаведна, такая праца не фінансуецца. Адпаведна, такую працу ніхто й ня робіць, бо адразу пераходзяць да ўнівэрсальных правоў таго, ня ведаю каго.

### Права на адметнасьць

У нас жа афіцыйная палітыка, са свайго боку, усімі сіламі не дае гэтаму фундамэнтальнаму праву зрэалізавацца. У адрозьненьне ад шведа,

паляка ці літоўца, беларусу прыйсьці да асэнсаваньня сябе беларусам дапамагае толькі выпадак. Вось большасьць нашых супляменьнікаў і не самаідэнтыфікуецца.

А гэта што значыць? Што чалавек застаецца ў межах рэгляманту сваёй сацыяльнай функцыі, дзе такія паняткі, як права на жыцьцё, працу, уласнасьць, сходы ці інфармацыю нічога ня значаць, бо ня маюць зачапленьня з рэальным жыцьцём чалавека. Ён не разумее іх, а яны не знаходзяць яго, каму яны маглі б спатрэбіцца.

У выніку чалавек звыкаецца, што нічога ў гэтым жыцьці ад яго не залежыць — ні выбарная ўлада, ні заробкі, ні кошты на бэнзін. Бо ў межах функцыі гэта й сапраўды ад яго не залежыць, а хто ён па-за тымі межамі, ён ня ведае.

### Права на паходжаньне

Людзі, якія прыяжджаюць з захаду Эўропы ці са Штатаў, са зьдзіўленьнем расказваюць, што тамтэйшыя насельнікі ведаюць па дваццаць пакаленьняў сваіх продкаў. А ў Менску вы лёгка сустрэнеце таго, хто ня ўспомніць, як звалі яго прадзеда і зь якой мясцовасьці іхны род. Ну й якія яму правы?

Рэстытуцыя ў Беларусі немагчымая ведаеце чаму? Не таму, што «ўлада ніколі на гэта ня пойдзе». А таму, што ніхто не захоўвае доказаў колішняе ўласнасьці сваіх продкаў. Больш за тое, нікому і ў галаву ня прыйдзе зьвярнуцца ў архіў. Бываюць выключэньні, але правіла выглядае менавіта так.

І тое, што большасьць беларусаў называюць сябе беларусамі, у сэнсе самаідэнтыфікацыі





значыць ня больш, як бірка на назе. Беларусы сябе беларусамі ня знаюць, не ўсьведамляюць, бо гэтага не патрабуецца ў іхным жыцьці. Маторыка, інстынкты, фізіялягічныя патрэбы — вось чаго найперш патрабуе ад беларуса начальнік ягонай функцыі.

Ёсьць яшчэ субардынацыя — стой там, дзе паставілі. Але субардынацыя — не самаідэнтыфікацыя.

Ёсьць яшчэ нейкія асновы этыкі, якім вучылі ў дзяцінстве і якія ў даросласьці ператварыліся ў правіла: быць як усе, ня горшым за іншых, не высоўвацца (за межы функцыі). Але быць як усе — ня значыць быць знаёмым з самім сабой.

### Права на годнасьць

Усьведамленьне сваіх правоў неразрыўнае са словам «годнасьць». З гэтага пачынацца чалавек як суб’ект нацыі й грамадзтва.

Самы абстрактны пункт нашага заканадаўства — абраза гонару й годнасьці, бо ніхто ня ведае, што гэта такое. Напрыклад, ці ёсьць у гонару й годнасьці межы? Ніхто ня можа дакладна сфармуляваць, бо ня можа дакладна сфармуляваць сябе.

Але пры тым абраза годнасьці выклікае ў беларускай душы супраціў, які не прыглушыш ніякімі рацыянальнымі меркаваньнямі, што часьцяком практыкуецца ў людзей з Захаду.

Менавіта прыніжэньне годнасьці — прафэсійнай, чалавечай, нацыянальнай — магло б выклікаць беларускі пратэст у большай ступені, чым якое-небудзь зьніжэньне заробкаў бюджэтнікам, ці ўвядзеньне кантрактнай сыстэмы, ці скаса-

ваньне ільготаў. І гэта ня сьведчаньне нашай адсталасьці ад заходняга прагматызму, а сьведчаньне нашай адметнасьці. Мы крыху іншыя, і трэба думаць, пра што з намі гаварыць.

У адрозьненьне ад заходняй цывілізацыі, якая даўно ня толькі прайшла стадыю фармаваньня нацыяў, але й пасьпела забыцца, што гэта такое, беларусы яшчэ фармуюцца, таму шмат што ў іхным грамадзкім самапачуваньні дыктуецца генэтыкай, якая шчыльна зьвязаная з прыродай і зь неўсьвядомленым. Варта крыху адпусьціць ланцугі сацыяльнай функцыі, і беларускі чалавек зараз жа пачынае намацваць самога сябе ў гэтым — у сваіх адчуваньнях, памяці дзяцінства ці пахах раньняе восені.

Чалавек пачынаецца з паходжаньня й сканчаецца ў межах сваёй адметнасьці ад іншых. Так можа выглядаць тэрыторыя ўжо не чалавека-функцыі, а чалавека-беларуса, на якой знойдзецца месца і ўнівэрсальным чалавечым свабодам і правам.



# В

## ЯК ВАРАГАВАЦЬ?

**Хто нашы ворагі? — Варагаваць на роўных — Варагаваць адразу — Рэцэпт Багдановіча — Варагаваць да перамогі**

Калі ўжо варагаваць, дык адкрыта.

Хоць лепей бы не варагаваць. Але заўсёды знаходзяцца людзі, якія бяз ворагаў жыць ня могуць. Не пасьпееш дагаварыць фразу, як ты ўжо камусьці вораг. Мабыць, гэта такі спосаб вытлумачэньня ўсіх праблемаў, калі вакол — ворагі. Трэба іх зьнішчыць, і ўсё наладзіцца.

Той, хто варагуе адкрыта, рызыкуе «нарвацца», але й мае шанец перамагчы ўласную варожасьць.

Той, хто варагуе таемна, займае гэтым большую частку свайго жыцьця. Ён не задумваецца над тым, што, як казаў Франсўа дэ Ля Рошфуко, «самае вялікае зло, якое можа прычыніць нам вораг, гэта прывучыць наша сэрца да нянавісьці». У таго, хто варагуе таемна, нянавісьць не пакідае сэрца.

## Хто нашы ворагі?

*A priori* ніхто ня вораг. Заўсёды з усімі й пра ўсё можна гаварыць. Нават асабістая або ідэйная няпрыязь пераадольваецца размовай, калі ёсьць супольная мэта ці супольны інтарэс. Калі іх няма, тады найлепш перайсьці на іншы бок вуліцы, каб жыцьцё не сутыкала з тым, каму ты вораг. А калі ўсё ж сутыкае?

У знакамітым «палюбі ворагаў сваіх», напэўна, і хаваецца гэты інструмэнт — гавары і слухай, імкніся зразумець. Найлепшы вынік прыносіць размова, якую ты пачынаеш з жаданьнем быць перакананым сваім апанэнтам.

Той самы Ля Рошфуко заўважыў: «Думкі нашых ворагаў пра нас бліжэй да ісьціны за нашы ўласныя». Не скажу, што гэта аксіёма, але гэта той кірунак, у якім варта асэнсоўваць сытуацыю.

Ёсьць адна ўмова — гаварыць трэба, прынамсі, ветліва. Людзі, якімі рухае раздражненьне й нянавісьць да апанэнта, кіруюцца не жаданьнем быць перакананымі, а прагай зьнішчэньня — «я хачу, каб цябе не было!». Калі зірнуць на сёньняшні інтэрнэт, мы пабачым, колькі там раздражненьня й нянавісьці ананімаў.

Агульным месцам стала тое, што ў Беларусі вораг усяго беларускага і дэмакратычнага — рэжым. Рэжым, як і належыць аўтарытарнай уладзе, нарадзіўся, усталяваўся й трымаецца на выяўленьні ворагаў: карупцыянэраў, апазыцыі, Захаду... Трэба сказаць, што на дзевяноста адсоткаў гэта рыторыка папулізму, а не рэальнае варагаваньне.





У таталітарнай дзяржаве рэжым варагуе супраць асобы. Тады зьяўляецца тэрмін «вораг народу». Але народ не варагуе, бо яму бліжэй стан замірэньня, прыстасаваньня да абставінаў, нармальнага жыцьця.

## Варагаваць на роўных

Нават калі ты адзін, а твой вораг — дзяржава. Варта згадаць дысыдэнтаў 1960-х, якія сілай духу маглі супрацьстаяць таталітарнай сыстэме — на роўных. Прыклад такіх дачыненьняў дала сваім жыцьцём Ларыса Геніюш.

Пра сёньняшніх апанэнтаў рэжыму такога ня скажаш. Але менавіта роўнасьць надае варагаваньню зь дзяржавай сэнс.

Зусім незразумелыя паспалітаму беларускаму вуху спрэчкі вядуцца пра тое, ці дапамагаць рэжыму (што пры розных вагавых катэгорыях уявіць цяжка), ці зьнішчыць рэжым (што таксама неймаверна, бо ніколі не ўдакладняецца — як).

Сёньня рэжым — гэта сыстэма ўлады, якая кантралюе сытуацыю ў краіне і складаецца з тысяч людзей, якія гэтую ўладу ажыцьцяўляюць, нават пры тым, што ставяцца да гэтага рэжыму крытычна. Тады што значыць — зьнішчыць рэжым?

Зрабіць рэвалюцыю? Скінуць дыктатара? Мы так даўно гэтага хацелі, што цяпер болей думаем пра іншае — гэтых скінем, а каго паставім?

Занадта шмат часу прайшло з 1996 году, і сёньня кожны, хто жыве на бюджэтныя грошы — крыху «рэжым».

## Варагаваць адразу

Адна рэч, калі «рэжым здае незалежнасьць», і зусім іншая — 15 гадоў паўтараць, што рэжым — гатовы здаць. Ён яе пакуль што ня здаў, бо яму гэта пакуль што нявыгадна, але ён кожную хвіліну можа гэта зрабіць! І так 15 гадоў...

Лягічнае пытаньне — а што гэтыя 15 гадоў рабіў ты? Ці ты ўчыніў нешта сэнсоўнае, каб запабегчы такому ганебнаму кроку рэжыму? Ці табе будзе дастаткова таго, што зараз увядуць расейскі рубель і ты скажаш: ну вось бачыце! Рэжым і напраўду варожы! Што я казаў усе гэтыя 15 гадоў?..

Ты скажаш: з рэжымам размаўляць немагчыма. Яно так і ня так. Зразумела, што рашэньне пра рубель прымае адзін чалавек, якому на першым месцы — ягоная асабістая ўлада. Але ўжо гэтага дастаткова, каб ты мог пачаць сваё поле дзейнасьці — у цябе ёсьць зададзеныя абставіны і цэлая краіна зь яе народам. Твая задача — захаваць незалежнасьць і пашырыць працэс нацыянальнага адраджэньня. Ёсьць абставіны, ёсьць задача і ёсьць ты сам. Рабі. Ці ты чагосьці дасягнуў за гэтыя 15 гадоў? Толькі не спасылайся на абставіны — ты іх ведаў ад пачатку. Дзе эфэкт ад тваёй працы? Ці ты ўсё гэта кажаш таму, што проста ня можаш жыць бяз ворагаў?

## Рэцэпт Багдановіча

Пасьля публікацыі на сайце Радыё Свабода папярэдняга эсэ, нехта БелаЭмігрант напісаў, што супраць беларусаў існуе стратэгічны курс,





каб сьцерці самую памяць пра іх. Нават калі так, беларусы мусілі б аб'ядноўвацца супраць варожага курсу, а не варагаваць паміжсобку.

Я згадаў рэцэпт, які ўтрымліваецца ў Багдановічавай «Пагоні». Там не гаворыцца — зьнішчайце выраджэнцаў, ці — мяшайце іх з гразёю, ці — ствараймце вакол іх сытуацыю сваркі й інтрыг. Там гаворыцца: біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць. Калі гэтыя словы ўспрымаць літаральна, мы ўбачым, што вакол нас ня ворагі, а патэнцыйныя паплечнікі, толькі іх, неабуджаных, трэба абудзіць.

## Варагаваць да перамогі

Перамога тут можа быць адна — канец варагаваньня. Ня мір і ня дружба, але спыненьне варожасьці. Зноў згадаю Ля Рошфуко: «Замірэньне з ворагамі кажа толькі пра стомленасьць ад барацьбы, пра боязь паразы і пра жаданьне заняць больш зручную пазыцыю».

Вось чаму гаворка ідзе не пра замірэньне з рэжымам, а пра канец варожасьці ў грамадзтве. Калі грамадзтва ўспрыме ідэі апазыцыі не як варожыя, а як альтэрнатыўныя, — гэта й будзе канец варожасьці, гэта й будзе перамога.

Як у прыватных дачыненьнях, так і ў адносінах з рэжымам варагаваньне мусіць ператварыцца ў спаборніцтва — за больш прывабныя ідэі, выніковыя ўчынкі й сымпатыі людзей.

# ЯК ВІЛЬНЯВАЦЬ?

**Адчужэньне сябе — Вільня не замежжа — Барацьба фізыкі з мэтафізыкай — Прышчэпка ад русіфікацыі**

Бываць у Вільні, думаць пра Вільню, жыць у Вільні — тое, што я назваў словам *вільняваць* — абавязковая ўмова беларускае нацыянальнае, мэнтальнае, культурнае паўнавартасьці.

Ведаю на Астравеччыне такую суполку — «Вільняр». Вільняр — ад Вільні. А што вільняр робіць? Вільнярыць, робіць Вільню. «Рабі пільна, і тут будзе Вільня», — старая прымаўка, якая лепш за любыя факты кажа нам пра тое, што значыць для беларуса Вільня. Прыклад, арыенцір, «куток жаданьняў».

Але Вільня ў сэрцы — вядомая, зразумелая й даступная нам праз усю гісторыю — каб не згубіцца сёньня, мусіць дапаўняцца Вільняю наяве.

## Адчужэньне сябе

Чэслаў Мілаш піша, што слова «Вільнюс» у літоўскай мове зьявілася толькі ў 1918 годзе. Да нас яно прыйшло праз расейскую, дакладней, савецкую. Але для расейцаў, як і для палякаў, аддзяленьне Вільні не было перарэзанаю аортай усяго тысячагадовага духоўнага працэсу. Ім Вільня — страта каму дарагая, каму надзвычай дарагая, але не сьмяротная.

Тое, што Вільня ўпершыню за ўсю нашу гісторыю апынулася за мяжою, — гэта выпрабаваньне беларускае тоеснасьці, якое можа разбурыць яе, а можа, наадварот, умацаваць. Мы





становімся творчымі, калі ў нас ёсьць мара. Калі аблокі над намі складаюцца ў абрысы віленскага барока, калі вочы сьвецяцца так, як сьвяціліся ў нашых віленскіх асьветнікаў і герояў, калі проста думаеш пра тое, каб паблукаць у тых вулках ці пасядзець у кавярні, дзе прыходзіла натхненьне да Багдановіча і Купалы...

Словам, вільняваць — гэта каб захаваць сваю тоеснасьць, каб жыць зь ёю заўтра, каб яна была ня проста тваёй нацыянальнай прыналежнасьцю, а тваім натхненьнем і жаданаю марай. Зразумела, не для сябе захаваць, каб было, а каб трансьляваць яе супляменьнікам, сябрам, блізкім.

## Вільня не замежжа

І самой Вільні патрэбная наша прысутнасьць. Гэты спрадвеку мультыкультурны горад зладжаны прыродай і Богам так, каб у ім жылі ўсе — балты, славяне, габрэі, татары... Усе. Ужо ад самага пачатку гэта быў горад-суіснаваньне. Яшчэ да таго, як Гедымін пастанавіў будаваць Вільню. Яшчэ калі гэта была ня Вільня, а Крывы Горад, дзе ў пойме ракі гарэў балцкі зьніч, а побач, на гары, стаяў крывіцкі пасад. Тысячу гадоў таму. Колькі за гісторыю ні разбуралі Вільню, колькі ні забівалі яе жыхароў, колькі ні выгарала яна датла, колькі ні мянялася ўлада, усё адно — аднаўлялася Вільня ў сваёй мультыкультурнай сутнасьці.

Шкада, што сёньня вільняваньне многія беларусы ўспрымаюць як эміграцыю — толькі з-за наяўнасьці мяжы. Калі празь дзесяць,

дваццаць, пяцьдзясят гадоў мяжаператворыцца ў фармальнасьць або зьнікне зусім, акажацца, што Вільня — ніякае не замежжа, і што яна захавала сваю сутнасьць калейдаскопу культураў, толькі нас там ужо ня будзе, бо сьвятое месца пустым не бывае, і што наша месца заняў нехта іншы.

### Барацьба фізыкі з мэтафізыкай

У камэнтарах да эсэ з сэрыі «Як?» мне найчасьцей закідаюць тое, што аўтар жыве ў Вільні, за мяжой, у «дальнім», так бы мовіць, «зарубежжы», за сьцяной Эўразьвязу.

У 1990 годзе, калі мы канчаткова пасяліліся ў Вільні, быў яшчэ Савецкі Саюз, і пра дзяржаўныя межы, якія б падзялілі Беларусь і Літву, ніхто й думаць ня думаў. Адноўленая «Наша Ніва», дарэчы, таксама пачала выходзіць яшчэ ў СССР. Вільня была для менскае публікі адным з улюбёных месцаў для паездкі на дзень — як у кіно схадзіць. Ведаю шмат людзей, якія ўмудраюцца захоўваць для сябе гэтую традыцыю й сёньня.

Аўтобус зь Менску ў Вільню ішоў дзьве з паловай гадзіны (цяпер — чатыры). Бо гэта ўсяго 170 км. Ад сталіцы бліжэй, чым да самага блізкага абласнога цэнтру Магілёва (200 км). Арэал беларускае мовы пачынаецца ў першай падвіленскай вёсцы, а да сёньняшняй тэрыторыі РБ ад Вільні і ўвогуле 30 км.

Калі дадаць да гэтага, што ўся мяжа Беларусі й Літвы 650 км, што Віленскі край увесь населены ўперамешку беларускім і літоўскім людам,





што Вільня — былая сталіца ВКЛ, а пасьля — Заходняе Беларусі, што Віленшчына — гістарычны рэгіён цэнтраімклівага прыцягненьня Вільні — і сёньня яшчэ (у памяці, праўда) улучае беларускую тэрыторыю ў радыюсе больш за сто кілямэтраў — разам з Маладэчнам, дык стане зразумела, што ўся гэтая «фізыка» ўваходзіць у супярэчнасьць з мэтафізыкай новых гістарычных рэаліяў — дзяржаўнай мяжы, Эўразьвязу і «дальняга зарубежжа».

### Прышчэпка ад русіфікацыі

За апошнія дваццаць гадоў афіцыйная колькасьць беларусаў у Літве скарацілася ўдвая — да 37 тысяч. Гэта тлумачыцца ня толькі міграцыяй і натуральным сыходам, але й вобразам новай Рэспублікі Беларусь, якім ён сфармаваўся ў мясцовага «тутэйшага» насельніцтва. Калі б Менск выступаў для гэтых людзей у якасьці прывабнае й клапатлівае мэтраполіі, іх было б у дзесяць разоў болей. Але ёсьць тое, што ёсьць.

Большая страта — тое, што Вільня за гэтыя 20 гадоў быццам перастала быць для беларусаў духоўным цэнтрам, калыскай культуры й нацыянальнай ідэі, якой была на працягу стагодзьдзяў. Гэта зьвязана з тым, што віленскія беларускія актывісты натуральным чынам атрымалі літоўскія пашпарты й сталі дыяспарай, нацменшасьцю. У выніку радыкальна зьмяніўся вэктар іх дзейнасьці й самога мысьленьня. Калі яшчэ ў 1980-я гады яны ўяўлялі сябе нашчадкамі місіі Скарыны, Каліноўскага, «Нашай Нівы» і айцоў-заснавальнікаў БНР, гэта значыць — місіі

навонкі, для Беларусі, дык закон існаваньня дыяспары скіраваў іх на ўласнае выжываньне, прымусіў думаць найперш пра сябе. Што да місійных паводле прыроды сваёй віленскіх беларускіх установаў — школы, СМІ — дык яны толькі набіраюцца сілаў пасьля цяжкага пэрыяду «зьмены вех».

Па-сутнасьці, увесь комплекс віленскага духу й віленскіх фактаў — гэта тое, што ў нас саміх найбольш моцна супрацьстаіць расейскай асыміляцыі. Вільня — імунітэт беларуса ад таго, каб ператварыцца ў «тоже русского». Нездарма сёньняшнія русіфікатары так зацята змагаюцца менавіта зь віленскімі знакамі беларускай гісторыі й культуры.



# ЯК ВЫДАВАЦЬ?

**Самі сабе выдаўцы — Забіваць цьвікі мікраскопам — Хто такая Ала Кабаковіч? — Слоўнік сабачых імён — Канкурэнцыя**

У 1995 годзе, калі «Наша Ніва» пераяжджала ў Менск, нехта параіў мне знайсьці «круцяля», які б дапамог газэце разьвівацца.

Газэта мелася з элітарнага месячніка ператварыцца ў папулярны тыднёвік. І таму быў патрэбны таленавіты прадусар-выдавец, які б, дзякуючы прыроднай інтуіцыі й сувязям, прывёў наша прадпрыемства да посьпеху.

«Круцяля» я знайшоў. Патомны менскі габрэй узяўся за справу і... зьнік. Выйшла так, як часта выходзіць у Менску — стандартныя ўяўленьні не спрацоўваюць, а стэрэатыпы аказваюцца падманлівымі. Мой габрэй аказаўся запойным п’яніцам і адправіўся ў нірвану свайго менскага шчасьця. Спачатку, здавалася, ненадоўга, але выйшла — назаўжды.

## Самі сабе выдаўцы

Але ролю адсутнага прадусара ўсё адно мусіць выконваць нехта. Бо літаратуры пішацца шмат, адно за адным прыходзяць новыя пакаленьні аўтараў, а сувязь з рынкам і з чытачом — амаль на нулі. Прадукцыя пыліцца на складах. І там, на складах, яе ганяюць-перастаўляюць туды-сюды, і ўсё гэта з гікам-крыкам, з крэпкім словам-слэмам... А што рабіць? Адбываецца імітацыя абароту прадукцыі ў сьценах закрытага складу.

Аўтары самі сабе прадусары-выдаўцы. Але

вядомая тэза, маўляў, «у таленавітым чалавеку ўсё таленавіта» тут не спрацоўвае. Аказваецца, таленавіты творца — гэта, як правіла, кепскі прадусар з крывымі рукамі, кепскі рэдактар бяз навыкаў прафэсіі, кепскі выдавец, чыя прадукцыя ажыцьцяўляе ня ўзьлёт, а пасадку таленту, прычым назаўжды. Кніжка, якая павінна нібыта акрыляць, лягае мёртвым грузам усяго свайго накладу, нібы магільная пліта. Кніжка не выходзіць за межы гіпэрвузкага кола сяброў-літаратараў, бо яе няма каму адтуль вывесьці. Прадусара няма. А сам аўтар зрабіць гэтага ня можа, ня ўмее, дый не павінен.

Ясна, што знайсьці «круцяля» ў наш час усё больш цяжка. Але якраз у такой знаходцы — самы галоўны спадзеў беларускай літаратурна-выдавецкай справы. Хто вывезе яе прадукцыю са складоў? Хто наладзіць яе абарот на рынку? Хто пачне выдаваць ня толькі тое, што прыйшло само, але й на замову — тое, што можа мець посьпех у чытачоў?

### Забіваць цьвікі мікраскопам

Праблема №2 вынікае зь першай — няма крытыкі. Быў такі паважаны жанр і зьнік. Закрытыя ў памяшканьні складу гатовай прадукцыі крытыкі ператварыліся ў рэклямнікаў. Зразумела, што пішуць яны цікава й вынаходліва, нашмат лепш за сапраўдных рэклямнікаў. Але, як той казаў, можна й мікраскопам цьвікі забіваць.

Тым часам стала ў нас шмат паэтаў, і ніхто ня ведае, хто чаго варты. Ніхто не аналізуе, не параўноўвае, а калі й параўноўвае, дык як у тым





сацрэалізьме — добрае зь лепшым. І вырашылі самі паэты спаборнічаць: хто гучней прачытае верш, той і больш таленавіты. Паэты крычаць, кніжкі выходзяць на склад, крытыкі рэклямуюць… І ўсё адбываецца ў тым самым закрытым памяшканьні.

Калі няма крытыкі, гэта значыць, пэўных патрабаваньняў, зьнікае адказнасьць за словы, цярпіць доказнасьць, ірвецца пераемнасьць. У выніку нішто не прырастае, а ўвесь працэс ператвараецца ў прабуксоўку.

Нядаўна на адным літаратурным форуме ў сеціве прачытаў характэрную дыскусію. Зь нейкай нагоды згадвалася Ала Кабаковіч. А хто гэта такая? Ня ведаю, адказаў адзін літаратар. І я ня ведаю, адказаў другі. І я, азваўся трэці.

### Хто такая Ала Кабаковіч?

Думаю, можа, мне мярэсьціцца? Бо як ты займаесься беларускай літаратурай, прычым ня лірыкай ці фікцыямі, а ацэнкай ды аналізам, ня ведаючы сваіх папярэднікаў? Неістотна, што жылі яны на пакаленьне ці два да цябе. Ты мусіш ведаць і савецкіх, і антысавецкіх, і даваенных, і нашаніўскіх, і 19-га стагодзьдзя — усіх, хто ўдзельнічаў у літаратурным працэсе і ўплываў на яго. Інакш — пра што размова?

Таму, калі сустракаеш незнаёмае імя, не выяўляй свае дрымучасьці, лепш паспрабуй зараз жа запоўніць пустату. Вось што мяне зьдзівіла больш за ўсё. Сядзяць у інтэрнэце маладыя літаратары і прызнаюцца адзін аднаму ў няведаньні, хто такая Ала Кабаковіч. Замест таго,

каб набраць у шукалцы гэтае імя й атрымаць дастатковую інфармацыю.

Чаму так выходзіць? Лянота зазірнуць у Google?

Ёсьць звыклая схема функцыянаваньня ведаў. Скажам, было такое літаратурнае аб'яднаньне «Маладняк». Вялікае мноства твораў, свая крытыка, сотні лёсаў... Мацярык. І вось прыходзіць пэўны этапны аўтар, усё гэта вывучае й стварае літаратуразнаўчае падсумаваньне — кнігу пра «Маладняк». Цяпер літаратурнаму нэафіту не абавязкова пераворваць увесь мацярык самому, дастаткова прачытаць гэтую кнігу. А калі такой кнігі няма або яе напісалі абы-як? Тады мусіш усё вывучаць сам... З часам, калі пра «Маладняк» зьявіцца не адна, а некалькі кніг, прыходзіць чарговы этапны аўтар, які ўжо на іх падставе стварае падсумаваньне. І гэтак далей. Так выглядае схема пераемнасьці й разьвіцьця працэсу.

Сёньня ж мы назіраем спрэс адваротнае. Кожны нэафіт пачынае сваю дзейнасьць быццам спачатку, быццам ніколі не было ні «Маладняка», ні Алы Кабаковіч. Але ў выніку з чарговай зьменай пакаленьняў і ад таго нэафіта не застаецца ні знаку.

## Слоўнік сабачых імён

Прыяцель распавёў, як пару месяцаў таму (2009 год) нашы літаратурныя музэйнікі былі ўражаныя тым фактам, што ў Коўне жыве ўнук Марціна Кухты. Гэта ж адкрыцьцё! Унук друкара «Нашай Нівы», якога згадаў у вершы Максім Багдановіч — жывы!.. Між тым, падрабязнае інтэрвію з гэтым унукам гучала на Радыё Свабода ў 2003 годзе. Тады ж тэкст перадачы зьявіўся ў інтэрнэце, дзе яго можна знайсьці й сёньня, а яшчэ праз пару гадоў выйшаў у кнізе «Вострая Брама».





У журналістаў ёсьць такі жарт: нарэшце й наш карэспандэнт даведаўся... Прыведзеныя прыклады — быццам дробязь, але такіх прыкладаў робіцца ўсё болей. Магу згадаць пра адкрыцьцё месца пахаваньня Кастуся Каліноўскага, якое толькі на маёй памяці знаходзілі — о, эўрыка! — тры разы, і кожны раз на тым самым месцы. Ды цяпер амаль кожны дзень нехта зноў і зноў адкрывае публіцы Амэрыку. А таму нішто асабліва не разьвіваецца, ня рухаецца наперад, не прырастае.

Вось нехта выставіў у інтэрнэце пытаньне: як назваць сабаку па-беларуску? Ну, і ўвогуле, маўляў, давайце пагаворым пра гэта. Пачынаецца дыскусія — хто што ведае. А я згадаў, што колькі гадоў таму на сайце Litara.net быў цэлы форум пад назвай «Слоўнік сабачых імён» — з мноствам прыкладаў, сюжэтаў і нават з гісторыка-культурнымі развагамі пра выбар мянушкі як люстэрка мэнтальных асаблівасьцяў нацыі. Праверыў — ёсьць гэты форум у інтэрнэце, нікуды ня зьнік, і знайсьці яго зусім проста.

## Канкурэнцыя

Аднак недасьведчанасьць — гэта толькі наступства адсутнасьці крытыкі, дакладней, крытычнага поля, у якім сорамна было б выскокваць з даўно адкрытым адкрыцьцём. А поля няма, бо няма адпаведнае сыстэмы адукацыі, няма куль-

туры дыскусіі, а галоўнае — патрабавальнасьці ў выдаўцоў. А патрабавальнасьці няма, бо няма канкурэнцыі.

Сёньня газэты й часопісы стараюцца не сутыкацца на вузкай сьцежцы. Вось калега задумаў выдаваць нацыянальна арыентаваную газэту. І першае, што заявіў: «Мы ні ў якім разе ня хочам складаць канкурэнцыі «Нашай Ніве». Чаму? Ну, маўляў, каб усім было добра, хай кожны сядзіць у сваёй нішы.

А па выніку якраз і нядобра. Як ты будзеш разьвівацца, рухацца, зьмяняцца, калі параўнаць сябе няма з чым? Калі нішто не адцяняе твае слабыя й моцныя бакі? Калі няма спаборніцтва за аўтара й за чытача?

Можа быць, з канкурэнцыі й трэба пачынаць? І тады ў гэтым сутыкненьні кожны пачне шукаць сабе «круцяля»? І тады прадукцыя нарэшце выйдзе са складоў на рынак, а аўтары — да шырокае публікі? І тады адродзіцца паважаны жанр крытыкі?



# І

# Г

## ЯК ГАЛАСАВАЦЬ?

**Сьвята, урачыстасьць, буфэт... — За Валянціну Палевікову — Хто скраў наш выбар? — Галасуем за сябе**

Неяк «тэма выбараў» у нас цалкам затуліла сабою «праблему выбару».

Сумленныя-несумленныя, ісьці-здымацца, назіраньне-падтасоўкі... — усе гэтыя складнікі «тэмы», напэўна, важныя. Але сёньня яны такія, заўтра іншыя. Важна, каб за імі не згубілася «праблема» — навык шараговага выбарца, які складаецца ў навык усяго народу. Гаворачы толькі й выключна пра рыштаваньні, мы рызыкуем забыцца пра дом, для якога тыя рыштаваньні ўзводзяцца.

### Сьвята, урачыстасьць, буфэт...

Выбары — рытуал як для тых, хто галасуе, так і для тых, хто падлічвае галасы. Рытуал — гэта адзінае, што можа спыніць падтасоўкі галасоў, ня сёньня, дык у будучыні. Бо казаць праўду й не падманваць — гэта таксама рытуал, які мы

выносім са свайго выхаваньня, а выхаваньне — гэта й ёсьць навыкі.

Людзі ведаюць, што сёньня выбарчы рытуал носіць фармальны характар, як за савецкім часам. Але рытуальнасьць працэдуры дазваляе спадзявацца, што ў іншых гістарычных умовах выбары могуць адбыцца справядліва. Спадзявацца на тое, што застрашальную ролю тут адыграе крымінальная адказнасьць за падтасоўку вынікаў, не выпадае, інакш падтасовак не было б і сёньня. Таму зусім не такім пустым выглядае антураж рытуалу выбараў — сьвята, урачыстасьць, буфэт... ВЫБАРЫ.

### За Валянціну Палевікову

Вось мы надумаліся выканаць свой грамадзянскі абавязак. На шчасьце, сярод цалкам невядомых і нецікавых кандыдатаў на нашым участку знайшлося імя Валянціны Палевіковай. На Плошчы ў 2006-м яна паводзілася сапраўды гераічна, значыць, з выбарам у нас праблемаў ня будзе.

Стоп! Аказваецца, Валянціна Палевікова зьнялася з выбараў.

Разумею, што ў апазыцыйных кандыдатаў шмат прычынаў, каб пакрыўдзіцца на ўладу. Але ўладзе ад таго, што яны здымаюцца з выбараў... Можа быць, камусьці наверсе гэта й нявыгадна, але што выбарчым камісіям прасьцей, дык пэўна. Атрымліваецца, што нашага выбару спн. Палевікова пазбавіла нас, сваіх выбарнікаў. Бо галасаваць за іншых кандыдатаў, якіх нам прапануюць, — усё адно, што супраць сябе.





### Хто скраў наш выбар?

Заўважу, тут гаворка не пра тое, ці прайшла б яна ў парлямэнт. І не пра тое, што адмовілася ад свайго права «быць выбранай». Яна пакінула нас бяз нашага права выбіраць, адчуваць, што не пакрывіў душой, згадваць на працягу наступных гадоў: «А мы галасавалі за Палевікову, гэта такая й такая ёсьць у Беларусі жанчына, яна, вядома, не прайшла, але ж вы разумееце, што гэты парлямэнт нічога не вырашае». — «Сапраўды, не вырашае. Як, вы кажаце, завуць тую жанчыну? Палевікова Валянціна? Трэба запомніць, за каго галасаваць...»

За каго ж галасаваць?

Адказ можа быць ад адваротнага. Напрыклад, няма сэнсу галасаваць за таго, пра каго нічога ня ведаеш.

Нельга аддаваць голас за кандыдатаў, якія не валодаюць беларускай мовай. Па-першае, гэта сьведчыць пра іх агульны інтэлектуальны ўзровень, па-другое, — пра вартасьць іх патасных словаў пра Радзіму і патрыятызм, па-трэцяе — пра адносіны да беларускага парлямэнту, як да чыста бутафорскага ўтварэньня. Яны могуць не карыстацца моваю (кар’еры сёньня на ёй ня зробіш), але валодаць — абавязаныя. Урэшце беларускамоўны выбарнік — ня іншаплянэтнік на сваёй зямлі й павінен мець магчымасьць размаўляць з дэпутатам на адной мове.

Цяпер — пра навык, пра самую сутнасьць выбарчага працэсу, пра «праблему выбару». Гэта ўнівэрсальны прынцып, калі наш выбар тлумачыцца тым, што мы галасуем за сябе.

## Галасуем за сябе

Напрыклад. Праз год мне спатрэбіцца жытло для майго дарослага дзіцяці. Праз два гады я мяркую абнавіць свой аўтамабіль, пляменьніца хоча паступіць у музычную школу, а дзядуля скардзіцца, што яму няма як дабірацца да ягоных сотак...

Тысячы й тысячы прыватных патрэбаў, якія мы плянуем сабе на наступныя гады, нібыта ніяк не зьвязаныя з палітыкай, але залежаць ад таго, якія рашэньні будзе прымаць парлямэнт. Таму наш выбарчы навык мусіць базавацца ня столькі на палітычных дэкларацыях кандыдата й не на тым, хто зь іх прыгажэйшы з аблічча, а на нашых уласных плянах. Калі кандыдат абяцае спрасьціць крэдытаваньне жыльля, пазбавіць старыя аўтамабілі зь Нямеччыны непасільнага мыта, адкрыць музычную школу і прачысьціць грэйдэрам дарогу да дзядулевых сотак, значыць, галасуючы за яго, я буду галасаваць за сябе.

Імавернасьць таго, што дэпутат выканае свае абяцаньні, сёньня такая ж, як імавернасьць сумленнага падліку галасоў. Але што ты зробіш? Галоўнае — ты ведаеш, з чым ішоў на ўчастак, ты галасаваў за сябе, ты выканаў рытуал і ня страціў навыку. Калі гэтак будуць рабіць усе і заўсёды, тады аднойчы гэты неласкавы сьвет зьменіцца да лепшага. Хоць бы крыху.

# Д

## ЯК ДАГАВОРВАЦЬ?

**Так сабе паэты — За што галадае Аўтуховіч? — Штурмаваць не амон, але розум — Куды падзявалася адраджэньне?**

Вядома, праўду часу можна выказаць і намёкам. Але праўда нашага часу абрываецца на паўслове поўных фраз. Яна не дагаворваецца.

Ці заўважалі вы, што найбольш адэкватныя блогеры ў інтэрнэце, як правіла, так сабе літаратары? Зразумела, што так сабе блогер пры гэтым — зусім ня значыць добры паэт.

### Так сабе паэты

Блог — гэта літаратура або журналістыка ў жанры недагаворваньня. Нешта выказваецца, але не да канца й без асаблівае мэты. Як токшоў, якое тым больш відовішчнае, чым менш рэальных задачаў перад ім ставяць. Важна не сказаць, не дакапацца да чагосьці, а эфэктна пагаварыць.

Гэтаксама й блогі — крыху міма літаратуры, палітыкі, эпохі. Літаратура пішацца зь сябе, а

блог — на публіку. Блог мае на ўвазе, што ён будзе давыказаны ня сам сабою, а разам з камэнтарамі. Інакш гэта ня блог, а звычайны артыкул ці эсэ. Твая думка непазьбежна згубіцца дзесьці ў барадзе водгукаў — на тэму й не на тэму, прыхільных і абразьлівых, простых і кучаравых — і ўжо разам з усім гэтым «багацьцем» дасягне сваёй завершанасьці не ад таго, што завяршылася, а ад таго, што зьявіліся новыя блогі. Недаказанасьць — у прыродзе блогу. Недапранікнутасьць, неданамацанасьць, недадуманасьць.

Характэрная рыса нашага часу ў тым, што ўсё навокал патроху ператвараецца ў блог. Музыка, кіно, СМІ, палітыка, бізнэс... Усё — «крыху міма» й без асаблівай мэты.

## За што галадае Аўтуховіч?

Тэма зьніклых палітыкаў не сыходзіць са старонак недзяржаўных СМІ. У юрыдычным вымярэньні працэс пошуку ісьціны даўно спыніўся на паўслове, а ў публіцыстыцы й вулічных акцыях усё нібыта ясна да канца. Там усе ведаюць, хто скраў ды забіў людзей, і апэруюць «фактамі» ўжо як ісьцінай. Але суду не было — ні тутэйшага, ні незалежнага, ні міжнароднага. Нават якога-небудзь карпаратыўнага пагадненьня апанэнтаў улады ў гэтай справе не адбылося. Выходзіць, нічога, апроч эмоцыяў, за гэтымі «фактамі» няма?

А вось кабета добраахвотна пайшла з жыцьця. Адны кажуць — праваабаронца. Другія — быццам, не зусім. Трэція — крыху ненармальная. Чацьвёртыя — не чапайце гэтую справу наогул!..





Словам, усё абрываецца на паўслове. Тым часам, у эмацыйным вымярэньні, у публіцыстыцы й мітынговых прамовах усё зразумела й выснавана. Хто давёў — усім ясна. Толькі пра тое, хто не зьбярог, маўчаць.

А вось справа Мікалая Аўтуховіча. За што ён галадае? СМІ падаюць — супраць беззаконьня, якое творыцца ў турмах і краіне, і супраць таго, што яго доўга трымаюць за кратамі ў часе сьледзтва. За што ён арыштаваны? То, пішуць, за нейкія падпалы, то за замах на міліцыянта, то — што хацеў стварыць арганізацыю вэтэранаў-аўганцаў...

Перагледзьце прэсу пра Аўтуховіча й вы зразумееце, што ўсё зноў зводзіцца да выдачы эмоцыяў за факты. Фармулёвак — ясных і зразумелых для ўсіх — няма. Але няма ў выніку й адпаведнага суперажываньня. Розгалас вакол Аўтуховіча, як і вакол іншых ахвяраў рэжыму, на вялікі жаль, робіцца не па-журналісцку, а па-блогерску, ён складаецца зь недагаворак і прыносіць адваротны эфэкт. Нікому нічога незразумела.

Затое на мітынгу ўсё няяснае падаецца як факт і ісьціна. Толькі ўсё менш людзей прыпыняюць хаду каля такіх мітынгаў. А чаго яны патрабуюць? — пытаецца цётачка ў каляжанкі. Ды чагосьці свайго, адказвае тая, як тут разьбярэш...

## Штурмаваць не амон, але розум

Адны здымаюць кінафільм-агітку пра тое, што «Малады фронт» дрэнны, другія — што

добры. І там і там нацяжкі тырчаць белымі ніткамі. Можа быць, варта аб'яднаць намаганьні, і тады выйдзе праўда? І словы будуць дaказаныя да канца?..

Тым часам «Малады фронт» праводзіць у траўні марш «За незалежнасьць». А што здарылася зь незалежнасьцю? Ды быццам нічога. І на двары не 25 сакавіка... Гэта ня ўлады зьдзіўляе й не амон, а самых што ні ёсьць прыхільнікаў незалежнасьці. Аказваецца, марш праводзіцца на ўгодкі ганебнага рэфэрэндуму 1995 году — за нацыянальную сымболіку і родную мову. Чаму так і не сказаць? Чаму не правесьці марш за мову? Але няма канкрэтыкі, няма праблемы, няма й масавасьці.

Кажуць, на акцыю выйшлі 13 чалавек... Быццам за 30 гадоў гісторыя зрабіла віток ад трынаццаці да многіх тысяч і назад да трынаццаці. Толькі многія таксама нікуды ня дзеліся. Проста яны перасталі разумець, што адбываецца. Ім недагаворваюць.

Думаю: а за што б сам пайшоў сёньня? За мову, бадай. І не на пратэставую акцыю (што толку! не для ўладаў гэта патрэбна, а для людзей), а на нейкае сьцьвярджальнае сьвята ў гонар мовы ці на нейкі разумовы штурм. Вось, мабыць, што трэба штурмаваць — не амонаўскія шыхты, а ўласны розум.

Як ясна адлюстроўваюць сваю эпоху газэты, фільмы, кнігі пачатку 1990-х, ці 1950-х, ці 1920-х... Выразныя карціны часу. А сёньня? Што наш няшчасны нашчадак дазнаецца пра гэтыя дні з блогаў? Ён даведаецца, што гэта была эпоха блогаў. Крыху міма і без асаблівага сэнсу.





**Куды падзявалася адраджэньне?**

А што, скажыце, стала з нашым нацыянальным адраджэньнем? Тым, на хвалі якога Беларусь выйшла з СССР? Ці хто-небудзь гэтую справу працягвае? Такое адчуваньне, што недзе нешта робіцца, толькі няясна што. Агульнай стратэгіі не праглядаецца. Дый адраджэньня — найперш, пашырэньня мовы ў грамадзтве — не відаць і не чуваць.

Можа быць, трэба неяк зноў сабрацца ўсім разам, як тады, у 1988-м, у Чырвоным касьцёле, і, незалежна ад партыйнасьцяў, назапашаных крыўдаў і антыпатыяў зьверыць гадзіньнікі? Многае зьмянілася вакол нас і ў нас саміх, толькі адраджэньне засталося на ранейшым месцы. Значыць, калі што й рабілася, дык ня так, і гэта трэба прызнаць. І рухацца кудысьці ў іншы бок.

Некаторыя адраджэнцы цяпер апусьцілі рукі ды спасылаюцца на аб'ектыўнасьць, маўляў, беларусам наканавана быць «дзьвюхмоўнымі». Але гэта ўжо не адраджэньне, бо ў любой варыяцыі азначае дамінаваньне расейшчыны й заняпад беларушчыны. А тое, што патэнцыял беларушчыны яшчэ не раскрыты, зусім ня значыць, што яе трэба хаваць.

Відавочна, што аўтарытарны рэжым супраць пашырэньня беларускай мовы. Але ж ёсьць яшчэ народ, які ўвесь гэты час прыглядаецца й не бярэ слова. І ўсё яшчэ не гатовы яго ўзяць. Бо тут рэжым, там апазыцыя. Але каб народ сфармаваў сваё стаўленьне да лёсу мовы і да свайго ў ім удзелу, якраз і задумвалася адраджэньне — чын усёй інтэлігенцыі. Куды яна падзявалася?

Яна сышла з палітыкі, у якой для яе ня стала месца.

У недаказаных словаў ёсьць, вядома, адна перавага. Яны дазваляюць заклікаць іншых і пры тым быццам вызваляюць цябе ад адказнасьці. Далей можа быць і зусім няясна, хто там і як працягвае займацца зьніклымі, змагацца з рэжымам ці доўжыць справу нацыянальнага адраджэньня. Незавершаныя дэкларацыі дапускаюць незавершанасьць дзеяньня. А мітусьлівы недагавораны час быццам дазваляе не называць усяго гэтага хлусьнёй.



# ЯК ДАРАВАЦЬ?

**Паход у вясёлы дом — Грахі савецкіх часоў — Пралетарскія цноты — Дараваць можна ўсё — Гавары...**

Дараваньне — гэта паразуменьне бакоў, у выніку якога не застаецца крыўдаў.

Табе могуць дараваць на словах, але крыўда застаецца ў сэрцы.

Калі ты сам сабе нашкодзіў або саграшыў, другім бокам можа выступіць тваё alter ego або, напрыклад, сьвятар.

Прыяцель распавёў, што на споведзі расказвае бацюшку пра тое, што хадзіў у вясёлы дом. Кожны раз ён туды ходзіць і кожны раз каецца. Але, прызнаўся прыяцель, палёгку на душы адчувае тады, калі выходзіць зь вясёлага дому, а не ад бацюшкі.

## Паход у вясёлы дом

У перакручаным сьвеце чалавек бывае й не заўважыць, што саграшыў. Зь іншага боку, і бязьвінны ўчынак, што ў пагалосках атэстуецца як грэх, трэба, нібыта, замаліць.

Апошнім часам, аднак, прыяцель мой крэпка задумаўся пра свае паводзіны й лягічным шляхам прыйшоў да высновы, што ягоныя паходы ў вясёлы дом — ніякі ня грэх, а нешта накшталт візытаў у цырульню ці лазьню. Ёсьць, маўляў, фізіялёгія, і ніякага дачыненьня да душы яна ня мае. Маўляў, я ж нікому ня здрадзіў і шкоды не зрабіў, а нават і жарсьцю гэта ўсё толкам не назавеш. Можа быць, гэта ўвогуле — «ісьцязаніе»

плоці з мэтай вызваленьня духу, проста паводле Кірылы Тураўскага, нездарма ж выходжу адтуль ачышчаным (сьвят-сьвят-сьвят).

Ну вось. Пасьля гэтага й бацюшку прыяцель не забыў, але эпізод зь вясёлым домам са сваёй споведзі выключыў.

Не мая справа ацэньваць гэткія паводзіны прыяцеля. Мне цалкам дастаткова іншага — што ў цяжкой сытуацыі ён сваіх сяброў ня кідае. Хоць ведаю я й такіх цнатліўцаў, якія нават бравуюць тым, што на іх разьлічваць нельга. Унутраныя клопаты чалавека — яны й ёсьць унутраныя, грэшныя ці бязгрэшныя. Мы ж гаворым пра адносіны да іншых.

(Праўда, што тады рабіць з максымай пра ўдасканаленьне сьвету праз удасканаленьне сябе?)

### Грахі савецкіх часоў

Гісторыя прыяцеля й вясёлага дому, як мне ўяўляецца, прэтэндуе на вечнасьць. Але для нас гэта ўсё яшчэ збольшага кніжная гісторыя, у якой мы з савецкіх часоў вычытвалі такія грахі, якія ў рэчаіснасьці нават і ўявіць сабе было немагчыма. Цяпер, як той казаў, часы мяняюцца і мы разам зь імі. Патроху мяняецца й ацэнка грахоўнасьці тых ці іншых паводзінаў.

Памятаеце, «нашы людзі ў булачную на таксі ня езьдзяць»? Я й сёньня ведаю шмат людзей, якім сродкі дазваляюць узяць таксоўку, але яны, спазьняючыся, будуць душыцца ў тралейбусе або пашыбуюць на край сьвету пешшу, толькі б захаваць самаацэнку сябе як «нашых людзей».

Грахі савецкіх часоў складаліся ў даволі





стандартны набор. Карыстаньне таксоўкай нітавалася з распустай гэтаксама, як, скажам, абед у рэстаране. Сьпіс нездаровых жарсьцяў дапаўняўся слуханьнем «заходняй музыкі», доўгімі валасамі ў хлапцоў. А свая машына, свая дача, свая ўласнасьць увогуле ўяўляліся прытоеным злачынствам — паводле ўсеагульнае грамадзкае згоды.

Ня дзіва бывае й сёньня пачуць папрок таксоўкай. Але пры тым па-за ўвагай публікі застаюцца сапраўдныя дэфармацыі маралі. Напрыклад, здрада ў сяброўстве цяпер — ледзьве не нармальная зьява. Прынамсі, мала каго абурае, дый не гавораць пра гэта. Як, між іншым, і пра здраду Радзіме.

### Пралетарскія цноты

У колішнія часы чалавек разглядаў сваю цемнату, забітасьць і адлучанасьць ад шырокага сьвету як належную для савецкага грамадзяніна цноту. Жыць напоўніцу, «на шырокую нагу» было заганна. Некаторыя зьвязваюць гэта з чаляднiцкай спадчынай паўсталага пралетарыяту. Мэтафарай гэтага сталі дамы савецкіх сялянаў. Яны будаваліся з парадным уваходам з вуліцы, хоць, як правіла, гэты ўваход забівалі цьвіком, а хадзілі ззаду — з двара, да сябе дадому — як слугі.

Са здрадай Радзіме спрэс выходзілі перагібы, бо вернасьць Радзіме навязвалася зьверху. Сяброўства, наадварот, культывавалася нефармальна, найперш — адліжнай маладой культурай шасьцідзясятнікаў, багомнікаў Папы

Хэма. Культ сябра стаў цэнтральным, пра што б ні ішлося — пра вайну, пра спорт, пра альпіністаў-геолягаў. Сяброўства стала сымбалем веры некалькіх пакаленьняў савецкіх людзей. А здрада ў сяброўстве ўспрымалася як страшны грэх. З такіх рэчаў не сьмяяліся.

Сёньня ж у самым цэнтры сталіцы можна пабачыць вялікі рэклямны шчыт са слоганам «Прадаём сяброў». Гэтак дасьціпнікі заклікаюць купляць аўтамабілі.

На жаль, дэфармацыя маралі не адбываецца выбарачна. І колькі ні кажы, што мы захавалі найлепшае, што мелі за савецкім часам, гэта ня так. Відаць, гэта сьведчыць пра адзінства маралі, дзе доблесьці й грахі складаюць адно цэлае. І калі «паплылі» грахі, дык «плывуць» разам зь імі й доблесьці.

Сёньня рэстаран з таксоўкай перасталі быць такімі ўжо забароненымі пладамі. Паступова становіцца нормай і прыватная ўласнасьць.

Хваравіты працэс стабілізацыі новых каштоўнасьцяў — хаатычны й драпежны, са злодзейскай аглядкай. І колькі ні надзімаюць жываты новыя гаспадары жыцьця, колькі ні называюць адзін аднаго «гаспадамі», іх чалядніцкую сутнасьць па-ранейшаму выдаюць забітыя парадныя пад'езды.

### Даравацъ можна ўсё

Пры ўмове, што злачынства, шкода або грэх прызнаюцца ўсімі бакамі. Прызнаньне-раскаяньне ляжыць у аснове любога дараваньня.

Вось пішуць, што турэцкія гісторыкі просяць





прабачэньня за генацыд армянаў. Значыць, яны спадзяюцца на дараваньне, і генацыд можна прабачыць?

Сьвет зладжаны такім чынам, каб жыць уперад, а не назад. Адсутнасьць раскаяньня і, у выніку, дараваньня супярэчыць натуральным законам разьвіцьця. Мы спыняемся й пачынаем прабуксоўваць на месцы.

Гісторыкі гэта разумеюць, чаго ня скажаш пра чыноўнікаў. Турэцкі ўрад упарта не жадае ня толькі папрасіць прабачэньня, але нават назваць тое, што адбылося, генацыдам.

Мы спыняемся, калі КГБ не знаходзіць у сабе мужнасьці прызнаць факты злачынных масавых рэпрэсіяў. Калі грамадзкі актывіст умыкае з касай суполкі ў Ганалулу. Калі міністар адукацыі не ўсьведамляе, што загнаў беларускае школьніцтва ў кут. Мы дранцьвеем не ад самога злачынства, а ад адсутнасьці працягу-раскаяньня ці хоць бы прызнаньня. Быццам у кінафільме нашага жыцьця ўвесь час ірвецца стужка.

Гэта ня важна, што ты ня лічыш свой грэх грахом, калі ёсьць тыя, хто так лічыць. Пагавары зь імі. Дар мовы дадзены табе для гэтага. Можа быць, табе ўдасца пераканаць іх, што твой учынак — нармальны, і калі так, дык ні раскаяньня, ні дараваньня не патрабуецца. Не пераканаеш — мусіш раскаяцца, каб жыць далей.

Гавары... А спрэс маўчаньне й разлогі крыўдаў. Ня ўмеюць паразумецца кіраўнік з народам, начальнік з падначаленым, рэдактар з аўтарам. Найвялікшая памылка тых, хто нешта вырашае ў гэтым жыцьці, — нібыта яны ўжо ў сілу становішча могуць гуляць у адну браму.

## Гавары...

У захадах цяперашняй улады супраць беларушчыны ёсьць тупое крыўджаньне ладнае часткі грамадзтва. Няўменьне й нежаданьне гаварыць спыняе ўвесь працэс. Ну, скажыце, што вы гэта робіце асэнсавана й наўмысна, каб і мы выпрацавалі сваё стаўленьне да вас: акупанты вы, каланізатары ці ўсё ж заблукалыя свае? Сьвет складаецца ня толькі з тых, у каго права сілы. Сьвет заўсёды складаецца з паразуменьня бакоў, з нас усіх.

Праўда, і ў незалежным грамадзтве гэты грэх адбіваецца, як у люстэрку. Тут таксама, як правіла, канфлікты вырашаюцца мусова, а не праз гаварэньне й паразуменьне, пакаяньне й даразаньне.

Да прыкладу, калі беларускі інтэрнэт лічыць галоўным люстэркам чыннасьці незалежнага грамадзтва, дык у большасьці мы знойдзем апантаную прагу абразіць, стаптаць, зьнішчыць суразмоўцу. Далібог, у цэнзураваным полі электронных СМІ, дзе ўлада займаецца тым самым супраць апазыцыі, аплочаная нянавісьць прынамсі не ўспрымаецца як парываньне сэрца і выказваецца ў больш-менш літаратурнай форме. А тут... У нэафіта, які натрапіў на інтэрнэтныя разборкі апазыцыі, імгненна складаецца ўражаньне пра альтэрнатыву сёньняшняй уладзе, і ён, які, можа быць, хацеў бы такую альтэрнатыву знайсьці, застаецца сам-насам са сваёй перакананасьцю, што альтэрнатывы няма. Здавалася б, як мала трэба, каб пераканаць нэафітаў у адваротным...





# ДЖ

## ЯК ДЖГАЦЬ?

### «Ён джгае, а вы дзеўбяце»

Гэты дзеяслоў мае шмат значэньняў — і джаліць, і хвастаць, і кусаць, і шпарка ісьці, і нават «асушаць чарку да дна». Апошняе ў Насовіча даецца зь перасьцярогай: «Частае тваё джганьне калі б не зашкодзіла часам».

Перасьцярога мае пад сабой падставу, бо джганьне — безаглядная, і вынік яго непрадбачны. Што, зрэшты, добра надаецца для творчасьці, асабліва для паэзіі, дзе «джгаць вершы» — справа ўхвальная. А вось у палеміцы джганьне звычайна ні да чаго добрага не прыводзіць, нават калі выклікае захапленьне «падбрэхічаў». Характэрную фразу я знайшоў у сеціве: «Ён джгае, а вы дзеўбяце».

Джганьне ня ведае такту, і спрэчка адразу ператвараецца ў сварку.

Трэба зьвярнуць увагу на «дж», якое (як і «дз») у беларускай мове — асаблівая афрыката, што перадаецца дзьвюма літарамі, а вымаўляецца як адзін гук. Гэтаксама як па-ангельску, дзе

«дж» перадаецца адной літарай — John, James, Jefferson... Некалі і ў нас спрабавалі для «дж» увесьці ў альфабэт адмысловую літару, але гэта ўжо іншая тэма.

Цікава, што ўсе беларускія дзеясловы на «дж» ствараюць адзін той самы вобраз паводзінаў: джвагнуць, джыгаць, джыгітаваць.



# ДЗ

## ЯК ДЗЕКАЦЬ?

**Папярэднікі не падумалі, што з намі «буіт»**

Беларусы дзекаюць, цекаюць, акаюць і якаюць, у іх заўсёды цьвёрдыя «р» і «ч». А інакш як пазнаць беларуса ў цяперашнім асяродзьдзі, дзе ўсе гавораць нібыта па-расейску?

Яшчэ гадоў дваццаць таму асаблівасьці беларускага маўленьня вынікалі з самое прыроды чалавека. І колькі ён ні намагаўся перайначыць свой рот на расейскі лад, у яго ўсё адно замест «день» і «тень» вымаўляюцца «дзень» і «цень». Ён па-начальніцку «трэбует» і за невыкананьне пагражае «жэстачайшымі» мерамі. Нават стаўшы дыктарам на тэлебачаньні, ён усё адно прамаўляе «язык» і «дождь» замест «изык» і «дощ», як таго патрабуе правільнае расейскае маўленьне.

Адразу пасьля вайны, калі прыродныя беларусы масава рынуліся ў гарады, яны ўсімі сіламі ламалі сваю «вясковую» прыроду, імкнучыся ўліцца ў стыхію «гарадзкой» мовы. Іх высілкі былі такімі стараннымі, што часьцяком прыво-

дзілі да перабору — многія й сёньня вымаўляюць «ріба» ці нават «ряк» і «тряктар». Але яны недаацанілі аб’ёмаў мовы. Ты можаш натрэніравацца вымаўляць «па-гарадзкому» сто словаў, але гэта ўсё адно ня зьменіць твае сутнасьці, і рана ці позна з роту здрадліва выскачыць якая-небудзь «трапка».

У сёньняшніх маладых людзей ужо амаль не засталося той «вясковай» моўнай прыроды, што так дакучала іхным бацькам і дзядам — месьцічам у першым пакаленьні. Ці сталі яны ад гэтага большымі докамі ў мове Пушкіна й Лермантава? На жаль, не. Страціўшы сваю беларускую моўную прыроду, яны расейскай моўнай прыроды не набылі. Іх продкі зусім ня дбалі пра тое, што зь імі ў выніку БУДЗЕ. І цяпер яны замест чаканага БУДЕТ вымаўляюць БУІТ. Беларуская самабытнасьць, якой забаронена «дзекаць», і ад расейскага «декать» ухіляецца сіламоц. Вось фрагмэнт аднаго ток-шоў на БТ, гутарка вядоўцы з вайскоўцам: «На празьнік ваенны парад буіт?» — «Абізацельна буіт!»



Е

## ЯК ЕХАЦЬ?

### Памаленьку далей зойдзеш

Калі ты кіруеш аўтамабілем, з маральным выбарам сутыкаесься не радзей, чым калі крочыш пешшу. За стырном ты адразу трапляеш у дачыненьні зь іншымі: з кіроўцамі, міліцыяй і з самім сабой.

Да прыкладу, можна сабе ўявіць, якія пачуцьці бушуюць у душы сьвядомага беларуса-кіроўцы, які прымацоўвае да свае машыны нумар зь ненавісьнай яму дзяржаўнай сымболікай. Зьмяюка здрады запаўзае ў сэрца… А колькі спакусаў у сьвядомага беларуса-кіроўцы перайсьці на расейскую мову зь міліцыянтам, памежнікам, стаянычнікам, каб хутчэй «залатвіць пытаньне» і рухацца далей! З уласнага досьведу такіх сустрэчаў я зрабіў выснову: ня варта сьпяшацца. Беларускамоўны кантакт з азначанымі пэрсанажамі амаль заўсёды дасьць вам болей вопыту й пазытыву, чым тая справа, дзеля якой вы нібыта сьпяшаецеся…

Альбо — ці варта міргаць стрэчнаму, калі ты заўважыў міліцыянта з радарам? Міргаеш —

значыць, далучаеш сябе да асацыяльнага «братэрства» сьценькаў разіных (чыста расейская традыцыя). Ты яму міргнуў, а ён перад тым чалавека зьбіў альбо жыве з тымі мэтамі, якія супярэчаць тваім, і ўвогуле, у іншай сытуацыі ты б яму рукі не падаў... У так званым цывілізаваным сьвеце кіроўцы адзін аднаго пра паліцыю міргаьнем фараў не папярэджваюць.



Ё

## ЯК ЁРНІЧАЦЬ?

**Правакацыя зьмярцьвелых думак**

Ёрніцтва раздражняе. А сутнасьць усялякага раздражненьня — правакацыя зьмярцьвелых думак і пачуцьцяў да жыцьця.

Раздражніць — давесьці да стану нэрвовага ўзбуджэньня, раззлаваць. Быццам у табе самым нешта адмерла, пакрылася бронзай, схапілася ў цэмэнт, і вось цяпер нехта гэтае нешта зачапіў, і твая рэакцыя — тваё раздражненьне: не чапайце маіх перакананьняў, не кранайце сьвятога, не абражайце! Між тым, жывасьць усяго, што ў табе ёсьць, і даказваецца няспынным раздражненьнем. Гэта як пульс. Калі ён не намацваецца ёрніцтвам — значыць, ты мёртвы.

Ёрніцтва характарызуе не таго, хто ёрнічае, а таго, хто раздражняецца.

Слова «ёрнічаць» — нядаўняе запазычаньне з расейскай, у ранейшых слоўніках яго няма. Тым ня менш, яно даволі шырока прыжылося. Чаму? Бо не патрабуе адказнасьці, ня ўтрымлівае ў сабе таго адценьня, якое б вымагала ўдакладніць:

ня можна ёрнічаць з калецтва або сьмерці — з таго, што выглядае непапраўным. Ня «кпіць», што ёсьць скіраваным выпадам, і не «блюзьнерыць» — наўмысна зьдзекавацца, а ўсяго толькі раздражняць, ёрнічаць.





# Ж

## ЯК ЖЫЦЬ?

**Наперад, а не назад ці ўбок — Тут і цяпер — Дысыдэнтам прасьцей — Зьніжка за мову**

Жыць трэба тут і цяпер.

Бессэнсоўна чакаць, што «прыйдуць нашы», што аўтарытарны рэжым «падзе», што Захад прымусіць правільна лічыць галасы на выбарах... А тым часам усё драбнейшая наша апазыцыя, усё больш у ёй унутранага разладу, усё менш пераканаўчыя яе заклікі: «Мы — за выборы, но против избирательного фарса!» 15 гадоў мы чакаем, што нешта зьменіцца, хтосьці нават роспачна называе гэтыя гады выкрасьленымі з жыцьця.

### Наперад, а не назад ці ўбок

Жыць трэба наперад, а не назад ці ўбок.

Калі напачатку 1990-х апазыцыя засталася ў парлямэнце (а мусіла сысьці пасьля неабвяшчэньня рэфэрэндуму) — у яе быў шанец павярнуць сытуацыю на сваю карысьць — калі б яна выйшла на вуліцу. Гэта й быў астранамічны час

нашай сьпеўнай рэвалюцыі. Але дэпутаты вырашылі, што й так зрабілі больш, чым маглі.

Калі ў 1996-м на вуліцу выходзілі 50 тысяч, яшчэ можна было ажыцьцявіць тое, што называюць словам «байкот». Бо для байкоту сілы павінны быць больш-менш роўнымі. Але тады дэманстрацыі поўзалі па горадзе адно каб нацешыцца сваёй масай, каб накрычацца «Жыве Беларусь!», і ні да чаго не прыходзілі.

Наступныя гады ўсё ішло на здрабненьне і страту сэнсу таго, што ўсё яшчэ называлася словам «змаганьне».

Калі сёньня прыяцель кажа мне, што гэтыя выбары ня выбары і — толькі байкот! — я думаю:

а) няўдзел пазбаўлены сэнсу (як і ўдзел таксама);

б) на чым трымаюцца мае спадзевы на перамены, што там за сьвятло ў канцы тунэлю, з кім я зьвязваю свае думкі-мары, каб і надалей утрымліваць сябе як грамадзяніна ў гэтым квазіпратэставым палітычным кантэксьце?

## Тут і цяпер

Інакш кажучы, калі я падтрымліваю непрызнаньне выбараў, «палаткі», рэжыму, тады — за што я? Што я падтрымліваю? Што ці хто саграве мне сэрца? «Толькі Зянон!» — гучыць паэтычна і таму прывабна. Урэшце, гэта адзінае апазыцыйнае дацзыбао, зь якім можна жыць. Але яно ў сэрцы, а жыць трэба тут і цяпер.

Можна, вядома, яшчэ 15 гадоў пакрыкваць «верым, можам, пераможам» і не зьвяртаць увагі на пабочных.





Але ж пабочныя — гэта й ёсьць шматмільённы беларускі народ. Ён галасуе за Лукашэнку, але галоўнае — імкнецца жыць тут і цяпер, наперад, а ня ў бок. Наш апазыцыйны актывізм даўно стаў незразумелым для яго атавізмам 1990-х.

Не скажу, што гэта толькі мы самі загналі сябе на дысыдэнцкую кухню, ясна, што да гэтага спрычыніўся дзяржаўны апарат. Але тое, што сёньня мы сталі групай гарадзкіх вар'ятаў са сваімі «байкотамі» і прынцам на белым кані — гэта факт. Мы, рамантыкі беларускай і дэмакратычнай Беларусі, даўно не жывем ні тут ні цяпер. А хто жыве — той штодня выходзіць з дому, надзеўшы маску «пад звычайнага чалавека» і публічна скідае яе толькі тры разы на год, калі становіцца ў ланцуг неабыякавых людзей.

## Дысыдэнтам прасьцей

Жыць у дысэнце па-свойму прасьцей. Табе заўсёды скажуць, калі ўставаць і куды ісьці. Ты ведаеш, што Лукашэнка — дыктатар, Захад нам паможа, а твая задача — стварыць адпаведную карцінку. Зь іншага боку, дысэнт ня ёсьць жыцьцём тут і цяпер.

«Трэба жыць, як набяжыць» — вядомая мудрасьць думаць пра турботы па меры іх зьяўленьня, а не абрастаць хімэрамі магчымых праблемаў яшчэ да таго, як яны зьявіліся. У нас шмат хімэраў зьвязана з уладай, выбарамі, электаратам. І гэта менавіта хімэры, яны няўчэпныя для нас. Інакш, калі б мы глядзелі на іх як на праблемы, мы не прыходзілі б да выбараў штораз аж настолькі разгубленымі і непадрыхтаванымі.

Народ цэніць не навуку змагацца, а навуку жыць. Мы ўсе толькі вучымся жыць ва ўмовах цяперашняй цывілізацыі — без экстрыму й не за працадні. Спэцыфіка дысэнту ў тым, што дысыдэнты якраз у жыцьцёвым сэнсе не асабліва прыстасаваныя, яны жыць ня ўмеюць і нікога гэтаму не навучаць.

### Зьніжка за мову

Амаль кожны мой наезд у Беларусь адзначаецца чарговым адкрыцьцём. Ці то прадавачка ў краме, ці касірка ў акенцы, ці чалавек на прыпынку абавязкова зьдзівіцца: «А вы заўсёды размаўляеце па-беларуску?» — «А хіба вам такія не сустракаліся?» — перапытваю я. А сам сабе думаю — а дзе ж тады жывуць сотні маіх беларускамоўных знаёмцаў, доблесных палемістаў з інтэрнэт-форумаў, аўтараў кніг, часопісаў, газэт і радыёперадач? Хіба ня тут? Ці — не цяпер?

Апошні такі эпізод адбыўся з паркоўнікам у Верхнім горадзе ў Менску. Штогадзіну тут пераменяюцца сотні машынаў. І прапечаны на сонцы паркоўнік, пачуўшы маю мову, адразу сам пераходзіць на беларускую: «Гэта ты прыкалваесься ці заўсёды гаворыш па-беларуску?» — «А што, вам болей такія не сустракаліся?» — «Не», — усьміхаецца.

Мне падабаюцца такія моманты. Бо адчуваньне еднасьці з тым дзядзькам большае за адчуваньне карпаратыўнай повязі на былой Варвашэні 8. Асабліва калі ўсё сканчаецца з выгадай і паркоўнік — за мову! — скідае пару тысяч з васьмі.





# 3

## ЯК ЗАСТАЦЦА?

**Аднадумцы з таго сьвету — «Малі Бога за нас» — Безыменныя помнікі — Фабрыкі мёртвых — У адведкі**

Можна пражыць непрыкметнае жыцьцё, нічога асаблівага не зрабіць і неўзабаве зьнікнуць з памяці тых, хто цябе ведаў, але пасьля сыходу застацца неардынарнай асобай, выклікаць павагу і пасяляць веру ў іншых ці проста падымаць іншым настрой.

Калі кажуць, што архітэктура — гэта застылая музыка або што архітэктура падводзіць рысу сваёй эпосе, дык для звычайнага чалавека і музыка і эпоха — гэта ягонае звычайнае жыцьцё, а архітэктура — помнік, які нашчадкі паставілі на месцы ягонага спачыну.

### Аднадумцы з таго сьвету

Апынуўшыся дзесьці на незнаёмых могілках, я пачынаю шукаць помнікі з надпісамі па-беларуску. Трапляюцца яны ня часта, таму знаходка заўсёды выклікае станоўчыя эмоцыі. Ты ня веда-

еш, хто там быў за чалавек, як жыў і што любіў, аднак ужо толькі мова помніку сьведчыць, што ты зь ім такі самы. Уражаньне нават большае, чым калі сустракаеш аднадумцу па-за могілкамі. Жывы чалавек можа зьмяніцца або зьнікнуць з твайго поля зроку, а гэты ня зьменіцца й ня зьнікне. Ён — быццам твой рэальны набытак, яшчэ адзін паплечнік.

У адрозьненьне ад масавых помнікаў па-расейску, беларускія ня могуць выглядаць недарэчна, неэстэтычна альбо банальна. Магчыма таму, што іх так мала. Расейскія — як афрыканскія грыбы на беларускай глебе. Ну і ўсеагульны стандарт эпітафіі ператварае іх у падабенства піянэрскай лінейкі, пазбаўляе глыбіні суперажываньня й роздуму пра зямлю, часткаю якой яны сталі.

### «Малі Бога за нас»

Беларускія помнікі нязьменна ўражваюць, іх слова гучыць нібы ўпершыню:

«Сьпі зь мірам і малі Бога за нас», або «Крыўдна, што так рана», або «Даруй нам, матуля, і дзякуй табе».

Зусім непрадказальным чынам адна толькі беларуская мова на помніку дае ясны адказ — дзеля чаго жыў чалавек. Зразумела, што абсалютная большасьць тых, хто спачыў, былі пераканаными, што жывуць дзеля родных, сяброў і дзеля Радзімы. Але калі памяць сям'і зафіксавалася ў каменю кароткай фразай, дык жыцьцё для Беларусі — не. Цалкам можна дапусьціць, што й ня згадваў чалавек ніколі пра тую Беларусь. Прыехаў адкуль-небудзь з Архангельску ці Сібіры або





нават не прыехаў, а так, зазірнуў на дзень-другі, і тут раптам спынілася ягонае сэрца.

Беларускія эпітафіі месца для такіх думак не пакідаюць. Калі падпісаны на роднай мове — значыць, тутэйшы чалавек, свой і жыў дзеля Беларусі.

Складаньне эпітафіі па-расейску нагадвае пярэпалах падчас пахаваньня, калі людзі больш настрашаныя не раптоўнай сьмерцю блізкага, а тым, што ня так пакладуць, ня тыя вынесуць ці там люстэркі не завесяць. Важна, каб усё было, як ва ўсіх. Банальнасьць надпісаў ідзе ад гэтай скаванасьці й боязі дапусьціць у эпітафіі нейкую вольнасьць, а насамрэч — шчырасьць.

У беларушчыне чалавек сам пачуваецца гаспадаром сваіх словаў. Яго не абавязвае ані ўсеагульны стандарт, ані быццам бы адпаведны моманту трагізм. Абавязвае толькі дотык да вечнасьці. А вечнасьць не заўсёды трагічная, яна можа быць усякай, нават іранічнай. Кажуць, адзін паэт сам сабе прыдумаў эпітафію: «Ён кінуў піць, бо сьпіць».

### Безыменныя помнікі

Адзінкавыя беларускія магілкі сустракаюцца на вясковых кладах з падобнаю частатой што на Гарадзеншчыне, што на Гомельшчыне. На Віцебшчыне яшчэ можна дзе-небудзь у аддаленым паселішчы забрысьці на клады, акуратныя й дагледжаныя, дзе стаяць адны драўляныя крыжы, бяз подпісаў.

Яны прыйшлі да нас з тых архаічных часоў, калі вёска ведала, каго й дзе пахавала. Калі жывыя пра гэта забываліся, падаў бяз догляду

й зьнікаў назаўсёды крыж. Чужыя людзі сюды ўвогуле не хадзілі, дык навошта падпісваць? Здаецца, подпіс можа толькі парушыць працэс натуральнага зьліцьця з прыродай.

Аднак цывілізацыя расьцерушыла людзей па сьвеце, моладзь выехала ў горад, а тут яшчэ надышло інфармацыйнае грамадзтва... Словам, цяпер падпісваюць у вёсцы гэтаксама, як у горадзе.

### Фабрыкі мёртвых

Беларускіх эпітафіяў, якія гучаць няшчыра й непаэтычна, я не сустракаў. Ды ўжо нават толькі імя й прозьвішча, напісаныя па-беларуску, робяць магічнае ўзьдзеяньне. Быццам увесь сьвет вакол цябе складзены з кардонных дэкарацыяў, з-за якіх раптам вызірнула сама праўда, і ты хуценька адводзіш вочы, ці то ад сораму, ці ад боязі ўбачыць сьвет без ілюзіяў, такім, які ён насамрэч. Такую рэакцыю на беларускія надпісы мне даводзілася бачыць ня раз.

Людзі, што сталі гараджанамі ў першым пакаленьні, гэта значыць калісьці даўно пераехалі ў горад і ўсімі сіламі імкнуліся гаварыць па-гарадзкому, выкараняючы зь сябе саму памяць пра тую вясковую мову, якія сваю вясковую маці перавучвалі на гарадзкі капыл і, натуральна, помнік ёй паставілі па-расейску, цяпер прыехалі на Радуніцу і раптам бачаць, што помнік суседняй бабе падпісаны па-беларуску, ды так прыгожа й суладна... У душы цэлая гама пачуцьцяў — і замілаваньне, і сорам, і крыўда, і шкадаваньне. Але жыцьцё пражытае так, і ўжо нічога ня зьменіш.





Гарадзкія могілкі нагадваюць фабрыкі. Тут заўсёды кіпіць работа: капаюць, адпяваюць, прывозяць, прыходзяць, разьлічваюцца... Аднатыпныя помнікі не схіляюць да роздуму, а наганяюць беспрасьветную паныласьць. Гэта нядобра, бо могілкі мусяць пасяляць перакананьне ў нямарнасьці жыцьця. І нават у стандартным паныл ым асяродзьдзі гэтай «фабрыкі мёртвых» рэдкі помнік па-беларуску быццам бярэцца выправіць тваё ўражаньне й вяртае адчуваньне нямарнасьці ды сэнсоўнасьці ўсяго гэтага сьвету.

### У адведкі

Аднак зусім па-іншаму пачуваесься далёка ад мэгаполісу, на малых вясковых могілках. Тут і настрой адпаведны, і кожны помнік — не адзін з сотні тысяч, а сам па сабе. І эпітафія па-беларуску ў вёсцы выглядае не выключэньнем з правіла, а зусім гарманічна. Бо навокал дагэтуль чуваць жывую мову.

Помнікі вядомых людзей на вясковых кладах — як шэдэўры. Якое дзіва было б сустрэць імя народнага паэта Максіма Танка на Ўсходніх могілках у Менску. Там ляжаць усе, каму «палажана». Але воля паэта была — пахаваць на радзіме, у Новіках Мядзельскага раёну, дзе хаваюць памерлых зь ягонай роднай Пількаўшчыны. Паэт, прызнаны тонкім эстэтыкам, ня здрадзіў сабе ў гэтым, не схацеў у намэнклятурны шэраг і лёг дома. Нашчадкі стварылі на месцы ягонага апошняга прыстанку мэмарыял — немалы, але й не пыхлівы, поўны глыбокай вобразнасьці й сэнсу.

Калі выхадцы зь вёскі лягаюць у вёсцы (а гэта і дзеці іх могуць быць, і ўнукі, ды нават проста дачнікі пры гэтай вёсцы), лічыцца, што сваякам будзе цяжка даглядаць магілу — далёка езьдзіць. Але праблема ня ў гэтым. Для чаго патрэбны той догляд? Каб выказаць пашану да продка, засьведчыць памяць. А выказваньне пашаны кілямэтрамі не вымяраецца. Ты можаш ехаць за трыста км — ня проста на магілу сваяка, а туды, дзе ён жыў, адкуль ён родам, дзе ягоныя (і твае) карані. Ну не для таго ж мы прыходзім на Радуніцу на клады, каб толькі павырываць бадылякі.

Тут жа наадварот: паездка да сваяка ці да народнага паэта — да аднадумцаў — становіцца падзеяй ужо твайго жыцьця. Ты сто разоў паўторыш дзецям, наколькі гэта важна. Глядзіш, і да цябе некалі завітаюць у адведкі.

# і

# І

## ЯК ІДЭНТЫФІКАВАЦЦА?

**Род Янкоўскіх — Беларус з дваран — Залаты Век — «Расеец са знакам якасьці» — Крамольная праўда**

Ідэнтыфікавацца — знайсьці ўласную тоеснасьць-ідэнтычнасьць, разабрацца з тым, хто ты і адкуль узяўся, што — тваё, а што — не, у якой іпастасі ты найбольш цікавы й карысны сабе й сьвету.

Пасьля сыходу з жыцьця актора Алега Янкоўскага расейскія СМІ паведамілі, што род ягоны паходзіць з польскага дваранства, БТ — што зь віцебскай шляхты, «апалячанай» — удакладніла «Наша Ніва». Польская «Газэта Выборча» напісала, што актор — з польскай шляхты, «як сьцьвярджаюць расейскія мэдыі». Маўляў, мы, палякі, не прэтэндуем. А польскія інтэрнэт-парталы, прысьвечаныя кіно, канкрэтызавалі: нарадзіўся Янкоўскі «ў сям'і беларускіх арыстакратаў».

### Род Янкоўскіх

Мы ня будзем наіўна перацягваць Янкоўскага ў «нашы славутыя землякі». Ён расейскі актор,

і гаворка ўвогуле не пра тое. Гаворка пра складанасьці й патрэбу ідэнтыфікацыі.

Уласна зь віцебскай шляхты быў бацька актора Іван Паўлавіч, рэпрэсаваны ў канцы 1930-х гадоў. Але ў сьпісах рэпрэсаваных ні Івана, ні Паўла Янкоўскіх я не знайшоў. Хацеў даведацца пра канкрэтную мясцовасьць, адкуль гэты род, але нітка згубілася.

Далей нэкралёгі пішуць пра вялікія таленты, якімі быў надзелены Алег Янкоўскі. А мне думалася пра тое, што ў талентах многае тлумачыцца генэтычна. Чалавек міжволі ўласным лёсам працягвае лёсы сваіх папярэднікаў. А калі ён далёка ведае свой род, дык робіць гэта ўсьвядомлена.

Тое самае можна сказаць і пра нацыю — на што ў сваёй гісторыі яна арыентуецца, з чым сябе зьвярае, чаму імкнецца адпавядаць, каб не згубіцца сярод іншых. Ёсьць фальклёр, этніка, чалавечая прырода, а ёсьць свой кшталт цывілізацыі, які на працягу гісторыі выпрацавалі продкі. Як яго ўхапіць?

### Беларус з дваран

Пра канец гэтай ніткі мне й нагадаў радок аб паходжаньні Янкоўскага. Гэта ўсходнебеларуская шляхта. Не настолькі палянізаваная, як заходняя, найбольш аддаленая ад Эўропы і на 20 гадоў раней аддадзеная на зьнішчэньне бальшавікам. Яна і ўцячы нікуды не пасьпела, бо яе ўсю рэпрэсавалі яшчэ да вайны. У анкетах гэтыя шляхцічы ўказвалі нацыянальнасьць «беларус» і паходжаньне «з дваран». Усе наступныя гады на ўсіх узроўнях гэтае дзіўнае спалучэньне — беларус з дваран — усімі спосабамі вымяталася





са сьвядомасьці. Беларус ня мог быць з дваран, бо гэта цёмны мужык, якога азарыў Вялікі Кастрычнік.

Калі ўдумацца, дык большасьць з той шляхты й паплацілася найперш за тое, што называлі сябе беларусамі, такіх пры новым парадку проста не магло, ня мусіла быць. Іх, белую костку нацыі, што ня здрадзілі ані ідэнтычнасьці сваёй, ані радзіме, ані веры, усіх да аднаго расстралялі, выслалі, пазбавілі правоў. Але да сёньня на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне засталіся калі не маёнткі й палацы, дык котлішчы — сьляды сядзібаў. І хіба рэдкія старыя людзі прыгадаюць тых колішніх «паноў» — іхныя імёны і лад жыцьця — «як у кіне».

Яны, беларуская шляхта, сваю нітку цягнулі ад продкаў у 19 ст., калі Беларусь ператварылася ў краіну сядзібаў і настальгавала, у сваю чаргу, па залатых часах ВКЛ. А гэта ўжо 16 ст., тое, якое гісторыкі называюць Залатым Векам.

### Залаты Век

Некалі, яшчэ ў 1970—80-я гады, літоўскія гуманітарыі кніжкі з праўдзівымі фактамі з гісторыі Літвы набывалі ў Беларусі. У самой Літве даваенная гістарыяграфія, створаная ў «буржуазнай» Ковенскай рэспубліцы, была забароненая і культывавалася хіба што ў сем’ях.

У Беларусі ў сем’ях часьцей культываваўся накінуты ідэалёгіяй стэрэатып бязроднае нацыі, пакліканай да жыцьця Вялікім Кастрычнікам, затое ў афіцыйным друку, перадусім у навуковых выданьнях, многае прамаўлялася адкрытым тэкстам. Беларускую гістарыягра-

фію ад стэрэатыпаў ідэалёгіі аддзяляла прорва. Пісьменьнікі на чале з Караткевічам і мастакі на чале з Марачкіным хадзілі па вастрыі ляза, спрабуючы данесьці вабноты Залатога Веку да сьвядомасьці паспалітага савецкага беларуса. Тым часам у непрыкметных, на першы погляд, выданьнях Акадэміі навук адкрытым тэкстам друкавалася такое, што й сёньня падпала б пад цэнзуру ў афіцыйных СМІ. Чаму? Бо ў тых дакумэнтах нідзе не фігуравалі беларусы, фігуравалі літоўцы, то бок чужыя. А пра чужых можна было пісаць што заўгодна.

Бяру наўздагад кніжку «Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасьці», Менск, 1975 год. Наклад тры тысячы асобнікаў. «Баркулабаўская хроніка». Акурат тое самае 16-е стагодзьдзе, Залаты Век. Тут і пра «адвечнае імкненьне беларускага народу да ўзьяднаньня з расейскім народам». Вось такі эпізод:

«Року 1580 гаспадар кароль Стэфан быў пад Псковам і ўзяў горад Пскоў. А масква, то ест Сярэбраны зь немалым войскам места слаўнае Магілёў выжаг... А войска літоўскае ў Шклове стаяла. Маскву ад Магілёва адпёрлі, пабілі, адагналі. Страшна было трупу маскоўскага глядзеці; раку Дняпро сілным трупам загарадзілі, іж колькі тыдняў дняпровае рыбы не ядалі і вады не півалі для вялікага гнюсу трупу маскоўскага».

Зразумела, што войска Вялікага Княства Літоўскага называлася літоўскім. Літоўскі — не этнонім, а палітонім. Але савецкая цэнзура ў такія тонкасьці не ўдавалася. Таму ў Літве за савецкім часам і немагчыма было пісаць пра такія эпізоды Залатога Веку. А ў Беларусі — праходзіла.





### «Расеец са знакам якасьці»

Калі б Скарына, які сваю першую кнігу надрукаваў на паўстагодзьдзя раней за расейцаў, назваў яе ня рускай, а беларускай, магчыма, і ён апынуўся б пад забаронай. Бо тады ён быў бы беларускім, а ня ўсходнеславянскім першадрукаром-Гутэнбэргам, што абудзіла б у беларусаў крамольнае пачуцьцё нацыянальнае годнасьці.

Тэксты «Мужыцкай праўды» Каліноўскага ў нас распаўсюджваліся як у фатакопіях падпольна, так і ў афіцыйных акадэмічных выданьнях, толькі ў апошніх давалася зноска, што пад «маскалём» Каліноўскі разумеў ня кожнага расейца, а толькі царскага салдата. Да таго ж і Каліноўскі, хоць і пісаў па-беларуску, ніколі не ўжываў слова Беларусь.

Магчыма, тут была ці то іронія лёсу, ці нейкі схаваны сэнс. Прапаганда даводзіла нам, што беларус — гэта такі белы, чысты й пушысты рус, або «расеец са знакам якасьці». Самы савецкі й камуністычны. Але ўжо будова назвы лёгка ўпісвала нас у нейкі зусім іншы й цалкам супрацьлеглы шэраг «белых» — белачэхі, белафіны, белапалякі, беларусы...

Увогуле акрэсьленьне «белы» ў гэтым кантэксьце паходзіць яшчэ з францускай рэвалюцыі, дзе *белыя*, у супрацьвагу рэвалюцыйным *чырвоным*, былі прыхільнікамі традыцыйнага парадку й манархіі. Гэта сапраўды Вандэя, як акрэсьліў Беларусь Алесь Адамовіч (памятаеце — Вандэя перастройкі?), але Вандэя як сукупнасьць усяго традыцыйнага, дзе непадзельна пануе сярэднявечны лёзунг: старыны ня рушыць, навіны ня ўводзіць.

## Крамольная праўда

Беларус цярпліва адседжваўся ў адведзенай яму плебейскай каморы, разважаючы пра сваю сярэднявечную славу як пра чужую — рускую, літоўскую, польскую. Навукоўцы друкавалі праўдзівыя крыніцы з крамольнымі для савецкага цэнзара зьвесткамі, суседзі зьдзіўляліся адкрытасьці беларускага гуманітарнага поля, а паспаліты народ пазіраў на сьвет зь нейкай аддаленай хітрамудрынкай уваччу. Маўляў, ёсьць нешта ў нас за душой сваё, толькі зразумець і назваць яшчэ час не прыйшоў.

Хітрамудрынка паходзіла з генэтыкі, з інстынкту самазахаваньня і, натуральна, з глыбокае любові да ўсяго свайго. А інакш чаму, гаворачы дэ-факта па-расейску, у перапісах беларусы ўпарта называюць роднай мовай беларускую? Чаму за прамінулыя 200 гадоў беларусы ня тое што масава, а хоць колькі-небудзь заўважна не пачалі пісацца расейцамі? Пры тым, што ўся прапагандысцкая машына дзяржавы ўсе гэтыя гады ўбівала й працягвае ўбіваць ім у галаву, што яны — тыя ж расейцы. Не. Не спрацоўвае. Як было сто гадоў яшчэ ў царскім перапісе шэсьць мільёнаў чалавек беларусаў, так і засталося (з улікам натуральнага прыросту) сёньня мільёнаў восем.

Не ідэнтыфікуюцца беларусы з Расеяй. Нават калі становяцца выдатнымі расейскімі акторамі, як Алег Янкоўскі, усё адно падкрэсьліваюць сваё паходжаньне ці то з польскай шляхты, ці то зь віцебскіх дваранаў, а насамрэч, як вынікае, зь беларускіх арыстакратаў.





# Й

## ЯК — ЙАК?

### Мёры — не Міоры

Беларусь паміж Захадам і Ўсходам — як Атлянтыда, загадкавая краіна, яна то зьяўляецца ў хвалях акіяну, то зьнікае. Зьяўляецца — калі выяўляе сваю самастойнасьць, самабытнасьць, самавітасьць. Зьнікае — калі раствараецца ў стыхіі суседзкіх уплываў. У беларускай мове гэтыя геапалітычныя працэсы адлюстроўваюць, напрыклад, ётавыя галосныя.

Літоўскага Івана — Яна — Ёнаса расейцы пішуць — Ионас. Тое самае адбываецца зь нямецкім Ёганам — Иоган. І зь літоўскім артыстам Банёнісам — Банионис. У імкненьні прыпадобіцца да «вялікага й магучага языка» альбо проста трымаючы расейшчыну за першакрыніцу ўсяго на сьвеце, беларусы таксама іншы раз ужо па-беларуску запісваюць — Йонас, Йоган, Баніоніс, сьледам за расейцамі падкрэсьліваючы чужасьць гэтых словаў і ўсёй заходняй цывілізацыі. Але на тым не спыняюцца.

Беларусь, што б пра яе ні думалі расейцы,

аб’ектыўна для іх — зямля заходняя. Вось чаму, кіруючыся старымі мапамі, дзе назвы паселішчаў даюцца ў лацінскім напісаньні, дзе гук «ё» перадаецца літарамі «іо, јо», расейцы называюць нашы Мёры і Лёзна — Миоры, Лиозно... Абсалютна з тых самых прычынаў, што і Баниониса. Дзіўнавата гучыць, праўда? Чужавата. Але для іх гэта экзотыка — і на здароўе. Зьдзіўляюць «нашы», хто глядзіць на свой уласны край праз расейшчыну і хто па-беларуску паўтарае — Міоры, Ліозна... Нават сярод тых, хто ў гэтых мёрахлёзнах жыве. Ён там жыве, а назву свайго паселішча піша як чужаземную. Хоць край навокал яму нібыта родны.

«Загадка Атлянтыды» тут разгадваецца проста. Дастаткова разгарнуць мапу й пераканацца, што ад Мёраў да бліжэйшага Ёнаса-Банёніса — рукой падаць, а да Масквы — ого-го. І тады — зрабіць пераацэнку ўласных уяўленьняў, да якой цывілізацыі, культуры, моўнай традыцыі належаць твой край і ты сам.



# К

# К

## Як казаць?

**Здаравенькі булы! — Жабы ў роце — Усё добра, мама — Размаўляйце па-расейску. На здароўе!**

Казаць, гаварыць, размаўляць трэба так, як зручна. У Беларусі ў большасьці выпадкаў зручна казаць на трасянцы. Правільная расейская, як і правільная беларуская, вылучаюць вас з натоўпу як госьця з Расеі або чалавека, для якога мова — пазыцыя. Вы высоўваецеся й тым самым парушаеце заведзены грамадзкі парадак рэчаў. Цяпер усё залежыць ад таго, ці хопіць вам такту, каб ваша пазыцыя выклікала ў атачэньня сымпатыю, а не наадварот.

Нельга нікога прымушаць казаць так або гэтак, скажуць вам у Беларусі на кожным кроку. Маючы на ўвазе: нельга прымушаць да нязручнасьці. І гэта справядліва.

### Здаравенькі булы!

Жывучы ў Польшчы ці Нямеччыне, не гаварыць па-польску ці па-нямецку нязручна, таму беларусы, якія пасяляюцца там, хутка асвойваюць адпаведныя сродкі камунікацыі.

Хіба вам не даводзілася сустракаць студэнта-каліноўца, які па-беларуску ніколі двух словаў не зьвязаў, а цяпер вось вярнуўся з Быдгашчы і ўжо па-расейску гаворыць з польскім расьпевам? Праўда-а-а?

Часам і ў Беларусі расейскамоўны беларус адчувае сябе няёмка з-за мовы. Гэтак здараецца, калі ён трапляе ў беларускамоўнае асяродзьдзе й ня можа двума словамі падтрымаць размову па-беларуску. Ён перажывае этычны дыскамфорт і знаходзіць выйсьце зь яго альбо ў агрэсіі (что вы как нерусские?), альбо ў пакоры (вінавата апускае вочы), альбо ў выбачэньні (інтэлігентны чалавек), альбо ў спробах зараз жа хоць неяк з абрыўкаў ведаў зьляпіць хоць нейкія фразы абы не па-расейску (здаравенькі булы!).

Сяброўка майго беларускамоўнага знаёмца вось ужо год пры сустрэчы кажа мне: «Здраствуйце!» Усьміхаецца і хавае вочы. І няма каму падказаць ёй, што «Добры дзень!» гучыць так на дзясятку моваў і што, ня здрадзіўшы сваёй пупавіне, яна толькі дзякуючы гэтай замене пазбавіцца ад няёмкасьці.

Ёсьць, дарэчы, і такі спосаб дачыняцца ў мімаходнай размове — падбіраць словы, якія нібыта аднолькавыя: добры дзень, нармальна, бай... Вось і пагаварылі.

## Жабы ў роце

Сёньня шмат кажуць, што дзецям няма адкуль набрацца навыкаў беларушчыны, бо ўсё спрэс расейскамоўнае. Гэта й так, і ня так. Урэшце, кожны бачыць і чуе тое, што хоча пачуць і пабачыць. Вялікае мноства зьнешняй інфармацыі ў





Беларусі падаецца па-беларуску. І ў СМІ гучыць беларуская мова, ня так шмат, як хацелася б, але гучыць. У школе пры ўсіх абмежаваньнях ды прафанацыях таксама ня пройдзеш зусім ужо міма мовы. У кнігарні заўсёды набудзеш кнігу па-беларуску. Словам, пры ўсім жаданьні беларускай мовы не праскочыш.

Але найлепей навыкі мовы закладаюцца ў сям’і.

Днямі ў забітым тралейбусе я міжволі слухаў, як за сьпінаю дзявочы галасок размаўляе праз тэлефон:

— Слушай, ну, как бы, позвони ему, Лукас его зовут, да, он, ну это, говорит по-английски, ну и скажи, короче, как бы, что я приеду, да, ну, плюс сорок восем тоже, да. Там еще, как бы, есть такой, ну Войтек, да, он это, ну белорусско-язычный, да. Или ему, или Лукасу скажи, как бы, короче...

Гэтае «ну» звычайна прамаўляецца, каб папіхнуць наступнае слова, якое чамусьці ня надта хоча паказвацца на сьвет.

## Усё добра, мама

Так з роту дзяўчынкі адна за адной вылазілі жабы, а я думаў пра тое, што моўная неахайнасьць — на любой мове — ніяк ня менш брыдкая за неахайнасьць у вопратцы альбо паводзінах. Якая нармальная мамаша выпусьціць дачку на вуліцу нямытай-неўчасанай? У хлапцоў з гэтым прасьцей, але для дзяўчынкі дагледжанасьць — адзін зь першых крытэраў грамадзкай ацэнкі. І калі яна, з усіх бакоў дагледжаная, адкрывае

рот, а адтуль — струмень слоўнага сьмецьця, дык усе астатнія прывабнасьці блякнуць.

Нібы ў працяг маіх думак за сьпінаю зноў зазваніў тэлефон, і я пачуў той самы дзявочы галасок:

— Прывітаньне, мама. Гэта мой новы нумар. Я памяняла картку. Стары не працаваў, дык мусіла набыць новы. Дзякуй, мама. Даехала нармалёва. Добра, мама. Я табе затэлефаную...

### Размаўляйце па-расейску. На здароўе!

Ну, зразумела, мама гэтай дзяўчынкі, хутчэй за ўсё, з майго пакаленьня, і вельмі імаверна, што я яе нават ведаю. Але ні абярнуцца да дзяўчынкі, ні заводзіць зь ёй размоваў я ня стаў. Усё, што я пачуў, было проста — нармальна. Можа быць, крыху экзатычна, але навошта акцэнтаваць на экзатычнасьці? А норма акцэнту не патрабуе.

Усё ж такі мудрыя сустракаюцца ў Беларусі бацькі. Яны выпускаюць у сьвет дзяцей з дадатковым запасам зручнасьці. І хто б з тых дзяцей ні вырас, недзе некалі ім проста лішні раз не давядзецца чырванець.

Найпрасьцей закласьці навык беларушчыны дома, у малых. Бо па-расейску — вы й заўважыць не пасьпееце — яны навучацца самі.

Гаварыць трэба так, як зручна. Кажыце па-расейску. На здароўе! Але, трапіўшы ў беларускае асяродзьдзе, умейце два словы зьвязаць па-беларуску. Каб не адчуваць этычнага дыскамфорту.

# Л

# Л

## ЯК ЛЮБІЦЬ?

**Палюбіць вешальніка — Да нас прыехаў рэвізор! — Я цябе зьем… — Рас-тварэньне — Патрыятызм як здрада**

Калі цябе на кожным кроку заклікаюць любіць Беларусь, а пры тым укладаюць у гэты панятак зусім розныя рэчы, гаворка ідзе не пра тое, што ты Беларусь ня любіш і цяпер вось павінен палюбіць. Ясная рэч, любіш — ад самых несьвядомых сваіх гадоў. Проста ты ніколі не спрабаваў выславіць сваю любоў, а тут табе прапануюць гатовыя клішэ. І цяпер усё залежыць ад таго, ці дастаткова моцныя твае ўласныя пачуцьці і ці дастаткова самастойная ты асоба, каб зрабіць «прымерку» гэтых клішэ і зразумець, наколькі адпавядаюць яны тваёй душы і таму, як называюцца.

### Палюбіць вешальніка

Вось, да прыкладу, дзяржаўная прапаганда на БТ пад выглядам Беларусі навязвае мне вобраз БССР — з тым самым савецкім фальшам

пра высокія надоі і шчасьлівых вэтэранаў, з папсовымі канцэртамі «За Беларусь!», з апалягетыкай Сталіна, КГБ і Мураўёва-вешальніка, з да непрыстойнасьці ўпартым патрабаваньнем «любить» Беларусь «по-русски».

Ну ніяк не стасуецца такая любоў ані з маім уласным досьведам Радзімы, ані зь яе людзьмі, ані зь яе краявідамі й фальклёрам, ані з творамі Купалы, Багдановіча, Гарэцкага, Арсеньневай, Геніюш, на якія адгукаецца сэрца, ані, натуральна, з мовай.

Аднак ты заўсёды мусіш задавацца пытаньнем, якому цябе вучылі ў дзяцінстве: паслухай, а можа быць, гэта ты ня маеш рацыі? Можа быць, недаадчуваеш чаго? Можа, не прымаеш гэтых клішэ, бо ўжо заняў сваю душу іншымі? Адкуль ты ведаеш, што твае клішэ — правільныя?

Разгадка ў тым, што не паміж клішэ мы выбіраем, а паміж любоўю й яе адсутнасьцю або чыімсьці падступным разьлікам. Выключыць з поля зроку тваё прыватнае пачуцьцё й заняцца перабіраньнем клішэ — значыць, асудзіць сябе на бясконцую рэвізію таго, у што некалі верыў.

**Да нас прыехаў рэвізор!**

І праўда ж, колькі цяпер людзей займаюцца рэвізіяй таго вобразу Беларусі, які стаў для цябе звыклым. Маю на ўвазе нават не заказуху, калі нацыянальны пантэон герояў «ачышчаецца» ад усіх неправаслаўных і калябарантаў. Шматлікімі добраахвотнікамі пераглядаецца літаральна ўсё, што ў тваім уяўленьні складае падмурак нацыянальнай ідэі й таго вобразу





Радзімы, які дагэтуль аб'ядноўваў тваіх суайчыньнікаў у народ.

Зрэшты, з рэвізорамі разабрацца даволі проста — яны нічога не ствараюць (прынамсі, пакуль не стварылі). А выкідаць нешта з сэрца толькі дзеля таго, каб там засталася пустата, ніхто ў здаровым розуме ня стане.

З клішэ дзяржаўнае прапаганды больш складана. Тут, каб адказаць сабе, «а можа гэта я ня маю рацыі?», трэба сапраўды прыслухацца да ўласнае сутнасьці й акрэсьліць, увабраць у вобразы, назваць словамі сваю дагэтуль неўсьвядомленую любоў.

Але што такое любоў?

**Я цябе зьем...**

Любіць — ні добра, ні дрэнна. Проста любоў — тое істотнае, што адбываецца з табой за гэтыя некалькі дзясяткаў гадоў.

Калі ў прыяцеля нарадзіўся сын — мабыць, першае дзіця ў нашым асяродку, — паміж іншых анэкдотаў у зьвязку з гэтым мне запомніўся адзін. Мы сьмяяліся з расповеду пра тое, як маці дзіцёнка стаяла зь ім на руках у нейкай менскай чарзе, а цёця ззаду, уперыўшыся ў малечу, з замілаваньнем прамовіла: «Ну какую будем сахарную ручку кушать — левую сахарную ручку или правую?»

Любіць — гэта калі аж зьеў бы! Ты хочаш яго ўвабраць у сябе, праглынуць, пасадзіць да сябе ў сэрца пад замок! Альбо — наадварот. Каб ён цябе ўвабраў, праглынуў, зьеў. Усё гэта выразы таго самага жаданьня: растварыцца — ці яму ў табе, ці табе ў ім. Пры чым любоў да пэўнага чалавека

нічым не адрозьніваецца ад любові да Радзімы, сваёй зямлі, дому.

Растварыцца... Колькі разоў мы чулі пра тое, што нехта выказаў жаданьне быць пасьля сьмерці разьвеяным там ці там... Ён проста хацеў увайсьці ў сваю Бацькаўшчыну, быць паглынутым ёю. Але рэальнае месца, якое ён указваў, было толькі «дарожным знакам». Насамрэч ён хацеў, каб яго разьвеялі ў любові.

Любоў — гэта тое, што царква акрэсьлівае словам «благодать». Гэта тая субстанцыя, якую называюць і Богам (Бог і ёсьць любоў). Мы не кантактуем з гэтай субстанцыяй наўпрост, бо яна існуе ў паралельным вымярэньні. Магчыма, мы ўсе з гэтай субстанцыі прыходзім і пасьля ў ёй зьнікаем. Дарма нехта думае, што ён кагосьці сустрэне на тым сьвеце. Ён жа нікога ня памятае з таго сьвету, адкуль прыйшоў.

Насамрэч ён прыйшоў зь любові, у яе й вернецца. І ніякай канкрэтыкі. (Прынамсі, да другога прышэсьця.)

## Рас-тварэньне

Калі ты думаеш, што спаткаеш ТАМ маму ці брата — яно так і ня так. Ты растворысься ў любові — іхнай, сваёй, усіхнай.

Любоў для зямнога чалавека — растварэньне: кагосьці ў сабе ці сябе ў кімсьці. Рас-тварэньне — гэта тварэньне. Любоў — творчасьць. Творчасьць, якую нарадзіла чыёсьці натхненьне, нараджае натхненьне ў табе, хто гэты твор слухае, чытае, глядзіць.

Любоў, Бог, творчасьць... Ніводзін сапраўдны





верш, ніводная сымфонія, карціна не пісаліся безь любові. Гэта — рас-тварэньне.

Мы знайшлі шмат сынонімаў для любові. Натхненьне, азарэньне, прасьвятленьне... Розныя кантэксты вымагаюць па-рознаму называць тое, сутнасьць чаго нязьменная.

Любоў — можа быць, гэта воблака, а можа — зоры. І цяпер, калі ты ведаеш, што гэта такое, табе застаецца толькі прыслухацца да свайго сэрца. Што ты там чуеш?

## Патрыятызм як здрада

Напрыклад, відавочная розьніца паміж паняткамі *любіць радзіму* і *любіць дзяржаву*. Радзіма, у адрозьненьне ад дзяржавы, не патрабуе ад нас адданасьці. А дзяржава, чым больш яна аўтарытарная, тым болей хоча ад нас вернасьці, якая насамрэч ёсьць любоўю да кіраўніка.

За сваю гісторыю беларусы добра навучыліся імітаваць гэтую любоў да розных уладаў і кіраўнікоў. Так добра, што не адрозьніш любоў ад імітацыі. Мабыць, апошнім і самым жорсткім урокам гэтай адданасьці былі савецкія суды над беларускай патрыятычнай моладзьдзю ў 50-я гады мінулага стагодзьдзя. Сотні юнакоў і дзяўчат атрымлівалі катаргу за здраду савецкай радзіме. І так да канца й не маглі ўцяміць, чаму такому яны здрадзілі. Іх радзіма — Заходняя Беларусь — ніколі не была савецкай. Пасьля — нямецкая акупацыя. Чаму ж яны здрадзілі? Іх судзяць за беларускі патрыятызм, які тут называюць «здрадай савецкай радзіме».

Гэтая розьніца паміж любоўю і клішэ пераследуе нашу нацыю й сёньня, у незалежнай

Беларусі. Хтосьці называе паноўны рэжым акупацыйным, а хтосьці — беларускімі ўладамі. Як разабрацца? І ці трэба разьбірацца? Дакладней, паміж чым і чым мы павінны разабрацца? Паміж ляяльнасьцю да рэжыму і любоўю да Радзімы.

Ты жывеш на сваёй зямлі сярод сваіх людзей і займаесься сваёй справай — і ў гэтым сэнсе беларусы ніяк ня меншыя патрыёты, чым іхныя суседзі. Але гісторыя навучыла іх не атаясамліваць радзіму з рэжымам. Прышчэпка аказалася настолькі моцнай, што за любую правіну ўлады яны гатовыя вынесьці такі прысуд — акупацыйная ўлада.

Ну вось, нічога новага я не сказаў. Але, акрэсьліўшы, што такое любоў, мы можам прасьцей арыентавацца ў закліках штосьці або кагосьці любіць.



# М

## ЯК МАНІФЭСТАВАЦЬ?

**Вызначэньне жанру — Пікет з разьлікам на арышты — Выпрабаваньне мовы на жывучасьць — Якія абаронцы, такія й каштоўнасьці**

Дзеля чаго праводзяцца акцыі, якія ня маюць ніякага грамадзкага розгаласу й працягу? На гэтае пытаньне ў мяне ёсьць тры адказы: дзеля самасьцьверджаньня актывістаў, дзеля «галачкі», дзеля няўмельства зрабіць усё належным чынам.

Калі акцыя для таго, каб проста выйсьці з выклікам ды заявіць пра сябе на ўсю вуліцу, бо кроў грае і хочацца рызыкнуць — тады зусім няважна, што напішацца на транспаранце. Калі акцыя сьведама робіцца толькі для таго, каб затрымалі, штрафанулі ці пасадзілі на суткі — значыць, зьвесткі пойдуць у справаздачу парушэньняў правоў чалавека ў РБ, і мы ўнясем свой уклад у нэгатыўны імідж уласнай краіны. Калі ж разьлічвалі на першае, а атрымалася другое, значыць, ня здолелі зрабіць таго, што самі задумалі.

## Вызначэньне жанру

Некалькі маладых гомельцаў вырашылі ўскласьці кветкі да помніку Кірылу Тураўскаму й такім чынам адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы. Сваю акцыю яны назвалі флэш-мобам. Але флэш-моб мае на ўвазе вялікі натоўп, які раптам пачынае рабіць нейкае скаардынаванае дзеяньне і праз хвіліну зноў ператвараецца ў звычайны натоўп.

Калі б у нашым выпадку спрацаваў закон чысьціні жанру й сотні вулічных мінакоў ускладі кветкі да Кірылы Тураўскага, а пасьля зноў ператварыліся ў вулічных мінакоў, гэта сапраўды было б відовішча, якое наўрад ці скончылася б затрыманьнямі, але мела б розгалас. Жанр флэш-мобу прадугледжвае імгненны прарыў паралельнае рэальнасьці ў той сьвет, дзе існуюць спэцслужбы, міліцыянты й судзьдзі. Выдумка і эфэкт нечаканасьці, а таксама бяскрыўднасьць дзеяньня павінны зьбіць названых таварышаў з тропу, але ніяк не справакаваць іх на рэпрэсіўныя захады.

Ну, ня справіліся гомельцы з такой задумай, не набралі сотні ўдзельнікаў і выйшлі самі. Учатырох, здаецца. А каб загадзя апраўдаць сваю нядздольнасьць, узброіліся атрыбутамі пратэсту.

«Маладзёны ішлі па вуліцы Савецкай, — паведаміла Радыё Свабода, — каб ускласьці кветкі да помніку Кірылу Тураўскаму. Апрача гвазьдзікоў у руках яны трымалі лісткі паперы з надпісамі «Родная мова» са штампам па-расейску: «Запрещено». Раты ў маладзёнаў былі завязаныя чырвона-зялёнымі стужкамі».





Журналісты назвалі гэта несанкцыянаваным пікетам. Але раз ішлі — значыць, было шэсьце. Пратэст быў падкрэсьлена антыдзяржаўным. Гомельцы добра ведалі, у якой дзяржаве жывуць, і, магчыма, нават разьлічвалі на затрыманьне. Інакш пра акцыю ўвогуле не згадаў бы ніхто. А тут арыштавалі й аштрафавалі. Ніхто й не падумаў, што рэпрэсуюць іх, па самым вялікім рахунку, за няўменьне зладзіць эфэктную й эфэктыўную акцыю, а зусім не за родную мову, як яны паведамілі журналістам.

Дарэчы, што там было напісана ў пастанове суда? «За парушэньне правілаў правядзеньня вулічных акцый»? Пры чым тут родная мова?

І яшчэ дарэчы. Як там самой мове ад гэтага ўсяго, ці дыхаць стала лягчэй? Па-мойму, не. Дый ня трэба ёй ніякай абароны. Ёй трэба — пашырэньне й прыхільнасьць уласнага народу. А гэта значыць, што прыхільна людзі павінны ставіцца да вас.

## Пікет з разьлікам на арышты

Зусім па-іншаму адзначыў Міжнародны дзень роднай мовы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Ён публічна запатрабаваў адмены ганебнага закону пра дзьве дзяржаўныя мовы. Заява мела шырокі розгалас, прынамсі, у інтэрнэце, і выклікала не пазбаўленыя сэнсу дыскусіі. Няма сумневу, што пачулі яе і ў кіраўніцтве краіны.

Паўтаруся — мы ўсе ведаем, у якой дзяржаве жывем і што моўная сытуацыя ня зьменіцца ўвадначасьсе. Але дзяржава павінна ўвесь час чуць патрабаваньне зьмяніць сваё стаўленьне

да роднае мовы, гэта значыць, зьмяніць заканадаўства і моўную палітыку ў цэлым.

Зь іншага боку, калі мы пазыцыянуем сябе як антыдзяржаўныя сілы з чырвона-зялёнымі стужкамі на ратах, ніякая дзяржава ніколі ні слухаць нас, ні, тым больш, чуць ня будзе. Чаго мы дамагаемся? Пашырэньня мовы ці ліквідацыі дзяржавы?

Натуральна, зрабіць маніфэстацыю з разьлікам на арышты й штрафы лягчэй, чым сабраць сто сяброў на сапраўдны флэш-моб ці абысьці сотні кватэраў і пераканаць бацькоў дамагчыся адкрыцьця беларускае клясы. Але пікеты перастаюць чапляць за жывое жыцьцё, а задача ствараць школы ня зьнікне ніколі.

### Выпрабаваньне мовы на жывучасьць

Дзейнасьць «за мову» ня можа быць антыдзяржаўнай. Пра гэта сьведчаць і словы старшыні ТБМ Алега Трусава на нядаўняй он-лайн-канфэрэнцыі Радыё Свабода. Мы працуем з начальствам усіх узроўняў, бо інакш нічога не даможамся — ні ў школе, ні ў СМІ, ні ў візуальным афармленьні краіны беларускае мовы больш ня стане.

Вось чаму палітызацыя моўнага пытаньня ня можа выходзіць за межы заканадаўчых ініцыятываў і патрабаваньняў.

Дзяржава таксама «моўная», толькі адсотак яе беларускамоўнасьці надзвычай малы. Першы канал нацыянальнага радыё, некалькі перадачаў на тэлевізіі, некалькі дзяржаўных пэрыёдыкаў, выступы асобных чыноўнікаў... Што-нішто ў сыстэме адукацыі й бюджэтнай культуры, дні





беларускай пісьмовасьці... Мізэр? Але не нішто. Нехта кажа — акупацыйны рэжым. Хутчэй, каляніяльны. Зь іншага боку, ці ў большай ступені беларускамоўная наша нацыянальная апазыцыя? Гэта на выпадак «скіданьня» цяперашняга рэжыму. Хто там прыйдзе яму на зьмену? І што там сьвеціць беларушчыне?

У нас з часоў Машэрава склаўся стэрэатып, што безь дзяржаўнай падтрымкі беларуская мова перастане існаваць. Ці дастаткова мінулых пятнаццаці гадоў, каб пераканацца, што гэта няпраўда? У параўнаньні з тымі ж машэраўскімі часамі сёньня становішча мовы не выглядае фатальна. Іншая рэч, што патрабуецца мноства эфэктыўных дзеяньняў дзеля яе пашырэньня.

Усе гэтыя пятнаццаць гадоў дзяржава быццам выпрабоўвала мову на жывучасьць — будзе ня будзе. Ёсьць. І толькі ўзмацнела. І ня дзенецца ўжо нікуды й ніколі. Але бяз масавай беларускай школы кудысьці можа падзецца нацыя. Палітызуючы ж моўнае пытаньне па-за межамі заканадаўчае прасторы, мы сам народ настройваем супраць беларушчыны.

### Якія абаронцы, такія й каштоўнасьці

Рух за пашырэньне беларушчыны сёньня абсалютна актуальны. Калі спалучыць два дзеяньні — заяву Міхася Міцкевіча і выступ гомельскіх актывістаў, можна было б атрымаць наступнае. Санкцыянаваны ўладамі пікет — калі ўжо так хочацца менавіта пікету — за пашырэньне роднае мовы. І абсалютна ня важна, на якім бангалоры такому пікету адвядуць месца. Бо спатрэбіцца гаварыць зь людзьмі,

расказваць, тлумачыць, даказваць, заваёўваць прыхільнікаў.

Нават адзін выпадковы мінак дзе-небудзь у прадмесьці, які далучыцца да беларушчыны ці хоць бы зацікавіцца — гэта каштоўны набытак, а ня страта сотні, якія адвернуцца ад дзівакоў з завязанымі ратамі, а разам і ад таго, за што яны «змагаюцца» — ад беларускае мовы. Скажуць: якія абаронцы, такія й каштоўнасьці.



# Ц

# Н

## ЯК НАЗЫВАЦЦА?

**Я балт! — Забыты подзьвіг літвіна — Агульная млявасьць — Мы беларусы, мірныя людзі**

Хоць гаршком назаві, толькі ў печку ня стаў. Сэнс гэтай прыказкі хаваецца ў слове «печка». Печка — пекла, гарніла, тыгель, у якім гартуецца твая саманазва. Гэтак у напаленай печцы гісторыі гартавалася ў 19-м і 20-м стагодзьдзі назва «беларусы», аплочаная крывёю, пакутамі й жыцьцём мільёнаў. Калі ж назва нічым не аплочаная, яна проста нічога ня значыць. Хоць гаршком назаві...

### Я балт!

Нічога ня значыць тут і твая фізычная кроў. Колькі сьведамых беларусаў сярод этнічных габрэяў, татараў, расейцаў! Мноства. Мой прыяцель, патомны ніжагародзец і пры тым патрыёт-беларус, чалавек зь «ісьціннарускай рэпай», прымервае на сябе модныя этнічныя адзежкі, з рознымі інтанацыямі прамаўляючы:

«Я балт? Я — балт! Я балт...» Усе рагочуць, і ён сам рагоча першы.

Экспэрымэнт са словам «літвін» мае той самы вынік.

«Я беларус» выходзіць у майго прыяцеля зусім арганічна. І ён распавядае, як некалі шпацыраваў па старой Варшаве са сваім цёзкам — этнічным расейцам з такой самай рэпай. Гаварылі, ясная рэч, па-беларуску і, зразумела, пра адраджэньне Бацькаўшчыны. І раптам да іх дайшло! Адзін — чыстакроўны ніжагародзец, другі — такі самы самарскі. Пасьмяяліся з парадоксу, але — па-добраму. Бо абодва даўно ўжо сьведама й плённа працуюць дзеля беларушчыны. І зусім не парадокс тут, а чароўная сіла загартаванага ў гісторыі найменьня. Беларус — гэта назва, за якой стаіць подзьвіг, і легенда, за якой — культура.

### Забыты подзьвіг літвіна

За літвіном сёньня ў масавай сьвядомасьці нічога такога няма. Колішняе забылі, і яшчэ толькі трэба зьдзейсьніць новы подзьвіг, стварыць легенду й культуру. Але зрабіць гэта зьнізу, з падпольля ды яшчэ пры тым, што ніхто з ініцыятараў нічым асабліва ахвяравацца не зьбіраецца, немагчыма.

Як немагчыма ўявіць сабе, што мільёны беларусаў прымерваюць на сябе новую адзежку: я — балт!

Зьмену саманазвы можа правесьці дэмакратычна абраная ўлада. Але дэмакратычнай яна ня стане, пакуль ня стане беларускай, пакуль увесь





народ, дзякуючы тэлевізіі, будзе ўтрымлівацца ў культурным полі расейскай правінцыі. Ня можа быць дэмакратычных пераменаў у асобна ўзятай Самарскай губэрні.

### Агульная млявасьць

Гэты дыягназ этнічнага здароўя беларусаў і прымушае некаторых нашых суайчыньнікаў «капнуць глыбей». Маўляў, назавемся інакш і — усё пакоціць. Але гэты экстэнсіўны рэвізіянізм вынікае з маргінальнага самапачуваньня. Здаецца, назва «беларусы» вычарпаная дарэшты, не дае новых Багдановічаў і Гарэцкіх, новае прухі, уздыму й трыюмфу. Значыць, варта толькі махнуць чароўнай палачкай, і гарбуз зноў ператворыцца ў каралеўскую карэту.

Толькі ў жыцьці ня ўсё, як у казцы. У жыцьці для таго, каб быў цуд, патрэбная ня палачка, а ахвярная праца, вялікі талент і вока празорцы, каб разгледзець, а ня страціць новых Багдановіча й Гарэцкага, якія ёсьць, толькі ня вылучаныя з доўгага шэрагу «Начной чытанкі». Цуд — гэта дар іх убачыць. Скажыце, пры чым тут саманазва, калі такога дару няма?

### Мы беларусы, мірныя людзі

Ёсьць вялікая аблуда ў тым, каб назву «беларусы» вінаваціць у спрыяньні русіфікацыі. Гэта зноў жа — выдаткі нашай этнакансьпіралёгіі. Наадварот, складнік «русы» сьведчыць для расейца пра тое, што «яны ўжо тут», а іх гімн «мы мірныя людзі» ў такім кантэксьце гучыць падазрона.

Беларус для расейца, нібыта, блізкі, але парадаксальна шматкроць больш падступны за немца ці амэрыканца, бо — нябачны. Блізкае, але не такое больш палохае расейца, як далёкае. А ўсякая дэманстрацыя нашай адметнасьці — для імпэрскага ўспрыманьня — ператварае «бела-рускі» ў амаль што «анты-рускі».

Як вядома, расейцы блізкае бачаць і разумеюць зь цяжкасьцю. Нядаўна ў нейкай тэлевіктарыне маскоўская кабетка адказала на шмат пытаньняў і выйграла б кучу грошай, калі б не завалілася на апошнім: «Што па-ўкраінску значыць *каханая*?» I сябрам кабетка тэлефанавала, і ў мінакоў пыталася — ні ў зуб нагой! Спынілася на адказе: каханая — значыць, прыгожая. Ясна, што з ангельскім ці францускім словам праблемы б ня ўзьнікла.

Паразмаўляйце з расейцам у Расеі па-беларуску, пераканаецеся — не разумее. І што тады значыць той нібыта факт, што 80 адсоткаў лексыкі ў нас аднолькавыя? Нічога. На першым месцы ў гэтай песьні ўсё ж ня словы, а музыка.



# О

## ЯК ОКАЦЬ?

### Пад націскам паміж Усходам і Захадам

Беларусы, як правіла, ня окаюць. Яны кажуць адкрытым ротам — *Масква*. А калі ў слове сустракаецца літара «о», яе вымаўляюць пад націскам, нібы пад прымусам. Оканьне для нас — як знак чужога, як сымбаль геапалітыкі, як індыкатар нашага знаходжаньня паміж Усходам і Захадам.

Да прыкладу, варта беларусу прачытаць пасвойму назву расейскай сталіцы — *МОсква* — і ўжо загучыць па-польску, зь фіксаваным націскам на перадапошнім складзе. Наш *паляк* парасейску — *пОляк*, як і па-польску. Прозьвішча *Дубавец*, напісанае па-расейску, у беларускім прачытаньні зьмяняе свой націск — *ДубОвец* — і таксама гучыць, як па-польску, а напісанае па-беларуску, па-расейску чытаецца зноў жа як па-польску — *ДубАвец*. Калі выключыць беларускі фактар, Дубавец-Дубовец выпадае з геапалітычнай прасторы, бо ён і не расеец, і не паляк. А хто?..

Са зьяўленьнем інтэрнэту і беларусы заокалі. Але ня ў тым сэнсе, як окаюць у паўночнарасейскіх ці ў нашых заходнепалескіх гаворках. «Чаго ты ўсё окаеш?!» — папракае адзін карыстальнік сеціва другога, які на кожны допіс адказвае кароткім «ok» — ад ангельскага o'key. Мог бы і па-свойму напісаць: добра, няхай, згодны.



# П

# II

## ЯК ПРЫСТАСОЎВАЦЦА?

**Чалавек на апошнім месцы — Небеларуская ўлада — Калябаранты — Дамова з рэжымам — Страшней за забойства**

Адсутнасьць прынцыпаў сама па сабе — яшчэ не злачынства.

Прыстасаванец у нас — лаянкавае слова. Але з тым, што чалавек выжыў, дзякуючы свайму прыстасаванству, таксама згаджаюцца, нібыта, усе.

Прыстасаванства заслужыла сабе ганьбу за беспрынцыпнасьць. Але з наяўнасьці прынцыпаў пачынаюцца войны.

### Чалавек на апошнім месцы

Так здарылася, што пры ўсіх рэжымах на нашай зямлі большасьць людзей ня мела выбару, апроч прыстасаванства, каньюнктуры, калябарацыі, канфармізму. Бо ўлада для чалавека ніколі не была сваёй, ніколі ня брала асобу чалавека за пункт адліку. Што заўгодна магло быць важней — ідэалёгія, ворагі, індустрыялізацыя... Толькі не чалавек.

Прыстасаванства — нармальная рэакцыя чалавека на абставіны. У тым, што многія нашы супляменьнікі прыстасаваліся гаварыць па-расейску, нас насамрэч абурае не прыстасаванства й ня тое, што па-расейску, а тое, што яны страчваюць сваю (і нашу) самабытнасьць, ад чаго й сама гэтая самабытнасьць страчваецца, бо бяз носьбіта яна не жыве.

Чаму адзін варыянт супрацоўніцтва з рэжымам мы называем ганебнай калябарацыяй, а на іншы заплюшчваем вочы? У кожным разе крытэры ацэнкі — у нас саміх, дакладней, у нашых уласных перакананьнях. А само па сабе прыстасаванства тут ні пры чым. Вінавачаньні ў прыстасаванстве беспадстаўныя. Або, вінавацячы ў прыстасаванстве, мы насамрэч вінавацім у нечым іншым.

### Небеларуская ўлада

Беларускае ўлады, якая б хоць збольшага адпавядала беларускай ідэі, у Беларусі не было ніколі. А гэта значыць, усе, хто тут рабіў нешта грамадзкае значнае, былі калябарантамі. Праўда, тыя, хто пісаў віншаваньні Кайзэру, Пілсудзкаму або Гітлеру, дагэтуль ня маюць рэабілітацыі. А тых, што віншавалі Сталіна, афіцыйна ніколі ніхто не асуджаў.

Хоць у пляне рэальнага крыміналу і першыя і другія такія ж злачынцы, як і ахвяры.

Гэта самае галоўнае — ці не прынёс ты крыўды іншаму: не забіў, не зьнявечыў, не пакінуў бяз хлеба, не зламаў лёс і не пасярэднічаў ва ўсіх гэтых злачынствах. Калі не — усё астатняе — толькі гульня ўяўленьня, — ня больш.





Выходзіць, пісаць оды тыранам — не ганебна? Але самі тыраны лічаць сябе героямі. І мы, пішучы оду тырану, ніколі не ўсхваляем тыранства, а толькі геройства, гэта значыць, мы пішам оду герою.

Большасьць беларускіх паэтаў у часы Брэжнева пяяла хвалу рэжыму й рабіла гэта шчыра, бо шчыра верыла ў камунізм.

Тысячы беларускіх настаўнікаў, якія пад нямецкай акупацыяй вучылі ў школах дзяцей, у нацызм шчыра ня верылі. Яны выконвалі свой прафэсійны абавязак і толькі за гэта іх расстрэльвалі савецкія партызаны — як калябарантаў. Хто тут злачынец, а хто ахвяра — адказ лінейны.

Прыстасаванец — зусім ня той, хто падпісаў дамову з д’яблам. Сумленьне чалавека можа быць заплямленае чужой крывёй, бядою ці крыўдай. І нічым іншым.

Ідэалёгіі прыходзяць і сыходзяць. Калі імі вызначаецца, хто праведнік, а хто злачынца, то заўтра фігуранты зьменяцца месцамі, маса людзей пацярпіць, а злачынцы дажывуць свой век як героі.

### Калябаранты

Часам мы прымаем за калябарацыю сцэны публічнага самапрыніжэньня чалавека. Памятаеце, як Алесь Наварыч сказаў, што за сьпінаю прэзыдэнта яму спакойна? Але мы ня можам асуджаць Наварыча ані за асаблівасьці характару, ані за жаданьне прыстасавацца, ані, тым больш, за тое, што ён атрымаў прэмію за свой раман незаслужана. Заслужана.

Нас абурае, што столькі людзей культуры займаюцца не сваімі творамі, а сэрвіроўкай прэзыдэнцкага стала? Але ніхто іх да гэтага не прымушаў. Гэта значыць, што ў іх гэта ёсьць і заўсёды было. Урэшце, ня ўсе людзі — Данкі з вырваным сэрцам.

Матывацыі прыстасаванства — ня з плоскасьці ідэалёгіі. Гэта ўвогуле ня справа грамадзкіх катэгорыяў. Гэта справа індывідуальная, прыватная, асабістая. І асуджаць такога чалавека, калі вам хочацца яго асуджаць, вы можаце як слабую ці нявартую асобу. Але ніяк не за здраду радзіме ці ідэі.

### Дамова з рэжымам

Сёньня «падпісаць дамову» з рэжымам — ды хоць бы пакласьці ў кішэню пашпарт з «капустай». Ці ёсьць у самых прынцыповых людзей выбар? Чаму ж не? Адмоўся, не бяры ніякага грамадзянства. У нейкім квазірамантычным варыянце так і павінна быць. Увядуць новы закон аб мовах, які забараняе выходзіць тарашкевіцай — закрый сваю газэту або часопіс. Ці выходзь падпольна.

Прынцыпова? Так. Але непрадуктыўна. Бо гэтак нацыянальная ідэя добраахвотна сыходзіць у гета й будзе зьмяншацца, пакуль ня зьнікне канчаткова. Але заўваж, ты захоўваеш вернасьць прынцыпам толькі на ўзроўні знакаў, а ня сутнасьці.

Той, хто хацеў бы пашырыць кола, паводзіцца ў гэтым сэнсе беспрынцыпна. Ён прыстасоўваецца. Ён кажа пра дыфузію рэжыму. Вось Алег Трусаў кажа, што пачынаецца працэс зьмены





чынавенства — на месца былых камсамольцаў прыходзяць дзеці Адраджэньня. Можа быць, там знойдзецца з кім пагаварыць? Размова ніколі ня будзе на шкоду. А калі ты настолькі загаварыўся, што мы ўжо ня можам прызнаць у табе свайго... Значыць, ты й раней ніколі ня быў сваім. А цяпер вось праўда праявілася, і дзякуй Богу.

Калі глядзець на нашу сытуацыю здаля, дык супрацоўніцтва з уладай на карысьць Беларусі, яе каштоўнасьцям — гэта й не прыстасаванства ніякае. Што ганебнага ў тым, каб лідэры апазыцыі выступалі ў афіцыйных СМІ ў тых сытуацыях, дзе інтарэсы супадаюць? Ці гэта немагчыма? І выступ ня возьмуць у рэдакцыі? А ці вы спрабавалі прапанаваць?

### Страшней за забойства

Калі для ўлады на першым месцы не чалавек, тады прыстасаванства становіцца злачынствам, горшым за забойства. Нешта не чуваць з заходняга сьвету, дзе ў галаве вугла чалавек, каб некага закляймілі за прыстасаванства.

Раскладаючы па палічках уласнае прыстасаванства, трэба задаць сабе тры пытаньні, якія насамрэч зусім не зьвязаныя з тым, ці дачыняесься ты з рэжымам, ці не. Ты ў кожным разе дачыняесься, хоць бы таму, што жывеш тут і цяпер. Вось гэтыя тры пытаньні:

Ці прынес я каму-небудзь рэальную шкоду?

Ці здрадзіў я ўяўленьням аб прыстойнасьці — лісьлівіў, хлусіў, маўчаў?

Ці здрадзіў я нейкай ідэалёгіі?

У часы аўтарытарнай прапаганды гэтая шка-

ла злачынстваў і «злачынстваў» перагортваецца з ног на галаву. Але…

Але пэрыяды татальнай калябарацыі часам зьмяняюцца пэрыядамі ўсеагульнага экзарцызму. На сучаснай мове гэта называецца люстрацыяй. Люстрацыі падлягаюць зусім не прыстасаванцы, а тыя, у каго станоўчы адказ — на першае пытаньне.



# Р

## ЯК РАБІЦЬ?

**Наш час не пакіне антыкварыяту — Выгнаньне аўтара — Трыюмф сьмецьця — Вечныя зэдлікі**

Уладзімер Караткевіч казаў: любую справу рабіць хвацка! Але хвацка — гэта ты. А як — рабіць?

Мастак Валодзя Голуб езьдзіць па галерэях і захапляецца творамі старых майстроў: Вэрмэер выглядае як учора напісаны! Раней і зэдлік рабілі на вякі, а сёньня ўсё, што ні робіцца — дачаснае. Тры-пяць гадоў — і мяняй імбрык, пралку, тэлевізар. Шафы, зэдлікі, сталы маюць тэрмін прыдатнасьці. Як масла ці тварог. Ды што казаць, будынкі, архітэктура, нават ляндшафты — усё часовае, не разьлічанае на вечнасьць ці хоць бы на ўнукаў.

### Наш час не пакіне антыкварыяту

І вялікіх твораў мастацтва — таксама.

Расейскі архітэктар старое школы выказаў думку, што цяперашнія дамы (у сэнсе — будынкі) пазбаўленыя цела. Дамы-пакункі. Тое самае

ў мастацтве й літаратуры (тое ж, між іншым, і ў палітыцы). Праекты не становяцца творамі, бо сама іх сутнасьць застаецца на раскрэсьленым ватмане. І ўсё. Канец фільму.

Пад праекты знаходзіцца фінансаваньне. Дачасныя зэдлікі развальваюцца ў нішто адразу, як толькі «асвоены сродкі». Але ад праектаў не нараджаюцца дзеці, і дзецям ад іх не застаецца нічога.

Нават такую кансэрватыўную сфэру, як беларуская літаратура, мутацыя ў праекты працяла амаль да донца. І старыя і малыя пішуць хвостка, зло або сьмешна, мы сьмяемся, ці плачам, ці гневаемся разам зь імі, але толькі на момант прачытаньня тэксту. Далей — мог бы й не чытаць...

## Выгнаньне аўтара

Рэч у тым, што выканаўца праекту — ня аўтар, а толькі імітатар твору. Ён накрэсьлівае на паперы «ідэю дому», будаваць які ніхто ня будзе. Імітатар у нашым праектным сьвеце заняў месца Вэрмэера, аўтара.

У часопісе крытык абураецца тым, што новая кніга Ніла Гілевіча выйшла накладам 100 асобнікаў. Пры гэтым — за грошы аўтара, таго самага, што заўсёды чытаўся ў Беларусі безь перабольшаньня — масава.

Можа быць, народны пісьменьнік «не ўпісаўся ў рынак»? Дакладней — Ніл Гілевіч папаў у праектны пераплёт. Да грошай чытачоў, якія, думаю, ня менш масава, чым заўсёды, куплялі б яго новую кнігу, яго не дапускае ўлада. Што да рынку, дык яго няма. Прычым ні ў якой сфэры.





Ёсьць карпаратыўны дзялёж грантаў, куды не дапускаюць Гілевіча гэтаксама, як назіральніка за выбарамі не дапускаюць да падліку галасоў, затуліўшы стол зь бюлетэнямі шчыльным шэрагам сьпінаў. Гранты ідуць на «праекты», а па-сутнасьці — проста кормяць пэўную карпарацыю, што не дае ані плёну ніякага, ані выніку.

## Трыюмф сьмецьця

Нехта назваў наш «стабільны» час часам сьмецьця. Трэш — папулярны «кірунак» у літаратуры, палітыцы, жыцьці.

Большасьць Гілевічавых калегаў у разгубленасьці. Іншыя з усіх сілаў стараюцца адпавядаць сытуацыі, пісаць тое й так, што й як у гэтых умовах можа і накарміць, і прынесьці вядомасьць. Але нашто майстру рабіць дачасныя зэдлікі? Калі ўсе аўтары прагнуцца пад гэты «цякучы пэрыяд», заўтра ня будзе каму знайсьціся ў новым часе, калі зноў стане важным не праект, а твор, не рыштаваньні, а цела архітэктуры, ня будзе каму самой наяўнасьцю сваёй зьмяніць умовы гульні, у якіх аўтар стаў падчарам і фінансуецца паводле рэшткавага прынцыпу. Засталіся сродкі ад «асваеньня сродкаў» — можна й аўтару нешта заплаціць.

Эх, былі ж некалі часы, калі выдавец аўтару кнігу — замаўляў. Пад тое выдаваўся аванс. Выдавец разумеў, што аўтар можа тыя грошы пражыць, прагуляць у рулетку, прапіць. Аднак рызыка апраўдвалася тым, што калі кніга ўсё ж напішацца й выйдзе з друкарні, усе выдаткі пакрыюцца з коптурам.

## Вечныя зэдлікі

У старым сьвеце, між іншым, і ў гэтым праектным часе захоўваюць тую герархію дачыненьняў, бо разумеюць, што, страціўшы такую герархію, страціш і шанец выйсьці з гэтага бясплённага часу. Кажучы словамі Гілевіча, «пераражыўшы вайну». Калі ж бы людзі ўспрынялі вайну не як нешта дачаснае, а як нейкую своеасаблівую стабільнасьць, яны б ніколі не дачакаліся яе канца.

Заўтра пачнецца зь вяртаньня аўтара. Калі ўсе астатнія ўдзельнікі працэсу канчаткова занудзяцца ў сваёй пустаце. І калі сам аўтар сёньня канчаткова не ператворыцца ў праектанта. Праекты — усяго толькі пражэкты. У літаратуры, палітыцы, жыцьці.

Хто можа, рабеце вечныя зэдлікі і не аддавайце іх «за нішто», бо гэта не красьлюнкі на ватмане, а тое, што некалі стане антыкварыятам нашага часу.





# С

## ЯК СПРАЧАЦЦА?

**Выпрабаваньне айца Надсана — Спрэчка ня сварка — З бобу на гарох — Тэст для сябе самога**

Спрачацца — палемізаваць, дыскутаваць, пераконваць адно аднаго.

Мне пашчасьціла назіраць, як айцец Аляксандар Надсан адказвае на пытаньні публікі. Паміж іншым — пра папоў-русіфікатараў, палянізатараў-ксяндзоў ды антыбеларускі рэжым. Публіка хацела аўтарытэтнага пацьверджаньня свайму ўласнаму стаўленьню да гэтых зьяваў, а заадно, сьвядома ці несьвядома, — выпрабаваць айца на цьвёрдасьць пазыцыі.

### Выпрабаваньне айца Надсана

Можна было жыва ўявіць сабе, як прамоўца ў адказ кляйміць маскоўскі імпэрыялізм, прадажны клір ды ганебных уладароў. Прынамсі, паводле лінейнай лёгікі так і мусіла адбывацца. І публіка разышлася б задаволеная. Але на справе ўсё атрымалася інакш.

Айцец Надсан, чалавек мудры й дасьціпны, пачынаў свае адказы, а ў кантэксьце ягоных словаў чыталася: што б такое сказаць, каб нікога не пакрыўдзіць? І казаў пра тое, што мы самі ня маем права да змусу кагосьці, пра тое, як нас ушанаваў Бог, даўшы нам жыцьцё, і як мы з гэткай самай пашанай павінны ставіцца да іншых, пра тое, што чым бліжэй мы да Бога, тым бліжэй паміжсобку...

Словам, нібыта, цалкам прымірэнчыя казаў рэчы. Нікога не крытыкаваў, не кляйміў, ня ганіў. Але кожны ў залі пры тым мацнеў у думцы, што Надсан мае цьвёрдую пазыцыю. Проста дзіва нейкае. Ён нікога не зачапляе, а ты адчуваеш, што ён, таксама як і ты, не прымае ані той русіфікацыі, ані палянізацыі, ані гвалту.

У выніку публіка атрымала ўсё, што хацела, але пры тым разышлася не са сьціснутымі кулакамі ды кленічамі на адрас паскудных праяваў жыцьця, а — прасьветленая.

## Спрэчка — ня сварка

Хоць два гэтыя жанры ў наш час лёгка блытаюцца. Атрыбуты сваркі — пераход на асобу, зьнявага ды навешваньне ярлыкоў. Але ўсё гэта ніяк ня ўпісваецца ў законы спрэчкі.

«Ты дурань — сам дурань» — гэта ня спрэчка. Гэта ня спрэчка, калі я кажу: «Трэба купляць зямлю», — а візаві мне адказвае, што я поўны ідыёт, бо паталягічна ненавіджу тое й тое (адкуль ён гэта ўзяў?), што ў мяне генэтычная (этнічная, расавая) прага нажывы, што я — бальшавік (а ён сам ненавідзіць бальшавікоў), ці нацыяналіст





(а яго гідзіць ад «нацыкаў»), ці апазыцыянэр (а яго дасталі «тупыя оппы»)...

Адкуль каму ведаць, хто ёсьць хто? Ён чалавек, такі самы, як і ты, толькі думае інакш. Дык у тым жа й сэнс спрэчкі, каб ты сваім думаньнем пераканаў яго ў слушнасьці свайго погляду або наадварот. У спрэчку ўваходзяць з гатовасьцю зьмяніць уласнае гледзішча — як у шахматы сядаеш гуляць, дапускаючы, што табе можа быць мат. Спрэчка немагчымая без узаемапавагі.

Калі ў інтэрнэце чытаеш камэнтары да ўласных тэкстаў, болей даведваесься пра сябе самога, чым па сутнасьці таго, што выкладзена ў тваім тэксьце.

## З бобу на гарох

Неяк я памясьціў у сеціве эсэ «Партрэт бацькі». І — пасыпаліся ядры «палемістаў». Першая «загана» (майго эсэ?) — натуральна, тое, што жыву ў Вільні. Але да гэтага я прызвычаіўся і пытаньне пра сваё месца жыхарства не абмяркоўваю, бо не лічу яго важным. Другая — што мой бацька такі й такі, а значыць, я сам — увогуле растакі. Таксама ня адрасна, бо таўруюць кароў, а не людзей. Трэцяя «загана», чацьвертая, пятая... І ні слова на тэму выказанага ў тэксьце.

Асабліва шчыраваў надта прысутны ў інтэрнэце нехта «gorliwy litwin», для якога пераход на асобу аўтара — як рэфлекс. Я ня стаў бы яго згадваць, калі б створаны ім уласны вобраз ня быў такой дакладнай ілюстрацыяй падмены жанраў — спрэчкі і сваркі. Узяўшы сабе за мянушку назву віленскай масонскай лёжы, а за юзэрпік — партрэт генэрала Л. Жалігоўскага,

ён быццам сьцьвердзіў сваю прыхільнасьць да ідэалаў «каралеўскага мастацтва» і краёвасьці (а гэтыя ідэалы ў нас часьцяком супадалі, бо вызнаваліся тымі самымі людзьмі). Але ніводзін зь вядомых масонаў краю і ніводзін зь вядомых краёўцаў ніколі не апускаўся да сварак, абразаў і ярлыкоў.

Прадметам спрэчкі зьяўляецца не асоба візаві, а сутнасьць праблемы. А для таго, каб злавіць гэтую сутнасьць, трэба чуць, услухоўвацца ў аргумэнты й не падмяняць тэмы, не загаворваць яе, не зьбівацца з бобу на гарох. Спрэчка губляецца, калі губляецца яе нітка. Мне важна зразумець цябе, каб я мог захоўваць канву нашай размовы.

### Тэст для сябе самога

Можна сказаць, што мы й распачынаем спрэчку для таго, каб праверыць слушнасьць уласных уяўленьняў, а калі яны няслушныя, дык прыняць іншае гледзішча. І такая зьмена, калі яна здараецца, становіцца вяхою на нашым уласным шляху. Гэта значыць, што мы не спыніліся, мы рухаемся, мы прамінаем гэты дарожны знак і ўжо бачым наступны. Чапляючы ярлык на чалавека, вы яго самога разглядаеце як прыдарожны слуп, а не як падарожніка, які, магчыма, яшчэ ня страціў здольнасьці руху.

Пачуцьцё асалоды ад усьведамленьня ўласнае эвалюцыі можна параўнаць хіба што з асалодаю творчасьці. Можа быць, спрэчка — гэта й ёсьць творчасьць?



## ЯК СЯБРАВАЦЬ?

**Сябра не таварыш — Слова на мяжы — Зьнікае, нібы аблачынка — Адкуль бяруцца сябры?**

Самы загадкавы тып дачыненьняў — сяброўства.

Яно, як і любоў, узьнікае не на зямлі, але, у адрозьненьне ад любові, якая прагне раствярэньня адно ў адным, сяброўства патрабуе дыстанцыі.

Нібыта, не сваякі, не калегі й не таварышы. Сябры.

### Сябра не таварыш

Мой колішні выкладчык Пятро Садоўскі нават выкарыстоўвае панятак сяброўства (як нейкую ідэальную меру дачыненьняў), каб выкрыць фальшывасьць таварышаваньня. У ягоным артыкуле на сайце Радыё Свабода шмат прыкладаў на гэтую тэму, пачынаючы ад «нізкай» этымалёгіі слова «таварыш» і сканчаючы нізкім маральным кшталтам таварышаваньня — Беларусі з Вэнэсуэлай або Нямеччыны з Расеяй. Якуб Лапатка ў камэнтарах да гэтага тэксту спадара Садоўскага заўважае: «Сябраваць дзяржавамі і народамі немагчыма».

Дзяржавамі немагчыма — згодны, а народамі... Тут ёсьць нюансы.

Да прыкладу, Павал Севярынец у сваёй кнізе «Люблю Беларусь» чарговы раз акцэнтуе ўвагу на здольнасьці беларусаў ахвяравацца і, як вынік, на любові да беларусаў з боку ўсіх іхных суседзяў.

Праўда, можна на ўсё гэта паглядзець і інакш. Беларусаў любяць усе, бо беларусы, у адрозьненьне ад усіх астатніх, ніколі ні на што не прэтэндуюць, у тым ліку, на сябе й сваю краіну. Прынамсі, да апошняга часу было так. І калі за саветамі ў прыймовым пакоі крамлёўскага чыноўніка армянін сядзеў са скрыняй каньяку, а літовец з чамаданам каўбасаў, і зьяжджалі яны, адпаведна, са скрыняй і чамаданам фондаў, дык бескарысьлівы беларус прыходзіў ні з чым, і сыходзіў, бяссрэбранік, ні з чым. Нават саромеўся думаць пра тое, каб нечым падмазаць там, дзе падмазаць — норма дачыненьняў.

Гэткая сьвятасьць, між іншым, часьцяком межавала з дурасьцю. І калі літовец за саюзныя грошы на манумэнтальную прапаганду аднавіў з руінаў Троцкі замак, беларус за тыя ж грошы мэтадычна качаў бэтон у прыдарожныя канструкцыі «Наша цель — коммунизм».

## Слова на мяжы

*Сяброўства* і гучыць на кожнай мове па-сакральнаму, быццам вісіць у паветры. Таму расейскі «друг» у беларускім кантэксьце выглядае грубавата і па-прасьцецку. Ну, быццам друг — гэта той, каго можна без рэвэрансаў пабразгаць па плячы й заклікаць на піва. Польскі «прыяцель» па-нашаму — таксама ня сябра, а нехта, дачыненьні з кім маюць легкаважны ці хуткацечны характар. І наш «сябра» ў вуснах расейца ці паляка гучыць паблажліва й фамільярна.

Іншымі словамі, калі карыстацца апазыцыяй Пятра Садоўскага, таварыш — гэта зямная





прафанацыя ідэальнага — сябра, які ў кожнай мове мае сваё, прывязанае да гэтай тэрыторыі і гэтай нацыі слова-азначэньне, якое, пераходзячы мяжу, «зазямляецца», набываючы сэнс таварышаваньня.

Нешта падобнае, дарэчы, адбываецца і зь любоўю, якая ў нас значыць нешта сакральнае, у расейцаў дапаўняецца сэнсам нашага «зямнога» каханьня, у палякаў набліжаецца да простага ўпадабаньня чагосьці, тады як польская сакральная міласьць у нас — гэта проста нешта мілае, а ў расейцаў і ўвогуле амаль што міласьціна.

## Зьнікае, нібы аблачынка

У нашым сёньняшнім разуменьні сяброўства высьпелілася з кніг Дзюма й Рэмарка, з асяродкаў шасьцідзясятнікаў, што чыталі Папу Хэма, слухалі Высоцкага й глядзелі кіно пра вайну. Нашы ўласныя сябры прыходзілі са школы, з войска, са студэнцкіх аўдыторыяў, зь першае працы на заводзе.

Жыцьцёвы досьвед навучыў нас, што сябры найлягчэй набываюцца ў маладым веку, а страчваюцца праз усё жыцьцё.

У адрозьненьне ад іншых тыпаў дачыненьняў, у тым ліку й ад любові, сяброўства страчваецца зусім лёгка, яно быццам увесь час чакае нейкай дробнай нагоды, каб выпарыцца й зьнікнуць, нібы аблачынка. А нават і без нагоды. Сяброўству вельмі хутка надакучвае яно само. Таму выпрабоўваць ягонае цярпеньне доўгімі й блізкімі кантактамі ня варта.

### Адкуль бяруцца сябры?

Пакольки сяброўства — зьява не зусім зямная, мы ня можам самі сваёй воляй ствараць сабе сяброў, але можам быць гатовымі да іхнага зьяўленьня.

Зразумела, трэба праяўляць узаемавыручку, здольнасьць ахвяраваць сабою дзеля сябра, поўнае паразуменьне... Аднак усе гэтыя праявы ўласьцівыя і для іншых тыпаў дачыненьняў — любові, братэрства, таварышаваньня... Шукаючы нейкую толькі сяброўству ўласьцівую рысу, я сфармуляваў яе для сябе так: сябра — той, хто ніколі не адкажа табе адмовай.

Гэта, вядома, ідэал. Але ўяві сабе, што ў цябе ёсьць такі чалавек, і жыцьцё ніколі не падасца табе бессэнсоўным.

Сяброўства ўвесь час зьнікае, сыходзіць, прападае, нібы ведае, што зьдзейсьнены ідэал перастае быць ідэалам. Зь іншага боку, гэта той цуд, які можа паўтарацца. Але паўтор сяброўства паміж табой і тым, хто перастаў быць табе сябрам, — гэта ўжо справа рукатворная і залежыць не ад зорак, а ад цябе. Толькі памятай, што сяброўства не кіруецца зямнымі правіламі.

Сэрбскі пісьменьнік Ёвіца Ачын выснаваў некалі, што ў сяброўства ў прынцыпе віртуальная прырода, бо ідэальнае, на ягоную думку, сяброўства — па перапісцы: «Сяброўская перапіска захоўвае перапіску зь сяброўствам, нават калі сяброў няма».

А ці ёсьць у вас нехта, каго б вы без нацяжак маглі назваць сваім сябрам? Падказка: толькі, крый божа, не называйце. Каб ня спудзіць сяброўства.





# Т

## ЯК ТАЛЕРАВАЦЬ?

**На мяжы цынізму — Беларусь гамафобская? — Агрэсія й асьвета — Шчырыя-няшчырыя**

Талеранцыя — цярпімасьць да таго, што табе не ўласьціва. Талеранцыя сканчаецца, калі страчваецца паразуменьне бакоў і адна праўда заступае на тэрыторыю іншай, калі пачынаецца гвалт. Вярнуць талеранцыю можна толькі празь перамовы бакоў і пацьверджаньне тэрытарыяльнай цэласьці адной і другой праўды.

### На мяжы цынізму

Сёньня ніводная тэма ў сеціве не выклікае столькі шуму, як гамафобія. І шум гэты настолькі ж далёкі ад дыскусіі, як праектная дзейнасьць у галіне мастацтва ад мастацтва. Відавочна, гаворка ідзе пра яшчэ адну галіну таго шматжыльнага самасьцьверджаньня, якое й спарадзіла цяперашні глябальны крызыс. Але ж абарона правоў ні ў якой сфэры ня можа мець на мэце самасьцьверджаньне абаронцаў, інакш мы атрымліваем перакулены сьвет.

Схема й тэхналёгія такога падыходу не хаваюцца. Зьяўляецца тэкст, прыхільны да гомасэксуалізму, зараз налятае цэлая хмара заклапочаных гэтай тэмай камэнтатараў, узровень гаворкі апускаецца ніжэй плінтуса. Асабліва крэпка выказваюцца «гамафобы». Іх зрэдку настаўляюць апалягеты процілеглага погляду, маўляў, глядзіце, апазыцыянэры, калі так і далей будзеце насядаць на гомасэксуалістаў, не відаць вам брусэльскіх грантаў! Гэта дзейнічае мацней за абразу, і хор «гамафобаў» дасягае fortissimo. У выніку набіраецца пульхны том «сьведчаньняў», застаецца іх толькі раздрукаваць. Яшчэ праз кароткі час зьяўляецца паведамленьне, што актывісты пад вясёлкавым сьцягам наведалі Брусэль. Зразумела, што рэпрэзэнтоўвалі сваю краіну, і зразумела, у якім сьвятле, дакладней — у якой цемры.

Можна талераваць чыесьці каштоўнасьці, але выяўляць цярпімасьць да праектнай дзейнасьці, што мае на мэце паказаць тваю краіну няпраўдзіва дрымучай, жаданьня няма. Бо каштоўнасьці заўсёды ў сэрцы, а праекты — на мяжы цынізму.

### Беларусь — гамафобская?

Мне асабіста ня раз даводзілася быць «гамафобам» ужо толькі таму, што закранаў гэтую тэму, хоць ніколі не займаўся ацэнкай сэксуальнай арыентацыі, бо лічу, што ня гэта ў чалавеку й асобе павінна быць прадметам ацэнкі. Ёсьць людзі такія, ёсьць гэткія, і калі яны лічаць, што гэта дадзенасьць, значыць так яно й ёсьць.

Што такое гамафобія? Праява «цемнаты». Яна





правакацыямі або пагрозамі не вылечваецца, наадварот. І тыя, хто абраў сабе праект змаганьня з гамафобіяй — героі той самай опэры. Бо цемната лекуецца асьветай, а не змаганьнем цемнаты зь цемнатою. Тут два мінусы разам даюць тоўсты мінус, а ня плюс.

Да прыкладу, ці існуе ў прыродзе хоць адзін тэкст пра гейскую субкультуру ў Беларусі — гістарычны момант, праявы ў беларушчыне, мэнтальныя асаблівасьці?.. На Захадзе такая літаратура ёсьць. Таму й стаўленьне да сэксуальна інакшых там ня тое што больш прыхільнае, а больш матываванае. Бо ёсьць пра што гаварыць. І мы, беларусы, чые гаворкі вядуцца выключна вакол фізіялёгіі, на іхным тле выглядаем барбарамі. Але хто ў гэтым вінаваты?

### Агрэсія й асьвета

Не талеруецца гвалт, цынізм і праектны разьлік. Калі публіцы прапануецца не субкультура, а кодэкс барацьбы зь іншымі, з тымі ж «гамафобамі», публіка цьвярдзее сэрцам.

Усё залежыць ад матывацыяў, шырыні погляду й меры цынізму. Можна ўявіць сабе, як абаронцы жывёлаў цкуюць «неталерантную» публіку шалёнымі псамі, альбо як апантаныя кактусаводы колюць іншых атручанымі голкамі, ці як «зялёныя» кідаюць бурыльшчыкаў у нафтавыя плямы...

Агрэсія й асьвета — дзьве супрацьлегласьці існаваньня прадстаўнікоў любой меншасьці ў грамадзтве. Чым больш асьветы, тым больш талеранцыі, і чым больш агрэсіі, тым цярпімасьці менш.

## Шчырыя-няшчырыя

Перачытаўшы апошнія дыскусіі пра геяў і гамафобаў, можна заўважыць няшчырасьць у намерах змагароў з гамафобіяй, што гэтыя дыскусіі справакавалі. Маладзён, які прызнаўся, што ён гей, і атрымаў за гэта адтэрміноўку ад войска, кажа, што ваенком пра ягоную арыентацыю даведаўся раней за бацькоў. Чаму ўзьнікла патрэба пасьвяціць армейскага «бацьку» ў свае сэксуальныя тайны, пра якія ня ведае бацька родны? Бо ў войску будуць зьдзекавацца, — кажа ён так, быццам гэта аксіёма. Хіба ў яго нейкі адмысловы лад жыцьця і, адпаведна, адмысловым мусіць быць стаўленьне грамадзтва? Добра, ніхто ж ня супраць. Але што менавіта павінна ўлічваць грамадзтва, чым дапамагчы яму? Ці ён мяркуе, што яно, грамадзтва, мусіць само здагадацца, як не прычыніць гею нязручнасьцяў?

Пытаньні без адказу пакідаюць прыкрае пачуцьцё недаверу. Ды не за тое так абрушваецца большасьць «гамафобаў» на падобныя прызнаньні, што нецярпіма ставіцца да іншай арыентацыі. А за тое, што адчувае ў гэтых быццам аксіёмах і недагаворанасьцях няшчырасьць намераў. У выніку змагары з гамафобіяй правакуюць рэальную гамафобію, дзякуй богу, што ня надта пасьпяхова ў іх гэта атрымліваецца ў нашым ня схільным да пагромаў грамадзтве.

Тэма «гамафобіі» ў Беларусі можа шмат чаго падказаць і ўсім іншым змагарам зь ветракамі, донкіхотам праектнай дзейнасьці.



# У

# У

## ЯК УКАРАНЯЦЦА?

**Шляхецкі складнік — Шэсьць сотак як кампраміс — Гыр-гыр-гарадок — Краіна сядзібаў**

Укараніцца — пусьціць корань у зямлю.

Шмат хто з маіх знаёмцаў зьбіраецца набыць ці ўжо набыў сабе старую хату на хутары ці ў вёсцы. Мала таго, што гэта выгаднае ўкладаньне грошай (нават сёньня сядзібу можна купіць за дзьве-тры зарплаты), дык гэта яшчэ й вяртаньне да спрадвечных каштоўнасьцяў, калі патрыятызм для нашых продкаў азначаў росквіт і абарону ня нейкіх абстракцыяў, а свае канкрэтнае зямлі, сядзібы, роду.

Можна толькі ўявіць: калі б мільён беларусаў, што на рэфэрэндуме 1995 году не галасавалі «за», калі б усе гэтыя людзі абселіся на сваіх сядзібах па ўсёй Беларусі ды завялі там свае парадкі, іх не адужаў бы ніякі папулізм.

Гэта, вядома, фантазіі — пра мільён. Але ж і мільёну ня трэба, каб такім вось чынам сьвядомыя людзі ўкараніліся самі ды ўкаранілі свае ідэалы й мары. Ясна, што зямля, сядзіба,

маёнтак, дзе ты зладзіў жыцьцё па-свойму, вызначаюць твае інтарэсы не «са столі», як гэта часьцяком адбываецца сёньня. І на мітынг ты выходзіш за свае рэальныя правы, а не за патасныя заклікі да свабоды.

## Шляхецкі складнік

Мае знаёмцы, што набылі сядзібы, — людзі збольшага гарадзкія, жывуць і працуюць на асфальце. Але ў вольны час выбіраюцца «да сябе», бо ніякая кватэра ня робіць чалавека ўкаранёным. Там, на зямлі, у іх ёсьць нагода задаволіць гэты верад беларускай душы — краязнаўства — даведацца пра ўсё, што некалі было на месцы сядзібы й вакол яе. Некаторыя нават напішуць пра гэта кнігі й здымуць фільмы, бо нецікавых кутоў на нашай зямлі няма. Там, на сядзібе, яны зладзяць свой быт і красу існаваньня, туды вывезуць бібліятэкі й архівы, якія будуць парадкаваць некалі, калі пад старасьць перабяруцца сюды назаўжды. Усе іх матывацыі— такія самыя, якімі спрадвеку кіравалася беларуская шляхта.

Вядома, што шляхта на момант захопу беларускіх земляў Расейскай імпэрыяй складала ў нас дзясятую частку насельніцтва, і што расейская ўлада крок за крокам «сьпіхвала» дваранаў па герархічнай лесьвіцы саслоўяў уніз — спачатку ў аднадворцы, потым проста ў сяляне. Але пры першай магчымасьці шляхецкі складнік падымаў галаву, перарабляючы жыцьцё на свой капыл. Так было і ў часы сталыпінскай рэформы, і ў часы хутарызацыі ў 1920-я.

У выніку ў беларускім сялянстве спляліся





неспалучальныя шляхецкія й пралетарскія імпульсы. Пашана да ўласнасьці, традыцыя, памяць — усё гэта, дзякуючы шляхецкаму складніку. Адмаўленьне ўласнасьці, рабалепства й бяспамяцтва — гэта пралетарскае.

## Шэсьць сотак як кампраміс

Што да ўлады, дык яна й раней, і цяпер разумела й падтрымлівала толькі пралетарскі віхор у сялянскай душы. Адсюль гэтая яшчэ савецкая прыдумка з шасьцю соткамі, якія шмат хто называе дачамі. Нарадзілася прыдумка з таго, каб даць занятак для мільёнаў сялянаў, што паўцякалі ў горад, далей ад праклятых палачак за працадні, поўнага бяспраўя й невыноснага сялянскага мазаля.

Паўцякаць яны паўцякалі, але душэўная прага корпацца ў зямлі засталася. Ехаць па тое ў вёску яны не маглі, бо вёску праклялі. Вось і сталіся шэсьць сотак кампрамісам: і сьвербу да зямлі задавальняецца, і пры тым — гарадзкія. А шпакоўні на сотках — якая ж гэта маёмасьць — дагэтуль крычма крычаць, што яны — ня вёска, крый Бог, ня вёска, не вярталіся мы ні ў якую клятую вёску, вось жа й размаўляем па-гарадзкому, бо — гарадзкія.

Пра тое, колькі папсавалі прыроднае красы гэтымі шанхаямі вакол кожнага гораду, я й не кажу. Бо ў пралетарскі набор каштоўнасьцяў ляндшафтны дызайн не ўваходзіць. Як і ў набор стваральнікаў сёньняшніх аграгарадкоў. Старыя вясковыя бабулі й слова гэтага прамовіць ня могуць, таму прыдумалі нешта сугучнае: «гыргыр-гарадок».

### Гыр-гыр-гарадок

Аграгарадкі — жалю вартае падабенства хрушчоўскай жыльлёвай кампаніі. Праўда, надта яны ўжо не па часе. У Хрушчова была праблема — куды сяліць мільёны ўчорашніх вязьняў ГУЛАГу.

Як і хрушчоўкі, аграгарадоцкія дамкі не разьлічаныя на памяць, традыцыю, маёмасьць. Калі б і хацеў грошы ўкласьці, рэканструяваць, зрабіць нармальную сядзібу, дык прасьцей перад тым зьнесьці.

Аграгарадкі — абсурдная даніна нашаму савецкаму мінуламу, а ніяк ня будучыні. І «соткі» таксама пакрысе адыдуць у невараць.

### Краіна сядзібаў

Некалі называлі Беларусь краінай сядзібаў. Гэта потым, за камуністамі, усё панішчылі. І правільна цэнзары крывіліся на Коласавы радкі «Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, Каб з панскіх выпутацца пут». Бо надта ж не па-пралетарску гэта — зямлю купляць. Мабыць, апраўдваліся яны тым, што Міхал — селянін. Селянін-то селянін, але ніякім бокам не пралетар.

Найвялікшы стымул кожнага сёньняшняга стваральніка сваёй уласнай сядзібы ў тым, што сядзіба — гэта працяг, яна павернутая ў будучыню. У кагосьці тут «нарасьце» новы род, у кагосьці з кожным пакаленьнем будзе прырастаць маёмасьць, у кагосьці краязнаўства ператворыцца ў турыстычны бізнэс, а камусьці — самаму важнаму — пасьля сыходу ў ягонай сядзібе адкрыюць музэй.



# Ў

## ЯК Ў АКТЫВІЗАВАЦЬ?

**Быць ці ня быць?**

Сяды-тады мне даводзіцца карыстацца кампутарам у беларускіх райцэнтрах. Найчасьцей гэта адбываецца ў аддзелах «Белтэлекаму». І там, каб напісаць тэкст, кожнага разу даводзіцца актывізаваць у кампутары беларускую мову (значыць, да мяне ніхто тут на ёй не пісаў). Можна, вядома, і з ангельскай ды расейскай скамбінаваць беларускі тэкст, вось толькі «ў» у гэтых мовах няма.

Кароткае або нескладовае «ў» на самым пачатку новага тысячагодзьдзя стала знакам беларускага выжываньня. То былі паведамілі, што ў Акадэміі навук зьявіўся праект моўнае рэформы, які скасоўвае гэтую літару ў беларускай мове. Потым зьявілася інфармацыя, што ў Полацку літары «ў» паставілі помнік.

Здавалася б малацікавае шырокай публіцы супрацьстаяньне насамрэч адбываецца ў кожнай беларускай душы і ўзыходзіць да гамлетаўскага пытаньня «быць ці ня быць?». Калі вы хоць раз

у жыцьці паставілі над літарай «у» дыякрытык, гэта азначае толькі адно: вы маеце дачыненьне да беларускай нацыі. Калі вы ніколі гэтага не рабілі й не зьбіраецеся рабіць — вы такога дачыненьня ня маеце.

Рэч ня ў тым, што вы ад гэтага лепшы ці горшы. Рэч у тым, ці бераце вы на сябе адказнасьць за тое, быць ці ня быць вам і вашым дзецям беларусамі. Калі так, у вас ёсьць шанец паўдзельнічаць у лёсе сваёй нацыі й культуры. Калі не, ваш лёс і тое, кім вам быць, вырашыць нехта іншы, бяз вас.



Ф

## ЯК ФУНДАВАЦЬ?

**Страшны беларускі нацыяналізм — Электрастанцыя толькі пыхкае — Інвэстыцыя Бога — Бонусы — Не нашкодзь!**

Што ні кажыце, а жыць у патэрналісцкай дзяржаве ў часы сусьветнага крызісу — небясьпечна. Табе нічога не паведамляюць, бо ўсё ведае «бацька», ты нічога ня робіш, бо за цябе робіць «бацька».

Небясьпека ў тым, што «бацька» — ня Бог. А нават на Бога спадзявайся, а саломкі падсьцялі. Усё, што табе застаецца — як таму ваўку, унюхвацца ў паветра, каб не прапусьціць моманту, калі ў крамы па кансэрвы, запалкі й соль рынуцца ўсе. Гэта толькі здаецца, што «бацька» сядзіць даўно й будзе з намі заўсёды. Бачылі мы ня раз, як хутка ўсё можа зьмяніцца і што бяда грукаецца ў дом тады, калі ты да яе не гатовы.

Але як у такой сытуацыі гарантаваць сябе ад нечаканасьці, на каго ці што абаперціся, ува што ўкладаць сродкі, каб той «чорны дзень» не засьпеў цябе зьнянацку?

## Страшны беларускі нацыяналізм

Чамусьці беларускі нацыяналізм малююць ня толькі страшнейшым, чым ён ёсьць, але й страшнейшым за літоўскі, польскі ці, тым больш, расейскі. Наш асацыююць з вайной, паліцаямі й фашыстамі. Хоць разам з вадой тут выплюхваецца мноства жывых дзяцей. Да прыкладу, была ў вайну такая арганізацыя — Беларуская самапомач. А паколькі яна ўзьнікла й дзейнічала самачынна, а не пад кіраўніцтвам Масквы, дык фашысцкай прызнаюць ня толькі яе, але й сам панятак беларускае самадапамогі. Лічыцца, што беларусам як нацыі самапомач не патрэбная й не ўласьцівая, бо — злачынная.

Між тым, гаворачы пра літоўцаў, палякаў ці расейцаў, мы разумеем самадапамогу як нармальны й нават карысны складнік іхнага нацыяналізму. Дзіва што, нацыя імкнецца выжыць у цяжкіх умовах, і тут без самапомачы ніяк. Беларусаў жа такая лёгіка настойліва абмінае.

## Электрастанцыя толькі пыхкае

Трэба тут два словы сказаць пра нацыяналізм увогуле. Ад пачатку ён ня добры й ня дрэнны. Ён трымаецца на любові да свайго і служыць такой сабе электрастанцыяй у адзіным целе народу — забясьпечвае жыцьцядзейнасьць арганізму нацыі. Найперш — праз самадапамогу. Гэта норма.

Калі электрастанцыю раскачагарыць без усякае меры, яна або выбухне, або пачне экспансію лішняй энэргіі на іншыя народы, і ў





паветры запахне смуродам шавінізму. Гэта адна скрайнасьць. Другая, супрацьлеглая — калі электрастанцыя зусім не працуе або ледзьве пыхкае, і народ знаходзіцца ў стане «агульнае млявасьці» — не разьвіваецца. Гэта — сёньняшняе становішча беларусаў, якія не качагараць сваю электрастанцыю, да сьмерці баючыся дасягнуць скрайнасьці першай. Вось чаму беларускі нацыяналізм малююць страшнейшым за чорта.

Прычым ня толькі нашы ўлады малююць. Так разважаюць і замежныя фундатары, якія «інвэстуюць грошы ў беларускую дэмакратыю». Добра, кажу, але без нацыянальнае самадапамогі мы заўсёды будзем заставацца патэрналісцкай дзяржавай. Гэта значыць, у нас папросту ня будзе патрэбы ў свабодзе слова, сходаў і сумленных выбараў. Навошта нам гэта ўсё, калі нам ня трэба думаць пра свой лёс, бо пра яго думае «бацька»? А вось калі б мы адчулі сябе народам, нацыяй, якая сама можа думаць пра сябе, як ёй выжываць, тады б пачаліся й дэмакратычныя перамены.

Але што такое для якога-небудзь швэда «адчуць сябе народам», калі яму невядомы стан «не адчуць сябе народам»? Па выніку інвэстыцыі ў беларускую дэмакратыю маюць неадэкватны эфэкт. Як той казаў, разгон на рубель, а ўдар — на капейку.

## Інвэстыцыя Бога

Айцец Аляксандар Надсан кажа, што мы проста не разумеем, за што нас такіх Усявышні абраў для свайго найвялікшага дарунку — даў

нам жыцьцё. Сапраўды, мы ўсе: і ты, і я — адораныя. Ну праўда ж, жыцьцё — гэта ня тур, нават самы дарагі. Як ацаніць? Калі табе дадзены ўвесь сьвет. Фундаваньне — гэта ў пэўным сэнсе падзяка. Бог даў нам усё, каб мы дзяліліся гэтым зь іншымі.

Вяртаючыся да самапомачы, мяркую, што менавіта ў яе сёньня патрэбныя самыя большыя інвэстыцыі. Бо як асобнага чалавека ўратуе ягоны капітал, так нацыю ў цяжкі час уратуе ня «бацька», а гэтая самая самапомач. Не бяда, што мы адсталі ад суседзяў, але мусім будаваць сваю супольную электрастанцыю нацыянальнага выжываньня, бо безь яе нас усіх любая бяда накрые як цуцыкаў — па адным.

Паколькі наша электрастанцыя, калі мы яе збудуем, запрацуе толькі ў будучыні, значыць і інвэставаць трэба ў навучаньне дзяцей, у найлепшых спэцыялістаў і прафэсіяналаў, у свае беларускія СМІ, у культуру.

Адно, што ўсё гэта трэба рабіць, не выкідаючы грошай, а прааналізаваўшы сытуацыю. Бо каэфіцыент карысьці такіх фундаваньняў за апошнія 15—20 гадоў роўны рэйтынгу нацыянальнае апазыцыі ці, як кажуць, статыстычнай памылцы. А колькі шкоды нарабілі непрадуманымі фундацыямі! Колькі імі занядбалі талентаў і цудоўных ініцыятываў! Быццам нейкі злы фатум лётае над беларускай справай. Вось жа імя гэтага фатуму — непераборлівасьць (калі, вядома, шкода не рабілася наўмысна).

Як разабрацца? Ідэальна было б склікаць раду давераных асобаў, якія б вызначалі найбольш карысную прапанову дзеля фундаваньня беларушчыны, а там і прэмію, можа быць, усталявалі. Не ідэальна, але таксама вынікова — пачаць нарэшце пра ўсё гэта гаварыць адкрыта: хто, што, куды й колькі. Дарэчы, наконт прэміяў.





### Бонусы

Іх у нас крыху ёсьць, але яны зусім непразрыстыя й непрэстыжныя. За найлепшую кніжку, напрыклад. Бывае, што кніжка ўганароўваецца, а ні да, ні пасьля на яе не зьяўляецца ніводнай рэцэнзіі. Чым жа яна тады найлепшая? Праўда, і на гэта ёсьць агаворка — крытыкі ў нас сёньня няма.

Можа быць, трэба спачатку інвэставаць у крытыку, а пасьля ўжо ў кніжкі?

Прэміі за кніжку носяць чыста сымбалічны характар. Калі й даюцца грошы, дык на два паходы ў рэстаран. У прынцыпе, нічога кепскага ў гэтай сымбалічнасьці няма, наадварот. Але. Трэба ўлічваць, што беларушчына сёньня зусім не ў духоўным, а менавіта ў матэрыяльным загоне. Аўтар некалькі месяцаў піша кнігу без авансу й ганарару, дасягае мастацкага посьпеху й атрымлівае сымбалічную прэмію. А што ён еў тыя месяцы, калі пісаў?

Калісьці мы вернемся да практыкі адэкватных авансаў і ганарараў. Але сёньня, пакуль іх няма, менавіта прэмія магла б ратаваць становішча. Яна магла б быць адпаведнай затрачаным сілам. Яна магла б скіроўвацца туды, дзе сёньня назіраецца правал. Яна мусіла б быць абгрунтаванай і зразумелай для ўсіх.

## Не нашкодзь!

Іншымі словамі, калі б нехта хацеў фундаваць у культуру, яму трэба было б найперш згадаць гіпакратаўскае «не нашкодзь». Тут няма нічога дзіўнага, калі бачыш, што наша культура хворая, а ты падступаесься да яе з мэтай яе лекаваць.

Нехта фундуе талент, нехта бажніцу ў сваёй роднай вёсцы, нехта ўкладае ў зямлю, у нерухомасьць, хтосьці ставіць у сябе ў агародзе помнікі. Магчыма, я памылкова лічу, што многія інвэстыцыі робяцца сёньня ў Беларусі проста непрадумана і ад таго неэфэктыўна. Але дзе вынікі?

Можа быць, уся справа ў тым, што мы пра гэта не гаворым, ня дзелімся досьведам у кантэксьце нацыянальнае самадапамогі?



# X

## ЯК ХІТРАВАЦЬ?

**Нашэсьце кракадзілаў — Шпіёны-разьведчыкі — Хітры Саша — Прайсьці праз тупасьць**

Хітры можа быць удачлівым, але не бывае добрым. Бо дабрыня ўласьцівая разумным, а хітрасьць — тупаватым.

Цяпер я разумею, чаму так позна гэта ўсьвядоміў. Трэба было пажыць, каб такая выснова прыйшла з уласнага досьведу. Бо на дзяржаўным і грамадзкім узроўні з самага дзяцінства нам накідалася зусім іншая формула: хітры — значыць, разумны. Маўляў, во які разумны, усіх перахітрыў!

### Нашэсьце кракадзілаў

Хітрасьць — ня доблесьць. Яе карані ў падкорцы, у інстынктах, у рэфлексах. Яна заўсёды падступная. Разумны сумняваецца. Разумны трымаецца імпэратыву: рабі іншым тое, што хацеў бы, каб рабілі табе. Хітры толькі атакуе й толькі сябе бачыць. Як кракадзіл. Хітрасьць уласьцівая рэптыліям, інакш яны й ня выжылі б.

Той культ хітрасьці як розуму, што навязваўся нам з маленства, паходзіць з трыццатых гадоў мінулага стагодзьдзя. Тады ў Беларусі панавала ўсеагульная шпіёнаманія. Кожны дзень энкавэдысты ў турмах Менску, Воршы, Слуцку ды іншых гарадоў расстрэльвалі шпіёнаў — нямецкіх, латыскіх і нават японскіх. Асабліва шмат было латыскіх, але непараўнальна больш — польскіх. З такім прысудам атрымлівалі найвышэйшую меру пакараньня многія тысячы беларускіх сялянаў, работнікаў і службоўцаў. Больш за ўсё «шпіёнілі на Польшчу» сяляне ў беларускіх калгасах і на хутарах.

Гэта цяпер выглядае абсурдна, дый то не для ўсіх — наша калгасная вёска літаральна заселеная польскімі агентамі. Але трэба ўлічваць тагачасную грамадзкую атмасфэру і той асноўны матыў, які дазваляў грамадзтву «з разуменьнем» ставіцца да рэпрэсіяў: шпіён — хітры, а хітры — значыць, разумны.

## Шпіёны-разьведчыкі

Антытэзай варожых шпіёнаў былі «нашы» разьведчыкі, па сутнасьці, тыя ж шпіёны. Мы чыталі кніжкі пра Зорге і глядзелі фільмы пра Штырліца, якіх нам падавалі як добрых і разумных пэрсанажаў. Але галоўная вартасьць шпіёна — ягоная хітрасьць, а хітрасьць ня можа быць добрай і разумнай. Шпіён павінен быць тупаваты і маторны — як кракадзіл.

Атмасфэра шпіёнаманіі, якой было заражанае грамадзтва, і спарадзіла гэты выверт: хітры — значыць, разумны. Хоць сёньня, калі абстрагавацца ад гэтай формулы й ацэньваць толькі факты, мы ўбачым, што ўсё наадварот.





Чытаючы ўспаміны савецкіх разьведчыкаў, увесь час ловіш сябе на думцы, што якраз чаканае мудрасьці ў іх і няма. З дастаткова разумнага й добрага, а не тупаватага й хітрага чалавека — шпіён ніякі. Пра што сьведчаць гісторыі Філістовіча або Вострыкава, што скакалі з парашутам не з дывэрсійнай, а з патрыятычнай матывацыяй. Паводле свае чалавечае сутнасьці хітрунамі-тупаватымі-шпіёнамі яны не былі. Як і тысячы беларускіх сялянаў, расстраляных з абвінавачаньнем у шпіянажы.

## Хітры Саша

Выгадаванае на ідэалах Штырліца грамадзтва пасьля развалу СССР з удзячнасьцю перадало свой лёс у рукі варанаў і кракадзілаў менавіта таму, што асацыявала хітрасьць з розумам і дабрынёй. Разам з хітрасьцю станоўчай якасьцю стала і ўласьцівая яе носьбітам тупаватасьць.

Я нездарма згадаў пра шпіёнаў, бо кожны хітры-тупаваты паводзіць сябе таямніча. Гэта спадар Казулін можа ўсклікаць: «Дзе грошы, Саша?!» А сама сутнасьць Сашы ў тым, каб ніхто ня ведаў, дзе грошы. І сутнасьць ягонага рэфэрэндуму 1996 году, калі народ дружна адказаў: «Ня хочам ведаць, дзе грошы!» Так што ў Сашы ёсьць карт-блянш. Хітры ён, гэты Саша.

У народу свая праблема. Ён усё 20-е стагодзьдзе імкнецца быць хітрым, каб урэшце не пакутаваць і ня быць абдураным. Ён і так і гэтак круціцца, прыкідваецца такім і гэткім. Каб выглядаць тупаватым, ён прыкідваецца хіт-

рым. Але тут і хаваецца ягоная драма. Рэальна хітры правіцель ці акупант сьпінным хрыбтом адчувае, што народ прыкідваецца. У сваім калектыўным «я» народ больш добры й разумны, чым хітры й тупаваты. І схаваць гэта, абхітрыць правіцеля, акупанта ці апостала — не ўдаецца. Таму зноў народ цярпіць. Але выжывае. Народ выжывае не праз сваё хітраваньне, а праз сваё цярпеньне.

### Прайсьці праз тупасьць

Калі чалавек разумны, а не тупаваты, у яго ёсьць патэнцыял дабра, але эфэктыўнага хітруна зь яго ня выйдзе. Бо патэнцыялу зла ў разумнага чалавека недастаткова. У розуму таксама ёсьць патэнцыял. Толькі розум шматкроць больш складаная за рэфлекс прылада.

Многія нашы палітыкі дагэтуль памылкова лічаць, што ў іх дастаткова розуму й дабрыні, каб выконваць функцыі кракадзіла. Таму не заўсёды проста бывае вызначыць, хто зь іх хто і чые інтарэсы насамрэч абараняе.

Між тым, калі паставіць формулу шпіёна з галавы на ногі і ўсьвядоміць, што хітры — значыць тупаваты, тады прасьцей разьбірацца з усялякімі таемнымі матывацыямі.

Прашу прабачэньня за грубасьць, але мне ніколі не сустракаліся словы «хітрагаловы», «хітрасэрцы» ці «хітрадушы». А слова «хітражопы» ведаюць усе.

Ня трэба хітраваць.





# Ц

## ЯК ЦАРАВАЦЬ?

**Сабраць сябе з кавалкаў і сшыць**

Не ў фармальным сэнсе — выконваць абавязкі манарха. Цараваць — адчуць сябе ўсёмагутным — можа кожны, калі гаворка ідзе пра ўласны лёс. Трэба толькі сабраць сваю асабістую «азбуку паводзінаў» са сваіх уласных уяўленьняў пра тое, як жыць, як працаваць, як сябраваць... Магчыма, нешта давядзецца дадумаць, нейкія фрагмэнты «падцыраваць», і тады — у Насовіча ёсьць такі дзеяслоў: сцаляваць (сшыць з кавалкаў).

У той момант, калі ты цыраваў і цаляваў з частак — самога сябе, — ты быў усёмагутным, ты непадзельна гаспадарыў ва ўласным жыцьці, ты — цараваў.

Так выйшла, што беларусы ў гісторыі ня мелі сваіх цароў, а толькі вялікіх князёў і каралёў. Цары сустракаюцца ў нашым фальклёры — у казках, песьнях і прымаўках. Калі дзьвесьце гадоў таму Беларусь апынулася ў складзе Расейскай імпэрыі, дык і найвышэйшы расейскі

начальнік тады называўся ўжо не царом, а імпэратарам. Для беларускай душы асацыяваць слова «імпэратар» са сваім, беларускім начальнікам было яшчэ цяжэй, чым слова «цар». Таму імпэратары так і засталіся для нас чужаземнымі валадарамі, а цары так і ня выйшлі за межы казак, песень і прымавак.

Калі ўявіць сабе, што ў Беларусі зноў усталюецца манархія, дык пэўне ж манарх ня будзе называцца царом. Вялікі князь або кароль — магчыма.

Караляваць можаш і над сьветам, а цараваць — толькі над сабой.



# Ч

# Ч

## Як чытаць?

**Лепей ня будзе — Ну калі гэта ўсё скончыцца? — «Званкі на Свабоду» — Казкі на заўтрашні дзень**

У блаславёныя часы трэба чытаць пра акаянныя дні, каб не згубіцца ў часе й ня страціць арыентацыі ў гісторыі.

Калі жывеш з думкай пра зьмены, пра тое, што *так доўжыцца ня можа,* што гэтая рэальнасьць — пераходная, ты сам і ўвасабляеш часовасьць усяго, што адбываецца. Ты адкладаеш свае задумкі на заўтра, калі «стане лепей», калі «прыйдуць нашы», калі «скончыцца гэтае бясчасьсе». Але насамрэч ты жывеш у блаславёныя дні. Бо ніколі ў памятнай табе гісторыі ні ты, ні іншыя не пачуваліся нагэтулькі вольнымі ды раскаванымі што да словаў, што да справаў, як цяпер. З досьведу ўсяго, што адбывалася на нашым веку, з досьведу іншых краінаў, з досьведу шматлікіх рацыянальных тэорыяў мы ня знойдзем для свайго часу такіх прапановаў, як можа быць чалавеку *яшчэ лепей.* Як у казцы? Як на Захадзе? Як дзе?..

### Лепей ня будзе

Зрэшты, так уладкаваны чалавек — ён заўсёды будзе наракаць на сваю долю, бо яму патрэбная нейкая незалежная ад яго прычына ягонага нежаданьня або няўмельства. Ён скардзіцца без увагі на тое, у якой краіне жыве й якую ролю ў ягоных памкненьнях адыгрывае дзяржава. Скардзіцца і паляк, і француз, і амэрыканец. Штосьці заўсёды ня так.

Як зразумець, што ты жывеш у блаславёным месцы і ў блаславёны час? Для гэтага існуюць кнігі і навык параўнаньня.

Напэўна, вы заўважалі, што ў розным веку адна й тая ж кніга можа ўспрымацца па-рознаму? Дый грамадзкія дыскусіі пра тое, што Дастаеўскага ня варта чытаць у школе, ня першы год абуджаюцца то там, то тут. «Злачынства й пакараньне», якое пасьля дваццаці можа стаць падручнікам жыцьця, у пятнаццаць застаецца ў памяці толькі брутальнай сцэнай забойства, якая зараз ператвараецца ў анэкдот.

Але тое, што тычыцца адпаведнасьці чытва вашаму асабістаму веку, можна сказаць і пра адпаведнасьць абранай кнігі той эпосе, у якой вы сёньня жывяце й вашым з гэтай эпохай адносінам.

### Ну калі гэта ўсё скончыцца?

У сваіх «Акаянных днях» Іван Бунін апісвае ўласныя назіраньні ў часы бальшавіцкага перавароту ў Расеі. Ляйтматыў дзёньніка — пытаньне: калі гэта скончыцца? Гэта — неймаверныя бясчынствы, поўная маральная дэградацыя, вынішчэньне ўсяго лепшага, што было нажыта за мінулыя часы.





Бунін адмаўляе ўладу бальшавікоў. Камісары — спрэс учорашнія катаржнікі, Ленін — бязь лішніх словаў — жывёла. Расея — адзін вялікі канец сьвету. Прыблізна гэтак шмат хто выказваецца пра сёньняшні рэжым у Беларусі. Нават словы падбіраюцца тыя самыя. Інакш кажучы, «Акаянныя дні» — дакладнае пападаньне ў нашу сёньняшнюю сьвядомасьць. І той, хто даўно ці не аднойчы ўжо чытаў гэтую кнігу, сёньня, перачытваючы, апынецца з аўтарам на адной хвалі й адкрые для сябе шмат праўды, найперш, пра сябе самога. Вось характэрныя словы пра змагароў з рэжымам:

«Мне Скабічэўскі прызнаўся аднойчы:

— Я ніколі ў жыцьці ня бачыў, як расьце жыта. То бок, можа, і бачыў, ды не зьвярнуў увагі.

А мужыка, як асобнага чалавека, ён бачыў? Ён ведаў толькі «народ», «чалавецтва». Нават знакамітая «дапамога галодным» адбывалася ў нас неяк літаратурна, толькі з прагі лішні раз убрыкнуць урад, падвесьці пад яго лішні падкоп. Страшна сказаць, але праўда: ня будзь народных бедзтваў, тысячы інтэлігентаў былі б проста найняшчасьнейшыя людзі. Як жа тады засядаць, пратэставаць, пра што крычаць і пісаць? А бяз гэтага й жыцьцё было б не жыцьцё».

Галоўнае адрозьненьне ад нашага часу ў тым, што ў Буніна ледзьве ня ў кожным радку — факты масавага рабунку й забойстваў. Мужыкі, якія восеньню сямнаццатага году напалі на панскую сядзібу, «абшчыпалі, абарвалі для пацехі пер’е з

жывых паўлінаў і пусьцілі іх, скрываўленых, лётаць, кідацца, тыкацца з пранізьлівымі крыкамі абы-куды». Гэты прыклад зьдзічэньня выглядае ледзьве не мэтафарай сярод бясконцай чарады банальных і беспрычынных забойстваў людзей. Напоўніцу дастаецца і паўсталаму народу. Рымляне, піша аўтар, ставілі на лоб сваім катаржнікам адмысловае таўро. А гэтым і ставіць нічога ня трэба, і так усё бачна.

### «Званкі на Свабоду»

Уражвае тое, што наш час у параўнаньні з апісаным у Буніна — ня тое, што не такі, а процілеглы яму. Ніхто не жыве ў пастаяннай боязі быць зараз і ні за што забітым, не чытае ў газэтах пра масавыя расстрэлы й пагромы на суседняй вуліцы. Але словы для характарыстыкі сваёй эпохі людзі часьцяком падбіраюць тыя самыя, «максымальныя». Маю на ўвазе некаторых сталых удзельнікаў перадачы «Званкі на Свабоду», апазыцыйных палітыкаў і аўтараў старонак у інтэрнэце. Турбуе ня столькі тое, што «максымальныя» словы ад частага ўжываньня страчваюць сваю сілу й імі ўжо нельга будзе перадаць сапраўдную бяду, колькі тое, што скажаецца адчуваньне эпохі, у якой мы жывем.

Вандруючы па Беларусі, я заўважаю, што паўсюднае катэджнае будаўніцтва, якое яшчэ ўчора абурала сваёй бесталковасьцю, сёньня пачынае сябраваць з эстэтыкай. Чалавек ужо не імкнецца проста «закапаць грошы», а хоча, каб ягоная сядзіба выглядала прыгожа, ня горш, як дзе-небудзь у Эўропе.





Побач з масавым прывыканьнем да таго, што Беларусь — незалежная краіна, зьяўляецца больш глыбокае разуменьне, што яна яшчэ й самабытная. Мы ня проста набудуем усякіх казіно — «як там», — а будзем культываваць тое сваё, чаго «там» няма. Найперш — сваю некранутую цывілізацыяй прыроду, свае традыцыйныя звычаі, здаецца, яшчэ крыху, і беларусы дададуць у гэты шэраг — сваю родную мову.

Вядома, ёсьць шмат праблем, але не такіх, якія нельга было б вырашыць. Працягваючы Бунінскую мэтафару, трэба сказаць, што ў Беларусі сёньня час разьвядзеньня паўлінаў, а не скуралупнага шалу й забойства. Што будзе потым, ня ведае ніхто. Адзінае з таго нямногага, чаму вучыць гісторыя, — што перамены ў лепшы ці горшы бок адбываюцца часьцяком тады, калі іх патрабуюць нашы душы. Гэта значыць, што жывучы ў блаславёныя часы са сьветаадчуваньнем акаянных дзён, мы міжволі спрыяем прыходу апошніх.

### Казкі на заўтрашні дзень

Што ж адрозьнівае дзёньнікі Буніна ад сёньняшніх апакаліптычных прагнозаў? Пісьменьнік, які апынуўся ў сытуацыі поўнага адчаю й зьняверанасьці ў сваім народзе ды гістарычнай справядлівасьці, перамагае свой адчай ня толькі тым, што піша й хавае свае нататкі перад пагрозайператрусу, а яшчэ й тым, што вышуквае й фіксуе ў інфармацыйным патоку крыві й бесчалавечнасьці, якія абрынаецца штодня з газэт, з чутак і пераказаў, тыя выключныя выпадкі

супрацьлеглага самапачуваньня й паводзінаў людзей у гэты кашмарны час.

Такіх прыкладаў зусім няшмат, але яны павінны быць. Калі не ў рэальнасьці, дык у памяці — з тых колішніх дзён, якія цяпер выглядаюць для Буніна як блаславёныя. Яны як крохкія крупінкі надзеі на тое, што бясчынствам некалі прыйдзе канец, бо ў прыродзе твайго народу ёсьць ня толькі крымінальная антрапалёгія, бо чалавек заўсёды можа зьмяняцца.

Мужыкі асуджаюць аднавяскоўца-дэзэрціра:

« — Што ж мала наваяваў?.. Ты што ж, казённую шапку, казённыя порткі надзеў, каб дома сядзець? Ты б ужо лепей зусім туды ня езьдзіў, сволач ты гэткая! Вазьму вось, зьдзяру зь цябе порткі й чобаты ды галавой аб сьцяну! Рады, што начальства цяпер у вас няма, падлюга! Навошта цябе бацька з маці кармілі?

Мужыкі падхапілі, паднялі агульны абураны крык».

Аўтару важна, што гэткае абурэньне паспалітыя людзі выказваюць *ад сябе* на фоне агульнае ўхвалы дэзэрцірства, што сыходзіць ад бальшавікоў. Салдат, які ўцёк дадому, перажывае сапраўдны канфуз, бо там, адкуль ён уцёк, дэзэрцірства прызнаецца за доблесьць.

Па сутнасьці, увесь бунінскі дзёньнік — ня столькі фіксацыя катастрофы, колькі вышукваньне гэтых самых крупінак адваротнага. Таго, чым можна ратавацца ў акаянныя дні? Можа быць, нашы сёньняшнія пэсымісты ня робяць гэтага, бо станоўчых прыкладаў занадта шмат, каб зьвяртаць на іх увагу?



# Щ

# III

## ЯК ШЧЫРАВАЦЬ?

**Крыж разладу — У вакуўме — «Братаньне з лукашыстамі» — Чарнобыльскі Шлях у Астраўцы**

Насуперак агульнаму ўяўленьню, шчырасьць — у памкненьнях, у працы, у змаганьні — не заўсёды заўважаецца і ўхваляецца іншымі. Бывае наадварот. Ты з усёй шчырасьцю намагаесься, а ў адказ — абыякавасьць, раздражненьне альбо ярасьць. І тады думаеш: а можа, гэта й ня шчырасьць ніякая, а тое, што ты за яе выдаеш, наадварот — твая асабістая няздатнасьць, няўменьне быць адкрытым да іншых?

У сучаснай беларускай літаратурнай мове няма слова, якое б адпавядала расейскаму «общаться, общение». Усё, што прапануюць слоўнікі й вынаходзяць аматары роднага лексыкону, не задавальняе й не прыжываецца. Мець зносіны, вадзіцца, стасункавацца, паспалітаваць, камунікаваць, узаеміны, сумоўе... Праблема ня ў тым, каб кожны панятак у адной мове цалкам адпавядаў такому самаму ў

іншай. Гэта якраз неабавязкова, бо ў кожнай мове свой характар, свая экспрэсія. Праблема ў тым, што ў нас няма тэрміну сучаснае сацыялёгіі, псыхалёгіі, паліталёгіі. Мы шчыруем, а нас не разумеюць, бо мы не «общаемся».

### Крыж разладу

Пра гэта думалася мне, калі глядзеў новы дакумэнтальны фільм, прысьвечаны палітычным вязьням. Група актывістаў прыяжджае ў вёску Дражна, дзе ў вайну партызаны забілі мірных жыхароў. Ставяць памятны крыж. Да іх падыходзяць прадстаўнікі мясцовае ўлады. Тое, што кідаецца мне ў вочы, ня мае дачыненьня да тэмы фільму. Канфлікт вісіць у паветры. Бакі зь першых словаў настроеныя адны да адных варожа. Пасьля слоўнае пікіроўкі на высокіх нотах становіцца ясна, што калі актывісты зьедуць, мясцовыя крыж зьнясуць. Так і здараецца.

Крыж памяці становіцца крыжам разладу.

Вядома, ёсьць маральнае права кожнаму паставіць крыж, тым больш у месцы такой трагедыі. І бюракратычныя выразы «падрыхтаваць пытаньне», «узгадніць», «пераканаць мясцовую ўладу» выглядаюць побач з высокай мэтай нікчэмна. Але ж высокая мараль мусіць быць зразумелай для ўсіх, у тым ліку для мясцовых і для прадстаўнікоў улады. Мараль мусіць сьцьвярджацца, у тым ліку, і празь бюракратычныя працэдуры. Мараль — гэта работа.

Тут праблема першапачатковых установак. У любой дэмакратычнай краіне сьвету ўстаноўку крыжа трэба было б узгадняць зь мясцовымі ўладамі. Інакш крыж зьнясуць. Але ў тым і рэч,





што мы ня лічым нашу краіну дэмакратычнай. У нас — дыктатура. І мясцовыя ўлады — не звычайная бюракратыя, а лукашысты, крывавы рэжым. Што зь імі размаўляць! Іхная задача — прыцiснуць нашу ініцыятыву, а нас саміх паддаць рэпрэсіям. Яны ненавідзяць усё людзкае, беларускае, дэмакратычнае...

А вы спрабавалі зь імі «общаться»? Падзяліцца зь імі сваім перажываньнем і сваім клопатам? Можа быць, гэта вы настроеныя на канфрантацыю, а не на кампраміс? Можа быць, каб паставіць такі крыж і каб ён застаўся, трэба спачатку стварыць грамадзкую думку і знайсьці яе выразьнікаў, аўтарытэт якіх быў бы для мясцовае ўлады пераканаўчым? Што ўрэшце важней: ушанаваць памяць вёскі ці ўсчаць канфлікт з уладамі? Калі другое, дык яшчэ ня хутка ўдасца паставіць у Дражне легальны крыж, які б ніхто ня зносіў. Бо канфрантацыю можна загнаць вельмі глыбока — у душы і ў пакаленьні.

Магчыма, я памыляюся, і гэта фільм стварыў такое ўражаньне апрыёрнае варожасьці актывістаў і мясцовых. Толькі ж гэта ня першы фільм і ня першае ўражаньне, калі нашы героі ніяк не дачыняюцца зь мясцовымі жыхарамі, а калі сустракаюцца, дык нашаторваюцца, быццам зьвяркі.

### У вакуўме

У польскім дакумэнтальным фільме пра мастака Алеся Пушкіна гэтае ўражаньне асабліва моцнае. Чалавек жыве, змагаецца, творыць нібыта ў поўным вакуўме. Людзі ў ягоным родным мястэчку абходзяць яго стараной, а калі сустра-

каюцца, дык кідаюцца як ад агню. Чаму? Калі кіно — пра выбітную асобу, героя нашага часу, пра сьветлыя ідэалы і іх носьбіта? Загадка.

І ў фільме Ўладзімера Коласа «Галерэя Ады» прысутнічае гэты матыў, тэма другога пляну. Але там сама гераіня Ада Райчонак пакутуе ад такой ізгойскае ролі, шмат думае й гаворыць пра гэта, стараецца з усіх сілаў пераадолець накінутую зададзенасьць. Якраз ёй «общения» не бракуе. Таму ў мястэчку знаходзіцца шмат людзей, якія й радуюцца ёй, і прыслухоўваюцца да яе, і дапамагаюць ёй.

Але, як кажуць, выключэньне толькі падкрэсьлівае правіла. І рэч зусім ня ў тым, што гаворка ідзе пра недзяржаўнае кіно ці апазыцыйных герояў. На дзяржаўнай тэлевізіі шмат гадоў выходзіць вельмі якасна зробленая, проста прыгожая перадача пра Дылетанта, які падарожнічае па вёсках і мястэчках ды распавядае пра іх гісторыю і прыкметнасьці. Усё быццам бы выдатна, калі б не адна асаблівасьць. У перадачы няма людзей. Нібыта вёскі вымерлі і ад таго, як кропля да кроплі, падобныя адна да аднае. Энцыкляпэдычныя факты, якімі сыпле вядоўца, сытуацыю не выратоўваюць. Бо паказаць паселішча — значыць, найперш разгаварыць яго насельнікаў. Але Дылетант таксама не «общается».

### «Братаньне з лукашыстамі»

Мой прыяцель-мастак распавёў такую гісторыю. Рэдактары двух выданьняў запрасілі яго ў падарожжа па Беларусі. Як шафёра і як фатографа. Прыяжджаюць у вёску і штурхаюць яго, маўляў, ідзі, разгавары людзей. Самім ім няёмка. І калі ён, спыніўшы дзядзьку ці цётку, распачынаў «общение», падцягваліся да іх і рэдактары з дыктафонам. Заўважу, што гэта былі не абы-якія рэдактары, і менавіта па размовы зь людзьмі выпраўляліся ў вандроўку. Але на месцы — нібы корак у горле, і рабі што хочаш.





Падобную гісторыю расказваў і знаёмы памежнік — пра тое, як ён на выезьдзе зь Беларусі сустракае відных беларускіх апазыцыянэраў і загаворвае зь імі пра пляны, пра будучыню, бо сам чалавек неабыякавы. Дык яны ад ягонае нязмушанае гаворкі страчваюць дар мовы або пачынаюць перашэптвацца: правакацыя, правакацыя! А што ж памежнікі — ня людзі? І місія ў іх — ахоўваць рубяжы роднае Беларусі. Загавары зь ім — і сам шмат чаго дазнаесься пра настроі людзей, якія — твой патэнцыйны электарат.

Мяне часам папракаюць, маўляў, «заклікаю да супрацоўніцтва з крывавым рэжымам», адзін нават напісаў, што клічу «братацца з лукашыстамі». Але я ня Ленін на браневіку, каб кагосьці заклікаць. І ніколі не пісаў пра супрацоўніцтва ці тым больш братаньне. Усё, што я магу ў сілу свае прафэсіі, — разважаць пра патрэбу кантакту й спаборніцтва зь цяперашняй уладай, пра неабходнасьць «общаться» зь людзьмі. Толькі вось слова такога ў беларускай мове няма...

### Чарнобыльскі Шлях у Астраўцы

Надоечы давялося паўдзельнічаць у размове двух студэнтаў, якія адносяць сябе да дэмакратычнага кірунку. «А чаму б, — разважаў

першы студэнт, — не перанесьці маштабныя апазыцыйныя мерапрыемствы ў правінцыю? Няхай бы ў кожным горадзе адбыўся свой Дзень Волі. А Чарнобыльскі Шлях трэба правесьці ў Астраўцы, дзе зьбіраюцца будаваць новую АЭС. І выглядаць там тры тысячы дэманстрантаў будуць выгадней, чым у Менску». На гэта другі студэнт адказаў: «Дык таму й не пераносяць у правінцыю, бо там цяжэй разьмінуцца з народам. Людзі ў нас неактыўныя, негатовыя, не зразумеюць дэманстрантаў. Спачатку зь людзьмі трэба размаўляць, тлумачыць сваю пазыцыю, і ня толькі тлумачыць, а дамагчыся разуменьня свае пазыцыі, толькі тады можна разьлічваць, што пратэст падтрымаюць. У Астраўцы можа й міліцыі не спатрэбіцца для разгону. А ў Менску вуліцы шырокія. Вы сабе дэманструйце, а мы пойдзем сваім шляхам».

Але як зрабіць сваю шчырасьць такой, якая й іншымі ўспрымаецца як шчырасьць? — гэта пытаньне. Можа быць, варта пачаць з таго, што знайсьці для расейскага «общения» свой, беларускі адпаведнік? Бо калі нешта ніяк не называецца, дык яго быццам бы і няма.





# Ы

## ЯК Ы РАЗУМЕЦЬ?

### Беларуска-расейскі саюз

Літара «ы» — адзінае, што ёсьць у беларускай і расейскай мовах і чаго ні ў якой больш мове няма.

Думаю, што б яшчэ такога ўнікальнага ды характэрнага толькі для нас і для іх лучыла нашы народы, і не знаходжу адказу. Зрэшты, і «ы» — злучальнік сумнеўны. Як беларуска-расейскі саюз.

«Ы» ніколі не стаіць на першым месцы, зь яго ніколі нічога не пачынаецца (яго парадкавы нумар у беларускім альфабэце 28, у расейскім — 29), і пішацца яно дзьвюма асобнымі часткамі, кожная зь якіх сама па сабе літара — «ь» + «і». Пра мэлёдыку лепш не казаць увогуле...

У адрозьненьне ад расейскай мовы, беларуская мае сваю традыцыю пісаньня лацінскім шрыфтам, у якім «ы» перадаецца літарай «y» (згадайце «Mužyckuju praŭdu» Кастуся Каліноўскага). А гэта значыць, што пры найменшым павароце Беларусі ў бок Эўропы, да эўрапейскіх

каштоўнасьцяў, усё, чым мы ахвяруем, — літара «ы», цёмная й невыразная, як сымбаль ня самых сьветлых часоў і ня самых мілагучных матываў нашай мінуўшчыны.



# Ь

## ЯК Ь-М РАТАВАЦЦА?

### «Зьвестак пра выкананьне прысуду няма»

Гартаючы справы рэпрэсаваных у сталінскія часы, не перастаю зьдзіўляцца адной заканамернасьці. Чым больш цяжкі прысуд, тым больш лёгкае стаўленьне да падсуднага з боку пракурораў, чэкістаў і публікі таксама. Мяркую паводле таго, як вяліся справы. Калі на цябе напісалі данос і «тройка» прысудзіла табе год ссылкі, або тры гады лягераў, або восем гадоў турмы, усе неабходныя «графы» ў тваёй справе будуць запоўненыя дакладна. Калі ж табе далі ВМП (расстрэл), нічога дзіўнага, калі тваё прозьвішча напішуць з памылкай, дата арышту ня будзе прастаўленая, а дата расстрэлу ня будзе ўказаная як правіла. Часты запіс: «Зьвестак пра выкананьне прысуду няма».

Падчас сталінскае навалы ў беларускай мове найбольш пацярпеў мяккі знак. Рэформа Савету Народных Камісараў 1933 году патрабавала «спрашчэньня» беларускага правапісу й «набліжэньня яго да расейскага». З таго часу

*сьнег*, *зьява*, *позьні* й яшчэ тысячы словаў у афіцыйным напісаньні істотна «спрасьціліся» й пацьвярдзелі. Правапіс змусіў да адпаведнага вымаўленьня — «снег», «з’ява», «позні» — і адпаведнага ўспрыманьня беларускай мовы як грубай, непрыгожай ці калхознай, што, у сваю чаргу,ператварылася ў гарадзкой публікі ў стэрэатып.

Зразумела, што мове ад усяго гэтага ні халодна, ні горача. Праблема ў людзях. Сымбаль мяккасьці беларускае мовы (а яна лічыцца другой паводле мяккасьці сярод эўрапейскіх моваў пасьля італьянскай) зьнішчаўся рэформай 1933 году гэтаксама, як з арсэналу этыкі тых гадоў выгняталася чалавечнасьць. Інакш кажучы, калі ты адпраўляесься на расстрэл, ты ўжо «адпрацаваны матэрыял», ты ўжо нікому нецікавы, ты проста нішто, сьмецьце.

Прынцып людзкасьці: чым большая ахвяра, тым яна важнейшая. А тут было наадварот. Расстраляць — «нічога ня значыла».

У афіцыйнай РБ улады ўсё яшчэ не адмежаваліся ад сталінскіх рэпрэсіяў, кагэбісты ўсё яшчэ з гонарам называюць сябе чэкістамі, гэта значыць, што ў галовах у іх нябачна прысутнічае тое самае: чым цяжэйшы прысуд, тым менш вартая ўвагі ахвяра. І мяккі знак, «ь», знак чалавечнасьці, усё яшчэ ня вернуты ў беларускую мову. Аднак калі ты, не чакаючы пастановы ўладаў, асудзіў сталінскія рэпрэсіі, калі незалежна ад сыстэмы лічыш сьмяротныя прысуды цяжкай ахвярай, значыць, ты ўжо сам «зьмякчыў» свой пагляд.



# Э

# Э

## ЯК ЭВАЛЮЦЫЯНАВАЦЬ?

**Зьменены чалавек — У чым прывабнасьць нашаніўства — Ці быць беларусам, кожны вырашае сам**

Як жыць, як любіць, як рабіць?.. Я насамрэч ня ведаю, як гэта ўсё адбываецца ў зьмененым часе, і толькі спрабую разгледзець пэўныя заканамернасьці ў навакольным жыцьці. Зразумела, што ў кожнага свой досьвед, але людзі, якія жывуць у адну эпоху, маюць і пэўную супольную этыку. А ці эвалюцыянуюць этыка і сам чалавек адносна таго, якімі мы іх ведалі ў даўнейшыя часы ды ў кнігах клясыкаў?

### Зьменены чалавек

Самі клясыкі найчасьцей падкрэсьлівалі, што — не, сутнасьць чалавечая не эвалюцыянуе. Леў Талстой, кажуць, напрыканцы дзён сваіх дзівіўся: столькі тоўстых кніг напісаў, а чалавек ня лепшае. Ці — Алаіза Пашкевіч, памятаеце? — «Дзевятнасьце сотняў, як Езус радзіўся. І за гэту пору мужык не зьмяніўся».

Пасьля гэтых выказваньняў мінула сто гадоў. Сёньняшні чалавек стаў больш тэхнічна аснашчаным і шчыльней сацыялізаваным за таго Цётчынага мужыка. Але пры гэтым у істоце сваёй — ва ўчынках і пачуцьцях — наш сучасьнік больш нагадвае пэрсанажаў анімалістычных тэлеканалаў. Можна з аднолькавым захапленьнем глядзець сэрыял пра сурыкатаў і сэрыял пра мэксыканскія любоўна-грашовыя ці расейскія мянтоўска-бандыцкія жарсьці — і паўсюль бачыць адны й тыя простыя матывацыі ды схемы паводзінаў.

Нормы этыкі застаюцца ўвогуле тыя самыя, іншая рэч, што больш прымітыўным у этычным вымярэньні становіцца чалавек. Ужо няма такіх складаных псыхалягічных драмаў, як трыццаць, пяцьдзесят, сто гадоў таму, і на ўроку не разьбіраюць, што б на месцы героя зрабіў ты. Мудрагелістасьць сышла ў інфраструктуру, а ў душы засталася арытмэтычная прастата.

## У чым прывабнасьць нашаніўства

Пра тое, што чалавек робіцца ўсё больш простым у этычным вымярэньні, сьведчыць поўны заняпад публікацыяў «на тэмы маралі» і ўвогуле адсутнасьць увагі да этыкі.

У свой час я задаўся пытаньнем: у чым прыцягальная сіла «Нашае Нівы» — газэты, якая стварыла беларускую нацыянальную ідэю? Ну не ў барацьбе ж супраць чорнае сотні або за вызваленьне сельскага пралетарыяту. Апошняй барацьбой маё пакаленьне было літаральна перакормленае на ўсіх ступенях адукацыі.

Адказ на гэтае пытаньне знайшоўся ў артыкуле сучасьніка той першай «Нашай Нівы». Ён пісаў:

«Перад намі, як бачым, зьява нечувана цікавая: перараджэньне рэвалюцыйна-грамадзкага руху ў рух нацыянальны. І гэтая трансфармацыя адбываецца незалежна ад волі яе ініцыятараў. Сацыялістычны агітатар ішоў «у народ» абуджаць нянавісьць да пана і пратэст супраць дзяржаўнага ўладкаваньня... Сеяў нянавісьць да іншых, а ўзышла зь яе любоў больш сьвядомая да сваіх».

Што гэта значыць? Тое, што беларуская ідэя ў інтэрпрэтацыі нашаніўцаў была найперш ідэяй этычнай. І гэты яе зарад рабіў і робіць беларушчыну прывабнай на працягу ўсяго мінулага стагодзьдзя, аж да сёньняшніх дзён. Ён кліча да лепшага жыцьця і вынікае з народнае мудрасьці — няважна, якой ты нацыянальнасьці, абы чалавек быў добры. Ён яднае вакол беларускай ідэі і багатых і бедных, і левых і правых, і пасьпяховых і лузэраў з фрыкамі. І так будзе заўсёды, калі беларушчына ня страціць свайго этычнага зараду.

Калі ж адбываецца наадварот — пачынаецца дзяленьне людзей паводле якіх заўгодна прыкметаў на нашых і нянашых, беларушчына зараз ператвараецца ў садзьмуты балён — не ўздымаецца ў неба і вока ня радуе.

## Ці быць беларусам, кожны вырашае сам

Нацыянальнае ўсьведамленьне беларуса дае магчымасьць найпаўней раскрыцца ягоным чалавечым якасьцям. Але, будучы беларусамі ад нараджэньня, мы выбіраем, ці быць нам белару-

самі, ці кімсьці іншым, ці проста нікім. Маючы зададзенасьць сям'і і ўлады на веравызнаньне, мы ўсё адно яго выбіраем паводле ўласных адчуваньняў таго, што нам бліжэй. Нарэшце, мы выбіраем прафэсію — не халтуру, якую будзем усё жыцьцё цынічна рабіць адно дзеля грошай, а работу, якая будзе нам па душы і ад якой будзе карысьць.

Гэты выбар — этычны. І, робячы яго, мы этычна эвалюцыянуем — кожны сам па сабе. Але праз гэты пэрсанальны выбар мы становімся народам, які здольны будзе некалі зрабіць і выбар супольны.

# Ю

# Ю

## ЯК ЮЗАЦЬ?

**Этыкі ў сеціве ня больш, як у гульнёвым аўтамаце**

Іншы раз і сапраўды здаецца, што сеціва — гэта новая рэальнасьць са сваёй мовай ды этыкай, а таму заклікі да перамяшчэньня беларушчыны ў віртуальны сьвет не такія ўжо наіўныя. Быццам усе сьвядомыя выехалі на няжылую выспу і там стварылі сваё суладнае беларускае жыцьцё. Некаторыя яшчэ толькі зробяць для сябе такое адкрыцьцё «акіяну неабмежаваных магчымасьцяў» і яшчэ толькі рынуцца ў яго з галавой.

Між тым, усялякае масавае захапленьне рана ці позна сканчаецца. Я ведаю шмат «старых юзэраў», якія ўжо зразумелі гэта. Інтэрнэт — ня новая рэальнасьць, а толькі новая рэалія, ён ня мэта, а сродак, прылада, інструмэнт. І пагражае ўвабраць у сябе ўсё на сьвеце з такім самым нахабствам, зь якім фатаграфія ў свой час прадказвала канец жывапісу, або кіно — канец тэатру, або тэлевізія — канец кіно, тэатру й газэтаў з часопісамі.

Вядома, у выніку нешта інтэрнэт адкусіць ад гэтага пірага, бо сьвет даўно падзелены. Ахвярамі сеціва стануць слоўнікі, даведнікі, энцыкляпэдыі. Але ня ўсе. У інтэрнэт перамесьцяцца бібліятэкі-фільматэкі-фанатэкі. Але ня цалкам. Ляснуцца штодзённыя газэты. Але толькі тыя, што выходзяць у жанры дайджэсту. Словам, усё, што тычыцца дапаможнае інфармацыі. Падставовая інфармацыя будзе існаваць на сваіх носьбітах: паэзія і проза — у часопісах і кнігах, нацыянальная супольнасьць, мова і культура — у рэальным жыцьці, як і этыка, якую сёньня інтэрнэт выпрабоўвае сваімі падступнымі мэтадамі — ананімнасьцю, глухатой, умоўнасьцю дачыненьняў.

Насамрэч этыкі ў сеціве ня больш, як у гульнёвым аўтамаце — «аднарукім бандыце». Каб зразумець гэта, дастаткова адвярнуцца ад манітора.



# Я

## ЯК ЯДНАЦЦА?

**Футбол бяз поля пад нагамі — Дачакацца спрыяльнага Заўтра — «Кактусаводы» ідуць у палітыку — Водазабор**

Яго нельга інсьпіраваць. Можна толькі падтрымаць, умацаваць, пашырыць або — згубіць. Але ўзьнікае яднаньне само.

Ты скажаш: а якое дачыненьне палітычная партыя парлямэнцкага тыпу мае да трох сяброў-кактусаводаў у Пухавіцкім раёне? Ці да групы маладых людзей, якія штолета ходзяць на байдарках па Страчы? Ці да тых, што разам займаюцца фатаграфіяй або стварылі ў сябе ў мястэчку тэатар?..

Калісьці беларускі рух за перабудову БНФ і паўстаў з такога аб'яднаньня аматараў, падарожнікаў, краязнаўцаў з усёй Беларусі.

### Футбол бяз поля пад нагамі

А сёньня, праз дваццаць гадоў, мы спытваем у сябе: чаму масавы некалі народны рух цяпер — і ня масавы, і не сказаць, каб народны.

У краінах Балтыі колішнія рухі даўно ператварыліся ў партыі парлямэнцкага тыпу. Нешта падобнае адбылося і з БНФ. Гэта заканамерны працэс. Палітыка — іншая сфэра. Сама па сабе яна не ўключае фэномэну яднаньня. Створаныя гэтым фэномэнам рухі ператвараюцца ў партыі тады, калі дасягаюць парлямэнту й надзейна займаюць свой пляцдарм у грамадзтве. Далей яднаньня й не патрабуецца, пачынаецца гульня — прынцыпаў, інтарэсаў, амбіцыяў.

Вось жа БНФ сёньня і гуляе ў такую гульню, ня маючы надзейна занятага пляцдарму. Быццам футбалісты працягваюць матч, а поля пад імі няма.

З аднаго боку, нібыта, добра, што ў нас ёсьць палітычныя партыі, і калі настане спрыяльнае Заўтра, «раптам» акажацца, што мы нармальная краіна, нічым ня горшая за суседнія. Нашы партыі выйдуць на справядлівыя выбары, іх фракцыі сфармуюць парлямэнт, кааліцыю, урад...

## Дачакацца спрыяльнага Заўтра

Зь іншага боку, цяжка сказаць, колькі часу можа чакаць партыя, пазбаўленая пляцдарму і — у сілу прыроды сваёй — фэномэну яднаньня. Ясна толькі, што з кожным годам яна страчвае актывы, якія былі нажытыя яе папярэднікам-рухам. Гэта і масавасьць, і аўтарытэт, і энтузіязм. А сама па сабе партыя, пазбаўленая пляцдарму, нажываць такія актывы ня здольная.

Калісьці ў БНФ хітра задумалі ўнутраны распадзел на рух і партыю. Два ў адным, head & shoulders, галава і плечы. Гэта быў 1993 год.





Многія тады не зразумелі такога рашэньня, асабліва тыя, хто пабойваўся тагачаснае Сёньня прызнаць за спрыяльнае Заўтра і таго, што партыя зь яе жорсткімі рэгуламі й гульнёй інтарэсаў непазьбежна праглыне рух зь яго фэномэнам яднаньня.

Мяне сярод гэтых празорцаў не было. Я разважаў як большасьць: як ісьці ў афіцыйную палітыку бяз партыі? У наступныя гады, калі БНФ зазнаў выгнаньне з афіцыйнай палітыкі й татальны наступ з боку рэжыму, таксама падавалася, што партыйная структура найлепшым чынам надаецца для таго, каб выжыць ва ўмовах прэсінгу.

Ну, а пасьля мінула 15 гадоў. І наўрад ці нехта скажа, што час папрацаваў на БНФ, а ня супраць яго.

Такія справы.

Фронт за гэтыя гады страціў ня ўсё, але самае істотнае — фэномэн яднаньня. Узьнікшы з тысяч ручаінак нефармальнага руху — з «клюбаў кактусаводаў», як іх тады іранічна называлі, — магутная рака Фронту змагла зьнесьці камуністычную плаціну, але ўтрымаць пляцдарму ня здолела.

## «Кактусаводы» ідуць у палітыку

Як выглядае генэзіс яднаньня?

Вось мы тусуемся па горадзе, музыку слухаем, проста сябруем. Такіх, як мы, тысячы. Паміж намі — яднаньне. І тут да нас залятае флюід — да прыкладу, песьняроўская «Спадчына» — на канцэрце. Мы спрачаемся, прасякаемся, а ўрэшце

пастанаўляем міжсобку гаварыць па-беларуску. Гэта ня толькі арыгінальна й блізка да душы, але й абяцае нейкі неймаверны яркі працяг. І наша яднаньне набывае больш акрэсьлены выгляд, цяпер яно адрозьніваецца ад таго, што яднае іншых.

Мы пачынаем вычуваць супольную місію. А адсюль — натуральнае жаданьне ўсякага місіянэра й іншых павярнуць «у сваю веру». Так нас становіцца болей, а наша яднаньне патрабуе, каб мы ўвасобілі яго ў нейкія формы. Мы ствараем свой рок-гурт або свой тэатар, клюб, сайт, флэш-моб... Але яднаньне прагне разрасьціся яшчэ шырэй. І мы знаходзім кантакт зь іншымі клюбамі, тэатрамі, сайтамі... З гэтага вырастае яшчэ большая супольнасьць тых, хто гаворыць па-беларуску, слухае сваю музыку і як магніт прыцягвае ў сваё кола ўсё болей людзей.

Гэта быў нейкі цуд! Прыходзіш у Зэльву да Ларысы Геніюш, ці ў Гудзевічы да Алеся Белакоза, ці ў Вільню да Зоські Верас... і ты свой. Першы раз бачаны — свой. Ніякіх пытаньняў ці рытуалаў. І яны, пра каго столькі чытана і чута-перачута, — свае.

Новая супольнасьць адчувае сваю прысутнасьць ва ўласнай краіне і пачынае ставіць перад сабой ужо ня толькі «кактусаводчыя», але й грамадзкія задачы.

Трэба захаваць менскі Верхні горад; адрадзіць масава народныя сьвяты Каляды, Гуканьне Вясны, Купальле; напоўніць беларускую літаратуру папулярнымі сучаснымі жанрамі, каб чытаў увесь народ; сабраць у жыхароў мікрараёну подпісы за адкрыцьцё беларускае школы...





І вось тут наша яднаньне натыкаецца на ўладу, на недэмакратычнае ўладкаваньне, на немагчымасьць сумленных выбараў, на цэнзуру і г. д. І тады адбываецца выхад у палітыку.

Мы пратэстуем супраць разбурэньня будынку першае менскае Опэры, супраць абвалаваньня Прыпяці і затапленьня ў Падзьвіньні, супраць замоўчваньня праўды пра сталінскія рэпрэсіі...

Апісаны сцэнар зьдзейсьніўся ў Беларусі напярэдадні 19 кастрычніка 1988 году. Вянцом яго стала стварэньне Аргкамітэту БНФ. Фронт і ўвасобіў у сабе тую раку агульнага яднаньня, куды сьцякліся тысячы нашых яднаньняў.

## Водазабор

Яднаньне й сёньня праяўляецца ў Беларусі. Але толькі ў той «кактусаводчай» стадыі — у рок-гуртах, сайтах, флэш-мобах ці нават проста — у сяброўскай тусоўцы. Плошча 2006 году пацьвердзіла, што гэты імпульс не перасякаецца з палітыкай наўпрост. Ад яго яшчэ не перакінуты масток да кантэксту гульні інтарэсаў, прынцыпаў, амбіцыяў. Калі яго да гэтага змушаюць, ён зарываецца й прападае.

Якое месца ў новым «водазаборы» тысяч ручаінак адыграе БНФ і ці можа ён тут нешта зрабіць? Ня ведаю. Што як партыя нічога ня зробіць — гэта факт. У пэўным сэнсе трэба ўсё пачынаць спачатку. Але сапраўднае яднаньне інсьпіраваць немагчыма — вось у чым праблема. Можна толькі падтрымаць, умацаваць, пашырыць тое малое й слабое, што ўзьнікла само. Або — згубіць.

Думаю, апісаная схема «водазабору» характэрная для Беларусі й будзе паўтарацца ў розных варыяцыях і з розным посьпехам і далей.

Малыя суполкі робяць малую справу, а як злучаюцца разам, становяцца грамадзка-палітычнай сілай, што спрабуе заняць свой плацдарм.



# ЯК АДКАЗВАЦЬ?

## Пасьляслоўе рэдактара

Некалі, у самы разгар «перастройкі», у тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва» разгарнулася палеміка. У межах яе газэта апублікавала ліст вядомага палеміста, які рэзка скрытыкаваў як усіх удзельнікаў дыскусіі, так і пазыцыю рэдакцыі. У адказ «ЛіМ» надрукаваў рэдакцыйны артыкул пад назвай «Як жыць, Іван Іванавіч?» (імя аўтара замяняю на ўмоўнае). Многім тады, у тым ліку і мне, назва падавалася дасьціпнай. Іронія тут відавочная. «Як жыць, Леў Мікалаевіч?..» — так пачыналіся шматлікія лісты, што атрымліваў на пачатку мінулага стагодзьдзя граф Леў Талстой з усіх куткоў Расейскай імпэрыі і з-за яе межаў. Але ж тая іронія з вышыні сёньняшняга дня выглядае недарэчнай.

Тэорыю непраціўленьня злу гвалтам, пра якую казаў Талстой, амаль забылі. Хаця Махатма Гандзі, які прапаведаваў тую самую тэорыю, напалягаючы на тым, што непраціўленьне павінна быць актыўным і салідарным, дамогся ўрэшце вызваленьня Індыі. А вось у Расеі гандызм не прышчапіўся. Насуперак «люстэрку расейскай рэвалюцыі», як назваў Талстога Ленін, правадыр пралетарыяту лічыў, што ён ведае адказы на ўсе пытаньні. Напрыклад — «Як арганізаваць сацыялістычнае спаборніцтва?», «Як нам рэарганізаваць *рабкрин*?». І правадыр без ваганьняў вырашаў праблемы — гвалтам.

У выніку такой вось марксісцка-ленінскай філязофіі расейскі народ — як і беларускі, і іншыя, што склалі «новую гістарычную супольнасьць» савецкіх людзей, — апынуўся ў глыбачэзнай яміне, выкараскацца адкуль дагэтуль ня можа.

Прычым размова тут не пра эканамічнае ці сацыяльна-палітычнае вымярэньне гэтай гістарычнай яміны, але, найперш, пра маральнае.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, сёньня 60 адсоткаў насельніцтва Беларусі — актыўныя вернікі, ходзяць у бажніцу. Зь іх 80 адсоткаў — праваслаўныя і каля 12 — каталікі. Паводле МУС РБ, у ноч на праваслаўны Вялікдзень 2009 году цэрквы наведалі звыш 900 тысяч чалавек. Гэта прыкладна кожны дзясяты жыхар краіны (за выключэньнем састарэлых і цяжка хворых). А празь дзевяць дзён усе тыя праваслаўныя людзі, што ўдзельнічалі ў велікоднай імшы, паехалі на клады, дзе паклалі на магілы продкаў яйкі, яблыкі, цукеркі, паставілі келіхі зь віном ці гарэлкай, пілі й елі — у поўнай адпаведнасьці з паганскімі звычаямі. То бок, мы маем справу з двухвер'ем. Можна згадаць тут і «Дзьве душы» Гарэцкага, і шмат чаго яшчэ дваістага ў жыцьці беларусаў.

І гэта ня самае горшае. Пераважная большасьць людзей карыстаецца ў жыцьці не маральнымі запаветамі, але практычным розумам. Яго яшчэ можна назваць спрытным розумам, альбо зусім проста — хітрасьцю. Гэтая самая хітрасьць дае магчымасьць выжыць і нават пачувацца няблага. З дапамогай спрытнага розуму, ці, калі хочаце, разважнага сэнсу, можна ўзьбіцца на вялікія грошы, можна купіць хату, аўтамабіль, выгадна ажаніцца, ніколі не сварыцца з начальствам і зь цешчай, выправіць дзяцей вучыцца на філфак БДУ — вывучаць там пэрспэктыўную кітайскую мову — ці вучыцца за мяжу. Ён, гэты розум, не дае толькі адказу на пытаньні — як адбыцца, як бараніцца, як любіць?..

У кніжцы Сяргея Дубаўца, якую вы толькі што прачыталі, ёсьць эсэ «Як хітраваць?», якое, уласна кажучы, і натхніла мяне як рэдактара на напісаньне гэтага пасьляслоўя.



Было б наіўна меркаваць, што аўтар кнігі ведае адказы на ўсе пытаньні і можа навучыць астатніх, як жыць. Гэта ня зборнік інструкцыяў. І не пералік біблійных ісьцінаў.

Неабавязкова з усімі адказамі згаджацца. Але ўжо тое, што аўтар задаецца так званымі адвечнымі пытаньнямі, разглядаючы іх скрозь прызму сучаснасьці, заслугоўвае павагі. Ужо хоць бы таму, што гэтымі пытаньнямі беларускае грамадзтва сёньня амаль не задаецца, ня хоча іх чуць, а тым больш шукаць на іх адказ. Але яны абавязкова паўстануць (ужо стаяць) перад краінай, перад нацыяй, перад кожным з нас.

Зрэшты, кожны чытач можа прапанаваць свой адказ на любое з трыццаці васьмі пытаньняў, пастаўленых аўтарам.

Некалі ў старажытнай Японіі нарадзілася «мастацтва вайны» — звод правілаў, які дапамагаў самураям эфэктыўна весьці баявыя дзеяньні й перамагаць. Прычым, мастацтва гэтае вымагала ня толькі валоданьня халоднай зброяй, веданьня тэхнікі двубою або стратэгіі й тактыкі, але і пэўных этычных правілаў. Гэтак жа і майстэрства публіцыста грунтуецца ня толькі на эрудыцыі й літаратурным валоданьні словам, але ж і на ўменьні задаваць пытаньні, кіруючыся маральным выбарам.

Кніга Сяргея Дубаўца нагадвае нам, што правільна пастаўленае пытаньне ўтрымлівае ў сабе палову адказу.

Другая палова — за чытачом.

*Віталь Тарас*

# Пра аўтара



Сяргей Дубавец, пісьменьнік, літаратурны крытык, выдавец. Нарадзіўся 17 верасьня 1959 у горадзе Мазыры. Гадаваўся й вучыўся ў Менску. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Служыў у войску. Галоўны рэдактар газэтаў «Свабода» (1990—1991) і «Наша Ніва» (1991—2000), радыё «Балтыйскія Хвалі» (2000—2001), аўтар перадачаў на Радыё Свабода (з 1997). Кнігі: «Практыкаваньні» (1991), «Русская книга» (1997, другое выданьне 2009), «Дзёньнік прыватнага чалавека» (1998), «Вострая Брама» (2005), «Вершы» (2007). Электронны адрас: dubaviecs@gmail.com.



# Summary

**How — The A-Z Guide of Ethical Survival in Dictatorships**

A compilation of provocative essays on how to behave ethically in contemporary authoritarian Belarus.

Exploring issues from how to Abide to how to Zigzag and everything in between, the author reflects on how people's understanding of moral standards bends based on the time and conditions in which they live.

Liberty Library is a repository of selected programs produced by Radio Liberty/Radio Free Europe's Belarus Service.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.




**Дарога
праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty:
Reflections for
Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка
беларускай літаратуры
ў этэры Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004.




**Дуліна
ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА
ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская
Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—
25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2008. — 144 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2009. — 430 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2009. — 364 с.: іл.